


# Літаратура і мастацтва

**газета творчай інтэлігенцыі Беларусі**

30 САКАВІКА 2001г. № 13/4097 КОШТ 121 РУБ.





*"У час цяжкі, у момант паваротны".*
*Дантэ*

*Фота А. ПРУПАСА*



## КОЛА ДЗЁН

***Апошні тыдзень сакавіка быў не скупы на падзеі, і многія з іх даюць добрую спажыву для роздуму. Ды, на жаль, найперш для роздуму сумнага, журботнага, часам горкага. Бо жыццё наша ўсё аніяк не хоча ўсталёўвацца, выкочвацца на грунтоўныя, надзейныя рэйкі цывілізаванага развіцця, пракладзеныя і з поспехам апрабаваныя цягам дзесяцігоддзяў іншымі народамі і краінамі. Бо мы ўсё яшчэ жывём — які год запар! — у падвешаным стане, аніяк не можам выкараскацца з так званага пераходнага перыяду.***

***Міжволі з жалем згадваецца гадзіна, якую ў нас ціха, непрыкметна "ўкралі" таксама на гэтым тыдні — у ноч з 24 на 25 сакавіка, абавязаўшы перавесці стрэлкі гадзіннікаў на летні час. Мала што можна зрабіць за гадзіну. Але ж затое можна было б добра-такі падумаць. Падумаць аб тым самым нашым горкім і неўладкаваным жыцці-быцці і зразумець урэшце, што сапраўды дэмакратычнае грамадства могуць пабудаваць толькі свабодныя, разняволеныя людзі, пазбаўленыя шораў і путаў таталітарных рэжымаў. Яно, вядома, наіўнае шкадаванне, аднак чамусьці ўсё ж шкада тае непрыкметна знікшай гадзінкі — як птушачак у тэлевізійнай рэкламе...***

***А паслязаўтра — так званы Дзень смеху і вясёлых падманаў, якія, дарэчы, шмат дзе называюць проста Днём дурня...***

### *УЛАСНІКІ ТЫДНЯ*

Мы па звычцы плачамся: бедныя, бедныя... А між тым, бедныя з нас далёка не ўсе. Аказваецца, больш як 32 тысячы чалавек у нашай усё ж невялікай краіне маюць ва ўласнасці ад дзвюх кватэр і болей. Палова гэтай колькасці ўласнікаў-багацеяў — жыхары Мінска. Рэшта размеркавана па Беларусі досыць нераўнамерна. Найбольш шматкватэрнікаў чамусьці ў самай беднай нашай вобласці — Магілёўскай (каля 5 тысяч). Па 4 тысячы — у Брэсцкай і Віцебскай абласцях. У Мінскай — каля паўтары тысячы. У Гомельскай вобласці — 0,7 тысячы; паўплывала, відавочна, радыяцыйная забруджанасць. А вось чаму на Гродзеншчыне шматкватэрнікаў усяго паўтысячы — зразумець цяжка. Міжволі згадваецца багушэвічаўскае: Бог не роўна дзеліць...

### *ТЫСЯЧНІКІ ТЫДНЯ*

Калісьці, ужо ў даўнія пасляваенныя гады, дзеля ўздыму калгасаў і саўгасаў у вёскі пасылаліся з гарадоў так званыя 25-тысячнікі. Сельскую гаспадарку яны, вядома, не паднялі, аднак жа многія з іх паспелі разбагацець за кошт згалелай вёскі — скажам, пабудаваць неблагія па тым часе дамы і пасля перавезці іх у райцэнтры і большыя гарады. Зараз *сітуацыя ў сельскай гаспадарцы амаль такая ж безнадзейная, як і пасля* вайны. Набліжаецца пара сяўбы, а — працаваць у вёсцы няма каму. Тэрмінова трэба пасылаць туды прыкладна 12 тысяч механізатараў. Вось і была прыгадана колішняя традыцыя. Па рашэнні аблвыканкамаў гэтай вясною для ўдзелу ў пасяўной будуць прыцягнуты рабочыя прамысловых прадпрыемстваў, якія маюць пасведчанні механізатараў, а таксама выпускнікі прафтэхвучылішчаў, студэнты старэйшых курсаў і навучэнцы тэхнікумаў сельскагаспадарчых накірункаў. Грэшна, вядома, пакідаць зямельку незасеянай. Як кажуць, Бог не даруе. Але, як пісаў паэт, усё ж, усё ж, усё ж... Пасылалі пасля вайны, пасылалі ў пяцідзесятыя і шасцідзесятыя, пасылаем сёлета. Пашлём і налета?

### *СЯМІТЫСЯЧНІЦЫ ТЫДНЯ*

Гэтая намінацыя проста папрасілася стаць побач з папярэдняй. Паходжанне яе таксама сельскагаспадарчае. У аграпрамкамбінаце "Сноў", што на Нясвіжчыне, падвялі вынікі працы жывёлаводаў у 2000 годзе. У сярэднім па гаспадарцы надоена ад каровы па 6380 кілаграмаў малака. А лідэры — аператаркі машыннай дойкі Марыя Іванаўна Рацкевіч і Вольга Аляксандраўна Гаспадыніч пераступілі сямітысячную мяжу, надаіўшы адпаведна па 7121 і 7084 кілаграмы малака ад кожнай са сваіх рагуляў. Хвала і слава ім! Аказваецца, можам і мы, не толькі нейкія там галандцы ды немцы! А чаму можам? Ды, хутчэй, за ўсё, таму, што "Сноў" — не калгас і не саўгас, а — аграпрамкамбінат. Яшчэ больш дакладна — рынкавая гаспадарка, дзе й вынікі — у залежнасці ад працы, і заробкі — таксама ў залежнасці ад працы.

### *НЕЛЕГАЛЫ ТЫДНЯ*

Старшыня Дзяржкамітэта пагранічных войскаў Аляксандр Паўлоўскі паведаміў на семінары, прысвечаным праблемам незаконнай міграцыі, што зараз на Беларусі знаходзіцца больш як 100 тысяч нелегалаў. Лічба — велізарная: на 100 нашых грамадзян — адзін чужынец, прытым незаконны. Аднак страшная яна не сама па сабе, а ў сувязі з тым, што незаконныя мігранты — гэта гандаль наркотыкамі і нават людзьмі, крадзяжы аўтамашын і збыт культурных каштоўнасцяў, разбоі, рабаванні і іншыя злачынствы. Само сабою, беларускія памежнікі вядуць з незаконнай міграцыяй актыўную барацьбу. І, як распавядаў на семінары спадар Паўлоўскі, досыць эфектыўную. Само сабою таксама, што дзеля гэтага трэба аб'ядноўваць намаганні іншых краін, найперш суседніх. Аднак жа відавочна і тое, што пераважная большасць незаконных мігрантаў прыбывае ў Беларусь з Расіі, скарыстоўваючы адсутнасць мяжы між нашымі краінамі. Таму і вырашэнне гэтай няпростай і нялёгкай для Беларусі праблемы залежыць найперш ад нашай вялікай усходняй суседкі. Інакш сітуацыя ў нас будзе заставацца ранейшай: лавіць нам нелегалаў не пералавіць...

### *ПРЫЗНАННЕ ТЫДНЯ*

"Учора ў Мінску пад старшынствам расійскага прэм'ера Міхаіла Касьянава адбылося чарговае пасяджэнне Савета Міністраў Саюзнай дзяржавы. Разгледжаны шэраг важных пытанняў дзяржаўнага будаўніцтва, прыняты нібы патрэбныя і карысныя рашэнні. Але ўсё-такі не пакідае адчуванне, што на такіх сустрэчах пасля нязменных усмешак і запэўніванняў у дружбе абмяркоўваюцца нейкія перыферыйныя тэмы, а для рашэння самых асноватворных праблем, што тычацца стварэння роўных умоў суб'ектам гаспадарання абедзвюх краін, пераходу на адзіную валюту і г. д., у расійскага боку проста не хапае палітычнай волі. Акурат таму вось ужо пяць гадоў заяўленыя прынцыпы яднання нашых брацкіх народаў у значнай ступені застаюцца дэкларатыўнымі, а практычныя меры па іх ажыццяўленні прабуксоўваюць". Гэты каментарый "Белорусской нивы" за 28 сакавіка г. г. спараджае, бадай, толькі адно пытанне: а ці трэба з гэтае нагоды сумаваць? Мо й добра, што справа ідзе няспешна? Паспех тут можа быць людзям не толькі на смех, але й на бяду...

### *АБСУРД ТЫДНЯ*

Газета "Народная воля" за 27 сакавіка згадала такі факт. Пад Новы — 2000 — год наш вядомы рэкардсмен Вячаслаў Харанека ставіў свой чарговы рэкорд: 36 гадзін запар падымаў над галавой кег з півам вагою 40 кілаграмаў. Спонсарам мерапрыемства была газета "Наша свабода", таму на грудзях у спартсмена, натуральна, і быў лагатып газеты. І што? *На экранах тэлевізараў многіх краін свету гэты рэкорд быў засведчаны,* а БТ прыехала на здымкі, ды здымаць не стала, адпудзілі гэтыя словы "Наша свабода" на майцы В. Харанекі. Ці ж не абсурд? На жаль, з абсурдамі такога плана мы страчаемся ці не штодня і паўсюль.

### *МЯДЗВЕДЗІ ТЫДНЯ*

Пра гэта паведаміла "Звязда". Не як пра паляўнічую байку, а як пра самы бясспрэчны факт: у Гродзенскім раёне заўважылі мядзведзя, прытым не аднаго, а хутчэй за ўсё — мядзведжую пару. І раней назіраліся выпадкі з'яўлення мядзведзяў у іншых рэгіёнах, акрамя Бярэзінскага запаведніка, дзе яны прыжыліся стала. Але то былі акурат выпадкі. А гэтым разам мясціну на Гродзеншчыне мядзведзь (ці мядзведзі) выбралі для зімовай спячкі. Мо гэта добры знак? Знак на наша ўсебеларускае адраджэнне?

# У Саюзе беларускіх пісьменнікаў

## З'езд — 29 мая!

Адбылося першае пасяджэнне камісіі па падрыхтоўцы 13-га з'езда пісьменнікаў. У камісію ўвайшлі кіраўнікі саюза, старшыні творчых секцый, рэдактары літаратурна-мастацкіх выданняў, дырэктары выдавецтваў "Мастацкая літаратура" і "Юнацтва", сакратары абласных аддзяленняў.

Пасяджэнне камісіі адкрыла в. а. старшыні СБП Вольга Іпатава. З паведамленнямі выступілі таксама намеснікі старшыні Навум Гальпяровіч і Уладзіслаў Мачульскі. У абмеркаванні пытанняў падрыхтоўкі да з'езда прынялі ўдзел У. Ліпскі, М. Мятліцкі, В. Блакіт, У. Гніламёдаў, В. Ткачоў, А. Каско, Г. Каржанеўская, А. Вольскі, Я. Каршукоў, Л. Левановіч і інш.

Вырашана правесці 13-ы з'езд пісьменнікаў у аўторак, 29 мая 2001 года. З'езд павінен абмеркаваць справаздачны даклад, з якім рада даручыла выступіць в. а. старшыні СБП В. Іпатавай, даклад рэвізійнай камісіі, справаздачу старшыні Літфонду, выбраць кіруючыя органы саюза. Утвораны падкамісіі па падрыхтоўцы да пісьменніцкага форуму: па арганізацыйных пытаннях (пад старшынствам Н. Гальпяровіча), па падрыхтоўцы змен у статут (пад старшынствам У. Мачульскага), па прыёме прапаноў ад пісьменнікаў па арганізацыі і правядзенні з'езда, якую ўзначаліў М. Мятліцкі, па пытаннях справаздачы Літфонду (на чале з Я. Каршуковым).

Камісія прапанавала для ўсіх жадаючых анкету з 2-х пытанняў: 1. "Як вы лічыце, трэба ўдасканаліць работу нашай творчай арганізацыі?" і 2. "Каго вы бачыце ў кіраўніцтве Саюза беларускіх пісьменнікаў". Адказы на анкету, якая будзе разаслана сябрам творчай арганізацыі, можна падаваць на адрас Саюза пісьменнікаў або ў газету "Літаратура і мастацтва".

Камісія па падрыхтоўцы 13-га *з'езда будзе збірацца рэгулярна,* не радзей, як два разы на месяц у Доме літаратара.

**Н. К.**

## "Апавяданне... год 2000-ы"

Беларускае апавяданне... Па сутнасці, яно заўсёды было пад пільнай, спагадлівай увагай крытыкі і зычлівага чытача. Не раз узнікала зацікаўленая размова на старонках нашых выданняў пра адметнасць гэтага "аператыўнага" жанру прозы малой формы, які першым адгукаецца на актуальныя і надзённыя праблемы сённяшняга часу. Але памылкова было б лічыць, што літаратар у апавяданні можа дазволіць сабе толькі абазначыць, назваць надзённую тэму з прычыны адсутнасці жанравай прасторы, пакідаючы права на больш грунтоўнае і панарамнае ўзнаўленне жыцця рамана. На самай справе ніхто не пазбаўляе аўтара апавядання магчымасці глыбока пранікаць у складаныя жыццёвыя з'явы і працэсы, сведкам якіх ён з'яўляецца, і сілай мастацкага слова несці людзям святло праўды, весці пошук сапраўдных маральных каштоўнасцей рэчаіснасці. Вось толькі як, на якім мастацкім узроўні сённяшні аўтар — апавядальнік вядзе размову са сваім чытачом, куды яго заве і ці заве наогул, ці валодае ён дастатковым майстэрствам, пэўным талентам, каб укласці перажыты і асэнсаваны ім факт, учынак, матэрыял у сціслую форму апавядання?

Менавіта з такой прынцыповай пазіцыі вялі нядаўна гутарку нашы крытыкі і празаікі за "круглым сталом" у Доме літаратара.

*Уступнае слова* зрабіў старшыня секцыі крытыкі і літаратуразнаўства Міхась Мушынскі. Ён заклікаў прысутных выказацца па ўсіх аспектах агульнага стану беларускага апавядання, прасачыць за яго рухам у нашай літаратуры, вызначыць асноўныя напрамкі яго развіцця.

У гутарцы прынялі актыўны ўдзел навуковыя супрацоўнікі Інстытута літаратуры НАН, пісьменнікі Васіль Жураўлёў, Генадзь Шупенька, Іван Кудраўцаў, Віктар Праўдзін, Ірына Шаўлякова, Пятро Васючэнка, Анатоль Казлоў, Уладзімір Саламаха, Яўген Каршукоў, Навум Гальпяровіч.

Цікавымі і змястоўнымі былі прамовы Ігара Шаладонава, Ірыны Шаўляковай, Таццяны Дасаевай, Пятра Васючэнкі, Святланы Калядкі і іншых выступоўцаў. Надаючы належнае ўплыву нацыянальных традыцый у беларускай мастацкай прозе на сучаснае апавяданне, яны звярнулі ўвагу на пэўныя хібы маладой нашай прозы і яе набыткі.

Асабліва адметным у гэтым сэнсе быў прынцыповы і досыць прафесійны агляд прозы малой формы, што была змешчана на старонках часопіса "Першацвет" у 2000 годзе. Яго зрабіла Святлана Калядка. Яна станоўча адзначыла невялікую аповесць Ніны Мяцельскай "А май шумеў...", прысвечаную падзеям Вялікай Айчыннай вайны. На першым плане ў гэтым творы — трагедыя чалавечага існавання. Нягледзячы на тое, што аб вайне напісана шмат, аўтарка знайшла менавіта свой шлях у развіцці знаёмай тэмы, паказе герояў.

Праблема маральнай адказнасці чалавека за ўсё жывое на зямлі ўзнімаецца ў апавяданні Наталлі Сазонавай "Лісянё". Яно заслугоўвае пэўнай ўвагі чытача. Але ж шэраг апавяданняў, змешчаных у "Першацвеце", па сцвярджэнні Святланы Калядкі, трапілі на старонкі часопіса толькі па адной простай прычыне — каб "нечым шакіраваць, здзівіць чытача, прычым, не дасягненнямі, а хутчэй адмоўным: безаблічнам, адсутнасцю маральных імператываў у паводзінах і ўчынках герояў, адсутнасцю ідэі ўвогуле і г. д." Да іх ліку крытык адносіць апавяданні Юрася Халіманкова, Ягора Конева пра студэнцкае жыццё, дзе культывуюцца агідныя п'янкі. Мажліва, такія апавяданні змяшчаюцца ў выданні, каб на адмоўным навучыць станоўчаму? Аднак на справе гэтае "чціва" нічога светлага ў душы не выклікае. І справядліва Святлана Калядка лічыць, што ў жыцці ёсць шмат іншых цікавых і надзённых тэм для маладых аўтараў, якія спрабуюць свае сілы ў літаратуры.

"Круглы стол", прысвечаны апавяданню, прайшоў і плённа і зацікаўлена. Менавіта так сказаў, падводзячы вынікі дыскусіі, старшыня секцыі прозы Леанід Левановіч.

У канцы літаратурнай сустрэчы прысутныя мелі прыемную магчымасць павіншаваць Ірыну Шаўлякову з яе новай кнігай артыкулаў і рэцэнзій "Сентыментальнае паляванне".

**Я. ІВАНОЎ**

●

Як вядома, рэзалюцыя 30-й генеральнай канферэнцыі ЮНЕСКА аб'віла 21 сакавіка днём паэзіі. Да гэтага дня быў прымеркаваны міжнародны конкурс вершаваных твораў сярод навучэнцаў школ. У Беларусі быў створаны нацыянальны камітэт, куды ўвайшлі прадстаўнікі нашага творчага саюза, які вызначыў пераможцаў па нашай краіне. Імі сталі навучэнцы 7-га класа з Вілейкі Ірына Голубева, дзесяцікласніца з Мінска Валерыя Кустава і вучаніца 9-га класа з Вілейкі Кацярына Варславан.

Усе яны прынялі ўдзел у вечарыне, прысвечанай сусветнаму дню паэзіі, якая прайшла ў вялікай зале Дома літаратара.

Ва ўступным слове в. а. старшыні СБП Вольга Іпатава павіншавала юных паэтак, сказала аб дасягненнях айчыннай літаратуры і выказала спадзяванне на яе далейшы росквіт.

Вядучы вечара лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі паэт Анатоль Вярцінскі адкрыў своеасаблівую пераклічку паэтаў розных пакаленняў, у якой узялі ўдзел Мікола Мятліцкі, Леанід Дранько-Майсюк, Навум Гальпяровіч, Алесь Пісьмянкоў, Мікола Шабовіч, Людка Сільнова, Вячаслаў Корбут, Алесь Туровіч, Зміцер Вішнёў, Марыя Можар, бард Ігар Добры.

Своеасаблівым завяршэннем свята стала выступленне паэта, кампазітара і спевака з Наваполацка, лаўрэата міжнародных фестываляў Алена.

**Н. К.**

●

Ён рассоўвае цемру вякоў, забыцця, няведання, і паўстае Беларусь нескароная і неўміручая, і зноў імчыць вершнік на белым кані, і трушчацца пад капытамі чужацкія сцягі. Так мастак Алесь Цыркуноў убачыў і ўвасобіў на палатне вобраз незабыўнага Міколы Ермаловіча, памяці якога была прысвечана вечарына ў пісьменніцкай бібліятэцы. Слова пра адданага сына Бацькаўшчыны сказала выконваючая абавязкі старшыні Саюза беларускіх пісьменнікаў Вольга Іпатава. Пра значэнне для Беларусі асобы і творчасці Мікалая Іванавіча гаварылі старшыня клуба "Спадчына" Анатоль Белы, мастак Мікола Купава, пісьменнік Алесь Петрашкевіч, навукоўцы, гісторыкі, якія зазначылі, што М. Ермаловіч назаўжды застанецца прыкладам ахвярнага служэння роднаму краю, светачам нашай культуры, апірышчам для наступных пакаленняў.

**М. Р.**




# Vivat Вердзі!

Пра тое, што з твораў Джузепе Вердзі наш Нацыянальны тэатр оперы мог бы зладкаваць невялічкі фестываль, "ЛіМ" разважаў яшчэ зімой. Бо з'явілася нагода сабраць у адной афішы вердзіеўскі рэпертуар, што ёсць у выканальніцкім актыве, і такім чынам ушанаваць вялікага італьянца, кампазітара-класіка для ўсіх народаў, з дня смерці якога мінула ўжо цэлае стагоддзе.

Тэатр і сапраўды зрабіў такі фестываль. На опернай сцэне былі паказаны "Аіда" і "Рыгалета", "Набука" і "Травіята", "Баль-маскарад" і нават прэм'ера — "Трубадур" (чарговы ўзор канцэртнага выканання, якое праз некалькі месяцаў абяцаюць пераўвасобіць у паўнавартасны спектакль)... Прыязджалі замежныя гастралёры для ўдзелу ў некаторых операх. На 25 сакавіка прыпала закрыццё фестывалю і яго своеасаблівая квінтэсенцыя — гала-канцэрт "Vivat Вердзі!", складзены з фрагментаў многіх твораў, у тым ліку тых, што на мінскай сцэне ніколі не ставіліся.

На жаль, прапанаваць чытачам больш падрабязную інфармацыю пра гэту мастацкую падзею не выпадае, таму што "ЛіМ", даруйце такі каламбур, выпаў з поля зроку арганізатараў свята музыкі Вердзі. Рэдакцыю не запрасілі ні на спектаклі з удзелам выканаўцаў-гасцей, ні на прэм'еру, ні на прэс-канферэнцыю. Напэўна, гэткім чынам Нацыянальны акадэмічны тэатр оперы Беларусі ажыццяўляе выкананне Закона аб друку? Закон абавязвае забяспечваць журналістам свабодны доступ да інфармацыі. Ды ў стасунках з Вялікім тэатрам і на яго парозе яны ўжо неаднаразова пераконваліся, што тут у дачыненні да рэдакцыйных пасведчанняў, як і да іх уладальнікаў, той шаноўны закон проста ігнаруецца...

**Я. КАРЛІМА**

ВІНШУЕМ!

## У аркестры — радасць

На мяжы стагоддзяў адзначыў свой юбілей Дзяржаўны акадэмічны народны аркестр імя І. Жыновіча. У тыя святочныя дні згадвалася гісторыя калектыву, нямала гаварылася пра яго сённяшнія рэпертуарныя пошукі, набыткі, называліся імёны таленавітых салістаў-жыновічаўцаў. А вось зусім нядаўна некаторым з іх былі нададзены ганаровыя званні. Выдатная баяністка Святлана Лясун цяпер — народная артыстка Беларусі. Яшчэ двое салістаў ганараваныя званнем "заслужаны артыст": гэта лаўрэат міжнародных конкурсаў цымбалістка Ларыса Рыдлеўская і вядомы баяніст Уладзімір Ткач.

**С. Б.**

ФЕСТЫВАЛІ

## Спяваюць, граюць, слухаюць — усе!

Тыдзень вясновых школьных вакацый праходзіць пад традыцыйным дэвізам: "Мастацтва — дзецям і моладзі". Так называецца фестываль, які ў гэты час ладкуе сталічная філармонія. Сёлета яго афіша вылучылася разнастайнасцю: адна і тая ж сцэна прымала выступленні як музыкантаў акадэмічных, так і захопленых папулярнымі эстраднымі жанрамі.

На самым пачатку фестывалю, напрыклад, была замоўлена праграма цыкла "Усе фартэпіянныя канцэрты С. Рахманінава" з удзелам лаўрэатаў міжнародных конкурсаў, студэнтаў Беларускай акадэміі музыкі (клас вядомага педагога У. Няхаенкі) — В. Нетука ды К. Красніцкага.

А своеасаблівай кульмінацыяй канікулярнага тыдня сталася правядзенне ў Беларускай дзяржаўнай філармоніі двухдзённага фестывалю дзіцячай беларускай эстраднай песні "Спяваем з аркестрам!" Больш за паўсотню дзяўчатак ды хлопчыкаў з усяе краіны сабрала гэтае ўжо традыцыйнае свята жывой музыкі, спеўнага беларускага слова. Дзякуючы ініцыятыве мастацкага кіраўніка Дзяржаўнага канцэртнага аркестра Беларусі маэстра М. Фінберга, нямала юных спевакоў спрычынілася да каштоўнага музычна-сцэнічнага досведу і выступіла ў суправаджэнні славутага калектыву.

Свята музыкі для дзяцей і з удзелам дзяцей, маладых выканаўцаў, безумоўна, прыцягнула ўвагу і парадавала самую розную, у тым ліку прафесійна дасведчаную публіку.

**Н. К.**

ДАТЫ

# Гадоў нялёгкіх плён

*Літаратурны працэс, мастацкую практыку сённяшняга дня немагчыма ўявіць без крытыкі і літаратуразнаўства. Гэтаксама патрэбны яны для таго, каб усебакова і глыбока асэнсоўваць здзейсненае пісьменнікамі, якія тварылі раней. Таму літаратуразнаўства, як і сама аснова яго — мастацкая літаратура — выконвае важную ролю ў духоўным, эстэтычным забеспячэнні грамадства, спрыяе яго маральнаму ўдасканаленню, развіццю культуры ў самым шырокім яе значэнні. А гэта немагчыма без плённай, мэтанакіраванай дзейнасці не толькі асобных даследчыкаў, а і цэлых асяродкаў літаратуразнаўчай думкі. Адным з іх у нашай краіне з'яўляецца Інстытут літаратуры імя Янкі Купалы Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, які ўчора адзначыў сваё 70-годдзе, бо быў заснаваны на базе былой кафедры літаратуры акадэміі 29 сакавіка 1931 года. Спачатку ён называўся Інстытут літаратуры і мастацтва, а ў 1935 годзе быў рэарганізаваны ў Інстытут мовы, літаратуры і мастацтва. Аднавіў сваю працу ў 1943-м у якасці Інстытута літаратуры, мовы і мастацтва. У 1951—1957 гадах гэта ўжо Інстытут літаратуры і мастацтва. Нарэшце, чарговая рэарганізацыя і прысваенне Указам Прэзідума Вярхоўнага Савета БССР ад 2 ліпеня 1957 года Інстытуту літаратуры імя народнага паэта БССР Янкі Купалы.*



*Заўсёды гэтую навукова-даследчыцкую ўстанову ўзначальвалі тыя, хто меў важкія набыткі ў сваёй дзейнасці, валодаў вялікімі арганізатарскімі здольнасцямі. Першым дырэктарам Інстытута і адным з яго арганізатараў стаў акадэмік Акадэміі навук БССР, член-карэспандэнт АН СССР Іван Замоцін. З 1937 года па чэрвень 1941-га і 1946-га па сакавік 1973 года Інстытут узначальваў акадэмік Васіль Барысенка. З 1943-га па 1946 год дырэктарам быў акадэмік Міхась Лынькоў. З красавіка 1973 года па кастрычнік 1982-га дзейнасць Інстытута звязана з імем акадэміка Івана Навуменкі. Акадэмік Віктар Каваленка дырэктарам працаваў у 1982—1997 гадах. Цяпер дырэктар Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы Нацынаяльнай акадэміі навук Беларусі — член-карэспандэнт НАН Беларусі, вядомы літаратуразнаўца і крытык, пісьменнік Уладзімір Гніламёдаў. Гэтую адказную і ганаровую пасаду Уладзімір Васільевіч заняў у красавіку 1997 года, а з 1976 года працаваў намеснікам дырэктара. А паколькі да ўсяго кола даследчыцкіх інтарэсаў У. Гніламёдава вельмі шырокае, яго цікавіць не толькі сучасны літаратурны працэс, а і гісторыя літаратуры, дык каму, як не яму дасканала ведаць шлях, пройдзены гэтай установай, яе набыткі, цяперашнія планы?! Таму мы і папрасілі Уладзіміра Васільевіча, дарэчы, як чытачы заўважылі, пастаяннага аўтара "ЛіМа", адказаць на шэраг пытанняў, што ўзніклі ў гэтыя юбілейныя як для самога Інстытута, так і, бадай, для многіх аматараў літаратуры, дні.*

**— Уладзімір Васільевіч, напачатку, канечне, дазвольце далучыцца да тых шматлікіх віншаванняў, якія ўжо прагучалі ў адрас Інстытута і якія, не сумняваюся, яшчэ прагучаць і пажадаць далейшых даследчыцкіх поспехаў, як усяму калектыву, так і вам асабіста...**

— Шчыра дзякую за добрыя словы...

**— Але, каб нашая гаворка не атрымалася завельмі юбілейнай, хочацца не абмінуць і таго, што сёння ўспрымаецца далёка не лепшай старонкай у гісторыі Інстытута...**

— Вы пра трыццатыя гады?

**— Але!**

— Дзейнасць Інстытута літаратуры, як і працу любой установы, нават кожнага чалавека немагчыма ўявіць па-за часам. Гэтага ніхто і ніколі не аспрэчваў. Калі ж быць аб'ектыўным, асабліва значныя заслугі ў развіцці нацыянальнага літаратуразнаўства вучоных Інстытута беларускай культуры, які, як вядома, працаваў у 1922—1928 гадах і стаў папярэднікам і своеасаблівым архетыпам Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі. Намаганнямі выдатных яго прадстаўнікоў І. Замоціна, Я. Барычэўскага, А. Вазнясенскага і іншых былі закладзены трывалыя падмуркі, што сталі навукова-тэарэтычнай і метадалагічнай асновай для далейшага вывучэння пісьменнасці і новай літаратуры. З'явіўся шэраг сур'ёзных прац гісторыка-літаратурнага і тэарэтычнага характару. Для прыкладу: "Тэорыя санета" і "Паэтыка літаратурных жанраў" Я. Барычэўскага, "Паэтыка М. Багдановіча" А. Вазнясенскага, "Гісторыя беларускае літаратуры" М. Гарэцкага. Аўтарамі гэтых даследаванняў выкарыстаны важнейшыя тэарэтыка-метадалагічныя пастулаты культурна-гістарычнай школы, крытычна пераасэнсаваны і засвоены яе дасягненні, пераадолены слабыя бакі, адкінуты ўстарэлыя палажэнні, звязаныя з недаацэнкай эстэтычнай прыроды мастацтва, непрыняццем суб'ектыўна-лірычных, нерэалістычных форм адлюстравання рэчаіснасці... Культурна-гістарычны метад быў узбагачаны вопытам вывучэння беларускай славеснасці і літаратуры. А вопыт і дабратворныя традыцыі і прадоўжылі супрацоўнікі Інстытута літаратуры і мастацтва Беларускай акадэміі навук, створанай у 1929 годзе. На жаль, бадай найбольш плённыя для беларускай літаратуразнаўчай навукі і беларусазнаўства наогул дваццатыя гады, былі па сутнасці перакрэслены трыццатымі, калі ў СССР умацоўваўся сталінскі рэжым, пачаліся масавыя рэпрэсіі, ад якіх пацярпела пераважная большасць дзеячаў нацыянальнага Адраджэння, пісьменнікаў, навукоўцаў. А з гэтым жа перыядам звязана станаўленне Інстытута. Здавалася б, ствараюцца ўмовы для плённай дзейнасці і разам з тым істотна мяняецца стаўленне да беларускай гісторыі, нацыянальных традыцый, даўняй культуры, літаратуры і мастацтва. Багатая культурная спадчына нашага народа пачынае трактавацца вульгарна-сацыялагічна, нігілістычна прыніжаецца, аб'яўляецца неактуальнай, нават шкоднай для выхавання новага чалавека. Панаванне афіцыйнай, антыхрысціянскай і антынацыянальнай па характары ідэалогіі моцна стрымлівала аб'ектыўнае, грунтоўнае, з нацыянальна-патрыятычных пазіцый даследаванне нашага даўняга пісьменства. Дарэчы, каб быць справядлівым, нельга не сказаць, што падобнае становішча захоўвалася і ў першае пасляваеннае дзесяцігоддзе.

**— Гэта, аднак, не значыць, што згаданыя перыяды можна выключыць з гісторыі Інстытута?**

— Ад тагачасных рэалій нікуды не дзенешся. Але не трэба забываць, што і ў тых цяжкіх, вельмі неспрыяльных умовах маладыя навукоўцы, якіх непасрэдна не закранулі рэпрэсіі і якім былі неабыякавыя жыватворныя ідэі беларускага нацыянальнага Адраджэння, не далі магчымасці нашай пісьмовай спадчыне мінулага цалкам пакрыцца пылам забыцця. З канца 30-х гадоў у друку сталі з'яўляцца артыкулы літаратуразнаўцаў В. Барысенкі, М. Ларчанкі, Ю. Пшыркова, Н. Перкіна, С. Майхровіча, В. Івашына, прысвечаныя розным праблемам гісторыі беларускай літаратуры XIX — пачатку XX стагоддзя, жыццю і творчасці В. Дуніна-Марцінкевіча, Ф. Багушэвіча, Я. Лучыны, Я. Купалы, Я. Коласа, М. Багдановіча. Хоць і зрэдку, але згадвалася і імя Ф. Скарыны. А ўжо ў 40-я гады былі падрыхтаваны і выдадзены новыя падручнікі і хрэстаматыі па беларускай літаратуры да савецкага часу, а ў пачатку 50-х з'явіліся першыя манаграфічныя працы: Ю. Пшыркова — пра жыццё і творчасць Я. Коласа, С. Майхровіча — пра Я. Лучыну і іншыя.

Нельга забываць і такі аспект: у той час пры малалікасці навуковых кадраў і структурных падраздзяленняў у інстытутах гуманітарнага профілю Акадэміі навук БССР не было ні вузкай дыферэнцыяцыі літаратуразнаўчай навукі, і ні прафесійнай спецыялізацыі навукоўцаў-літаратараў. Навуковаму супрацоўніку даводзілася быць адначасова і даследчыкам-літаратуразнаўцам і крытыкам-папулярызатарам, гісторыкам, тэарэтыкам і тэкстолагам літаратуры, часам адначасова займаецца і даўняй і сучаснай літаратурай. А гэта не магло не адбіцца на якасці даследаванняў, на іх навуковым узроўні. Аднак, зноў жа, на ўсё моцна ўплывалі таксама гістарычныя ўмовы, а яшчэ адсутнасць значных традыцый у беларускім літаратуразнаўстве. Як асобная галіна нацыянальнай гуманітарнай навукі яно было яшчэ зусім маладым. Шмат што ўвогуле даводзілася пачынаць спачатку.

*(Працяг на стар. 4)*

АБСЯГІ

*ВІЦЕБШЧЫНА...*

## Сустрэча ў Полацку

У Полацкім музеі беларускага кнігадрукавання адбылася прэзентацыя другога (дапоўненага) выдання кнігі Уладзіміра Арлова "Адкуль наш род" (гэтым разам кніга заканчваецца апісаннем Слуцкага паўстання). Арлоў, вядомы як гісторык і пісьменнік, сустрэчу пачаў традыцыйна — са "Спробы завершанага жыццяпісу". Імпрэза доўжылася больш за дзве гадзіны. Аўтару кніг "Таямніцы полацкай гісторыі", "Дзесяць вякоў беларускай гісторыі", "Дзень, калі ўпала страла", "Фауна сноў" задалі процьму пытанняў. Што тычыцца творчых планаў Арлова, то, як зазначыў сам аўтар, наперадзе — выданне кнігі гістарычнай прозы "Сны імператара".

## Дзядзьку Язэпу прысвячаецца

Закрыццё пленэру імя Язэпа Драздовіча і адкрыццё выставы работ, створаных за яго час, адбылося ў Полацкім цэнтры нацыянальных культур і рамёстваў. Мастакі з розных гарадоў сабраліся ў Пуньках, малявалі мясціны, дзе жыў дзядзька Язэп... Пачалася імпрэза з выступлення рыцарскага клуба "Жалезны воўк". У ёй бралі ўдзел Лера Сом, Віктар Ушак, Уладзімір Арлоў, Аляксей Марачкін... Пленэр арганізавала Ада Райчонак, а выставу — Андрэй Піскун.

**Таццяна НЯТБАЕВА**

*ГРОДЗЕНШЧЫНА...*

## Мастак з Ліды

Грамадскасць Ліды адзначыла 75-годдзе мастака Мікалая Лазоўскага. У горадзе ён вядомы як майстар пейзажу і іканапісу. Мікалай Фёдаравіч многае зрабіў для аднаўлення царквы ў Радзівонішках і роспісу новага праваслаўнага храма ў Лідзе. Творы самабытнага аўтара не раз выстаўляліся ў мясцовым гісторыка-мастацкім музеі і ў клубе санаторыя-прафілакторыя "Вясёлка" акцыянернага таварыства "Лакафарба". Пачынаў жа М. Лазоўскі свой творчы шлях з размалёўвання бандарных вырабаў бацькі-селяніна і ўпрыгожвання ружамі лістоў-трохкутнікаў, якія пасылалі сваякам яго баявыя сябры з фронту.

## З гармонікам ды без прыпевак?!

Рэспубліканскі фестываль "Грай, гармонік, і звіні, прыпеўка" сабраў у старажытным Навагрудку 16 творчых самадзейных калектываў з прадпрыемстваў і ўстаноў Беларускага таварыства інвалідаў па зроку. Высокія ўзоры песеннага і музычнага майстэрства паказалі прадстаўнікі Полацка і Гродна, Мінска і Маладзечна, Віцебска і Навагрудка, Барысава і Чэрвеня...

Звання лаўрэата ўдастоіўся ансамбль з Віцебска. Ён прыме ўдзел у штогадовым міжнародным конкурсе, які пройдзе ў Паставах.

## "Крэсавякаў" цэняць і ў Познані

У тую сакавіцкую нядзельку на Старым рынку Познані, акрамя польскай, чулася беларуская, украінская і літоўская гамонкі. На тамтэйшым кірмашы ў гонар свята Казюкаў выступалі мастацкія калектывы чатырох суседніх краін. У час незвычайнага канцэрта вялікі поспех выпаў на долю лідскага хору "Крэсавякі". Яго саліст Барыс Казменскі вельмі спадабаўся слухачам. Па прызнанні журы, майстэрства лідчан па сваім узроўні не саступала знакамітаму ансамблю спевакоў і музыкаў з Чарнавіц (Украіна).

**Алесь ЖАЛКОЎСКІ**

*ГОМЕЛЬШЧЫНА...*

## Выязная калегія

Летась на Гомельшчыне ўстановы культуры будавалі сваю дзейнасць пад знакам славянскага братэрства, святкавання 2000-годдзя хрысціянства і юбілеяў Шамякіна, Мележа, Макаёнка. Маштабным мерапрыемствам з'явілася сустрэча дэлегацый Беларусі, Расіі і Украіны на мяжы трох рэспублік ля манумента Дружбы. Вынікі работы ўстаноў культуры былі падведзены на выязной калегіі абласнога ўпраўленя культуры ў Рагачоўскім раёне. Са справаздачай выступіў начальнік упраўлення А. Прусаў. Былі абмеркаваны і задачы на бягучы год. Удзельнікі калегіі азнаёміліся з дзейнасцю культустаноў раёна, наведалі музей Андрэя Макаёнка ў Журавічах. У рабоце калегіі прынялі ўдзел намеснік міністра культуры В. Гедройц, намеснік старшыні аблвыканкама У. Давідовіч.

## Сустрэчы ў славянскай бібліятэцы

Літаратурна-музычная вечарына "Мы — славяне" адбылася ў Славянскай бібліятэцы Гомеля. Перад чытачамі выступілі мясцовыя паэты і барды з гарадскога Клуба аўтарскай песні. У гэтай жа бібліятэцы адбыўся і Тыдзень кнігі. У ім бралі ўдзел літаратары вобласці, в. а. старшыні Саюза пісьменнікаў В. Іпатава, навукоўцы, сябры Таварыства Кірылы Тураўскага. Былі арганізаваны выставы "Творы пісьменнікаў Гомельшчыны", "Друкаванае слова пра Гомельшчыну і гомельскіх аўтараў", "Пушкін — пісьменнік і выдавец".

## Умельцы з мытні

У сувязі з дзесяцігоддзем мытнай службы Беларусі была арганізавана рэспубліканская выстава твораў супрацоўнікаў мытні, членаў іх сем'яў. Прыехала выстава і ў Гомель. Залу для экспанатаў прадаставіў абласны Дом тэхнікі і мастацтва. Сярод работ — ткацтва, вышыўка, разьба па дрэве, інкрустацыя, вязанне, фларыстыка, жывапіс.

**Аляксей ШНЫПАРКОЎ**

*МАГІЛЁЎШЧЫНА...*

## Дні індыйскага кіно

Дзякуючы намаганням відэапрадпрыемства "Позірк" і амбасады Індыі ў Беларусі, у абласным цэнтры прайшлі Дні індыйскага кіно. Жыхары горада пабачылі пяць кінастужак.

## "Адлюстраванне"

У Горацкай карціннай галерэі праходзіць выстава магілёўскай мастачкі Галіны Конанавай. У экспазіцыі пад назвай "Адлюстраванне" прадстаўлена 25 карцін, створаных на працягу з 1985 па 2000 год. Сярод работ — пейзажы, партрэты, нацюрморты. Частка палотнаў — уласнасць музея імя П. Масленікава.

## Свята тэатралаў

Міжнароднаму Дню тэатра быў прысвечаны гарадскі фестываль тэатральных калектываў "Святло рампы". У фестывалі прымалі ўдзел дзесяць самадзейных тэатраў — восем з Магілёва, па адным — з Бабруйска і Шклова.

**Алесь ПЯТРОВІЧ**

## Дні Ірландыі ў Беларусі

**Дні Ірландыі ў Беларусі, прысвечаныя нацыянальнаму святу Ірландыі — Дню Святога Патрыка, прайшлі ў сталіцы пад эгідай грамадскай арганізацыі "Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі", таварыства "Беларусь—Ірландыя", грамадскага аб'яднання "Дзіцячы фонд духоўнага і культурнага адраджэння "Сакавік" і Нацыянальнага навукова-асветнага цэнтра імя Ф. Скарыны. У складзе замежнай дэлегацыі, якая наведала Мінск, — дзяржаўныя і грамадскія дзеячы, прадстаўнікі ірландскіх дабрачынных арганізацый, якія аказваюць дапамогу беларускім дзіцячым дамам, школам-інтэрнатам, дзецям, якія жывуць у Чарнобыльскай зоне.**

**У мінулую суботу, у Дзень Святога Патрыка, у парку імя Горкага прайшло святочнае шэсце, адбыўся канцэрт. Шэсце праводзіцца трэці год запар. Як адзначыла старшыня ГА "Сакавік" Марыя Міцкевіч, арганізацыя святкавання Дня Святога Патрыка на Беларусі — падзяка ірландскім гасцям за гуманітарную дапамогу, лячэнне і аздараўленне нашых дзяцей.**

**У Доме дружбы ў гэты дзень адбылося ўрачыстае пасяджэнне.**

**Наш кар.**

## "Адцягніся з густам"

**Міжнародны адкрыты фестываль авангарднай і альтэрнатыўнай моды "Мамант" адбудзецца з 31 сакавіка па 1 красавіка ў комплексе "Журавінка". "Мамант" абяцае новыя арыгінальныя ідэі і нечаканыя адкрыцці беларускай маладзёжнай моды. Таму і сёлетні дэвіз фестывалю гучыць так: "Бедная фантазия горш за беднае жыццё". Беларускія мадэльеры прапануюць на конкурс каля трыццаці калекцый. Да іх у гала-канцэрце далучацца госці з Санкт-Пецярбурга, Адэсы, Кішынёва, Масквы.**

**Як заявіў "ідэолаг" фестывалю Юрый Брэус: "Мамант" для нас не проста шоу. Гэта дэкларацыя прыгажосці і майстэрства беларускіх мадэльераў. Гэта запрашэнне на свята".**

**Арганізатарамі фестывалю выступілі Нацыянальная дзяржаўная тэлерадыёкампанія, канцэрн "Беллегпрам", Саюз дызайнераў Беларусі, Беларускі саюз моладзі і комплекс "Журавінка". У канцы вясны Беларускае тэлебачанне прапануе гледачам сваю версію "Маманта".**

**Наталля ШАРАНГОВІЧ**

## Конкурс працягваецца

**Саюз беларускіх пісьменнікаў сумесна з Міністэрствамі адукацыі і культуры праводзіць конкурс п'ес малога памеру для дзіцячых калектываў.**

**На конкурс прымаюцца творы на беларускай і рускай мовах, у тым ліку раней не друкаваныя арыгінальныя п'есы (драматычныя, лялечныя, батлеечныя), абразкі для ранішнікаў, а таксама інсцэніроўкі па народных казках і творах беларускай літаратуры. Дапускаюцца інсцэніроўкі па творах сусветнай дзіцячай класікі, напісаныя па-беларуску.**

**Прадстаўленыя на конкурс творы павінны мець аб'ём ад 5-ці да 15-ці машынапісных старонак, ідэйна і зместава адпавядаць агульначалавечым і хрысціянскім ідэалам, улічваць узрост выканаўцаў і гледачоў.**

*Творы дасылаюцца ў двух асобніках на адрас: Саюз беларускіх пісьменнікаў, вул. Фрунзе, 5, 220034, г. Мінск з пазнакай "На конкурс п'ес",* **з указаннем аўтарства, хатняга адраса і роду занятках.**

**Журы вызначае 7 лепшых твораў, якія будуць адзначаны грашовымі прэміямі, яшчэ 10 аўтараў атрымаюць каштоўныя падарункі ў якасці заахвочвальных прызоў.**

**Да ўдзелу запрашаюцца як прафесійныя аўтары, так і аматары — студэнты гуманітарнага профілю, кіраўнікі тэатральных калектываў, выхавальнікі дзіцячых садкоў і інш.**

**Па выніках конкурсу плануецца выдаць лепшыя творы асобным зборнікам.**

**СПЯШАЙЦЕСЯ! ЯШЧЭ ЁСЦЬ ЧАС!**

## Беларускі калегіум

**ЗАПРАШАЕ**

**3 красавіка — Яўген Іваноў "Нацыянальна-культурная семантыка беларускай мовы".**

**10 красавіка — прэзентацыя выдавецкай серыі "Новыя гуманітарныя веды" з удзелам аўтараў ("Брама", Магілёў).**

**17 красавіка — прэзентацыя кнігі Сяргея Рублеўскага "Апостраф" з удзелам аўтара.**

*Лекцыі і прэзентацыі адбудуцца ў Цэнтральнай бібліятэцы імя Я. Купалы (вул. В. Харужай, 16).*

*Пачатак у 18.30.*

# Гадоў нялёгкіх плён

*(Заканчэнне. Пачатак на стар. 3)*

**— Атрымліваецца, што менавіта 50-ыя гады сталі для Інстытута, калі можна так сказаць, тым пунктам адліку, адштурхоўваючыся ад якога, можна гаварыць пра яго як пра даследчыцкую установу, што пачала значна ўплываць на літаратурны працэс у краіне, засведчыла аб плённасці намаганняў навукоўцаў па асэнсаванні складаных праблем, што стаяць перад ёй?**

— У 1952 годзе ў Інстытуце літаратуры і мастацтва замест аднаго літаратуразнаўчага сектара былі ўтвораны сектар савецкай літаратуры і сектар дарэвалюцыйнай літаратуры. Гэта прывяло да таго, што супрацоўнікі змаглі працаваць, улічваючы свае навуковыя інтарэсы. Пашыралася тэматыка і паглыбіўся характар даследчыцкіх распрацовак, працягвалася далейшая спецыялізацыя навукоўцаў, у літаратуразнаўства прыйшлі свежыя сілы. Намаганні былі скіраваны на даследаванне новых, яшчэ не вывучаных праблем і пытанняў гісторыі, тэорыі і *тэкстагогіі беларускай літаратуры*. Аднавілася вывучэнне і выданне даўняй пісьмовай спадчыны беларускага народа. Для грунтоўнай распрацоўкі яе патрабаваліся высокакваліфікаваныя навукоўцы спецыяльнай падрыхтоўкі, медыявісты. Пянерам у гэтай справе стаў А. Коршунаў, які прайшоў падрыхтоўку ў Ленінградзе пры аддзеле старажытнарускай літаратуры Пушкінскага дома і ў 1954 годзе быў прыняты на працу ў Інстытут.

А ў сярэдзіне таго ж, 1954 года на базе сектара беларускай дарэвалюцыйнай літаратуры быў створаны сектар рукапісаў і выданняў, што было выклікана патрэбамі больш інтэнсіўнай і шырокай падрыхтоўкі збораў твораў беларускіх пісьменнікаў.

**— Гэта не магло не даць жаданых вынікаў.**

— Пачалася падрыхтоўка новых збораў твораў Я. Купалы і Я. Коласа, якія выйшлі ў 60-я гады. Былі выдадзены зборнік "Беларускія пісьменнікі другой паловы XIX ст." (1956), выбраныя творы М. Багдановіча (1957) і В. Дуніна-Марцінкевіча (1958). Тым самым Інстытут заклаў падмурак своеасаблівай навуковай школы падрыхтоўкі нацыянальных кадраў тэкстолагаў, практычныя вынікі якой мелі важнае навукова-асветніцкае і агульнакультурнае значэнне. А сапраўднай падзеяй стаў выхад у 1959 годзе першай "Хрэстаматыі па старажытнай беларускай літаратуры", на высокім узроўні ўкладзенай А. Коршунавым. У ёй упершыню грунтоўна і ўсебакова было прадстаўлена шматвяковае багацце даўняй пісьмовай спадчыны беларускага народа ў найбольш значных літаратурных з'явах. Адразу на Беларусі ўзрасла цікавасць да старажытнай нацыянальнай літаратуры. Значнае дасягненне беларускага літаратуразнаўства 50-х гадоў XX стагоддзя — з'яўленне манаграфіі В. Барысенкі "Ф.Багушэвіч і праблемы рэалізма ў беларускай літаратуры XIX ст." (1957), што паклала пачатак больш грунтоўным даследаванням складаных праблем творчых метадаў і літаратурных напрамкаў, ролі фальклорных і літаратурных традыцый у станаўленні новай беларускай літаратуры, праблемнаму вывучэнню творчасці асобных пісьменнікаў. А кніга В. Чамярыцкага "Беларускія летапісы як помнікі літаратуры" (праўда, яна выйшла пазней, у 1969 годзе) стала першай манаграфіяй пра гэтыя выдатныя помнікі беларускай літаратуры і ў еўрапейскай гістарыяграфіі, напісанай беларускім навукоўцам па-беларуску.

**— 60-я гады — гэта перыяд, які на памяці многіх лімаўскіх чытачоў, і яны, пры жаданні, могуць згадаць шмат якія значныя працы з грыфам Інстытута. А калі хто і забыў асобныя з найбольш значных, дык...**

— Дык іх можна нагадаць. Этапнымі для ўсяго беларускага літаратуразнаўства сталі калектыўныя працы "Гісторыя беларускай савецкай літаратуры" ў двух тамах (1965—1966) і таксама двухтомная "Гісторыя беларускай дакастрычніцкай літаратуры" (1968—1969). Яны вызначылі шляхі яго далейшага станаўлення і развіцця. Абедзве характарызуюцца паўнатой фактычнага матэрыялу, навізной яго інтэрпрэтацыі. Упершыню ў беларускім літаратуразнаўстве гісторыка-літаратурны працэс раскрыты па тым часе дастаткова грунтоўна і аб'ектыўна. Выхад калектыўных "Гісторый..." яшчэ больш актывізаваў навукова-тэарэтычную думку супрацоўнікаў Інстытута, пашырыў сферу іх даследчыцкіх інтарэсаў: беларуская літаратура пачынае разглядацца ў параўнальна-тыпалагічным плане (працы В. Івашына, А. Мальдзіса, Н. Перкіна, В. Гапавай, Э. Мартынавай, У. Казберука і іншых), уводзіцца паняцце еўрапейскага кантэксту (А. Адамовіч), паскоранасці развіцця беларускай літаратуры XIX—XX стст. (В. Каваленка). Чарговы імпульс атрымлівае вывучэнне старажытнай і новай літаратуры (А. Коршунаў, В. Чамярыцкі, А. Мальдзіс). Паспяхова вывучаюцца тэарэтычныя праблемы. Гэта і станаўленне творчых метадаў; і гісторыя беларускага вершаскладання; традыцыі і наватарства; праблемы творчай індывідуальнасці; праблемы перакладу з блізкароднасных моў; гісторыя літаратуразнаўства і літаратурнай крытыкі. Нарэшце, з'яўляюцца работы, заснаваныя на гісторыка-дакументальным, архіўным матэрыяле. Праца ў гэтых накірунках адбываецца ў 70—80-я гады, а пасля ў 90-я. А ў 80—90-я гады вучоныя Інстытута выйшлі на новы ўзровень сваёй прафесійнай дзейнасці. Як пацвярджэнне іх поспехаў — Дзяржаўныя прэміі БССР імя Я. Коласа, прысвоеныя ў 1980 годзе шэрагу аўтараў такіх фундаментальных даследаванняў абагульняючага тыпу, як "История белорусской дооктябрьской литературы", "История белорусской советской литературы" (1977). Падзеяй стаў і выхад "Нарысаў па гісторыі беларуска-рускіх літаратурных сувязей" ў чатырох кнігах (1993—1995). Заслужанае грамадскае прызнанне атрымалі аўтары шэрагу манаграфічных даследаванняў: Г. Кісялёў за кнігі "Разыскивается классик" і "Спасцігаючы Дуніна-Марцінкевіча" ўзнагароджаны Дзяржаўнай прэміяй БССР імя Я. Коласа (1990), і група аўтараў (у іх ліку В. Дарашкевіч і В. Чамярыцкі) за цыкл работ "Скарына і беларуская культура" — Дзяржаўнай прэміяй Рэспублікі Беларусь. А Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 3 студзеня 2001 года Алена Яскевіч удастоена прэміі "За духоўнае адраджэнне" 2000 года.

**— Мы, Уладзімір Васільевіч, неўпрыкметку наблізіліся і да сённяшняга дня. Як вы б маглі вызначыць галоўныя напрамкі дзейнасці Інстытута на цяперашні час?**

— А яны вызначаны Прэзідыумам НАН Беларусі па прадстаўленні Аддзялення гуманітарных навук і мастацтваў. У іх аснове — асэнсаванне гістарычных шляхоў і заканамернасцей развіцця беларускай літаратуры ад старажытнасці да нашых дзён; раскрыццё *ідэйна-мастацкіх асаблівасцей* і нацыянальнай спецыфікі беларускай літаратуры; асвятленне асноўных этапаў яе развіцця, змены мастацкіх напрамкаў і стыляў у ёй; паказ узаемасувязі і ўзаемадачынення з іншымі славянскімі і неславянскімі літаратурамі; распрацоўка праблем тэорыі і практыкі; падрыхтоўка да выдання найбольш поўных навукова-каменціраваных збораў твораў класікаў беларускай літаратуры, помнікаў старажытнай пісьменнасці, што будзе садзейнічаць больш глыбокаму вывучэнню і асэнсаванню ўсяго літаратурнага працэсу ў цэлым, з'явіцца пэўным укладам у развіццё беларускай нацыянальнай культуры. У якасці галаўной арганізацыі Інстытут ажыццяўляе каардынацыю навукова-даследчыцкіх работ па Дзяржаўнай праграме фундаментальных даследаванняў на 1996—2000 гады. Дзякуючы паглыбленаму вывучэнню крыніц, выкарыстанню апошніх дасягненняў гуманітарных навук, найноўшых методык і падыходаў вырашана шэраг значных праблем гісторыі і тэорыі, тэкасталогіі і крыніцазнаўства старажытнай і новай беларускай літаратуры. Выпрацавана новая канцэпцыя яе развіцця, праведзены ўсебаковы аналіз усяго літаратурнага працэсу. А ў выніку была падрыхтавана *новая фундаментальная праца* "Гісторыя беларускай літаратуры. IX—XIX стст." у двух тамах, аб'ём якіх 60 улікова-выдавецкіх аркушаў. Але прыярытэтнай і галоўнай задачай гэтай праграмы было канцэптуальнае пераасэнсаванне метадалагічных асноў гісторыі нацыянальнай літаратуры XX стагоддзя і духоўнага развіцця беларускага народа гэтага перыяду. Гэта выклікана новай ідэйнай арыентацыяй грамадства пасля абвяшчэння палітычнай і эканамічнай *незалежнасці дзяржавы і пастаноўкі задачы* культурнага адраджэння беларускага народа з дасягненнем навуковай мэты рашучага пазбаўлення ад дагматычна-сацыялагічных спрашчэнняў у ацэнцы мастацкіх з'яў, што існавалі да нядаўняга часу. Вынікам правядзеных даследаванняў стала новая акадэмічная "Гісторыя беларускай літаратуры XX стагоддзя" ў чатырох тамах, агульны аб'ём якіх каля 200 аркушаў. Першыя два тамы выдадзены ў 1999 годзе. А нядаўна выдавецтва "Беларуская навука" надрукавала дадатковы тыраж першага тома, што лішні раз пацвярджае, наколькі вялікай папулярнасцю карыстаецца гэтая "Гісторыя"... Трэці том здадзены ў друк, выйдзе сёлета. Закончаны чацвёрты. Надзённым патрэбам навуковага выдання і папулярызацыі багатай пісьмовай спадчыны беларускага народа прымусілі падрыхтаваць новую "Хрэстаматыю па старажытнай беларускай літаратуры", праца над якой у асноўным завершана. У ёй будуць шырока прадстаўлены (поўнасцю альбо ва ўрыўках) помнікі ўсіх літаратурных відаў і жанраў з адпаведнымі каментарыямі, творчасцю пісьменнікаў розных эпох. Пераважная большасць тэкстаў падаецца ў арыгінале. Творы, напісаныя па-польску і на латыні, змешчаны ў перакладзе на сучасную беларускую мову.

**— Мабыць, ёсць і іншыя цікавыя працы, падрыхтаваныя апошнім часам у Інстытуце...**

— Значны навуковы вынік атрыманы пры распрацоўцы тэмы "Літаратура беларускага замежжа", што дазволіла грунтоўна даследаваць творчасць прадстаўнікоў беларускага замежжа, у параўнальным з папярэдняй і сучаснай беларускай літаратурай асэнсаванні важнейшых праблем нацыянальна-культурнага жыцця народа. Мяркуецца, што гэтая работа будзе выдадзена ў выглядзе манаграфіі або нарысаў па творчасці асобных пісьменнікаў, што стане па сутнасці першай спробай да вывучэння складаных і супярэчлівых працэсаў у эмігранцкай літаратуры беларускага замежжа.

**— Каб ахапіць такое шырокае кола праблем, пра якія вы гаварылі, трэба нямала высокакваліфікаваных спецыялістаў...**

— На сённяшні дзень у Інстытуце на *пастаяннай аснове працуюць 60 чалавек, з* якіх 51 з'яўляюцца навуковымі супрацоўнікамі. З іх 8 дактароў і 24 кандыдаты навук. У Інстытуце два акадэмікі, два члены-карэспандэнты НАН Беларусі. А навукова-даследчая структура Інстытута ўключае шэсць аддзелаў: выданняў і тэксталогіі (загадчык член-карэспандэнт М. Мушынскі), гісторыі старажытнай і новай беларускай літаратуры (кандыдат філалагічных навук В. Чамярыцкі), гісторыі беларускай літаратуры XX стагоддзя (доктар філалагічных навук В. Жураўлёў), сучаснай беларускай літаратуры (доктар філалагічных навук С. Лаўшук), узаемасувязі літаратур (кандыдат філалагічных навук У. Мархель), тэорыі літаратуры (кандыдат філалагічных навук М. Тычына).

**— Хоць Інстытут літаратуры і аўтарытэтная навукова-даследчая ўстанова, але варыцца ва ўласным соку, думаецца, небяспечна..**

— А мы гэта і самі цудоўна разумеем, таму Інстытут літаратуры ва ўсе часы, як кажуць, не замыкаўся ў сабе. На сённяшні дзень падтрымліваем навуковыя сувязі з даследчыкамі замежных краін як на дагаворнай аснове, так і на ўзроўні індывідуальных кантактаў. Гэта ажыццяўляецца шляхам камандзіровак, стажорства, удзелу ў навуковых канферэнцыях, працы ў архівах і бібліятэках, праз кнігаабмен. У першую чаргу з такімі краінамі, як Польшча, Расія, Украіна, Літва. Інстытут імкнецца актывізаваць навуковую працу кафедраў літаратур ВНУ Беларусі. Пастаянна аказваем дапамогу настаўнікам у выкладанні роднай літаратуры. Па дамоўленасці з Міністэрствам адукацыі Рэспублікі Беларусь была падрыхтавана разгорнутая альтэрнатыўная праграма па беларускай літаратуры для сярэдняй агульнаадукацыйнай школы, якая публікавалася на старонках часопіса "Роднае слова", а цяпер шырока выкарыстоўваецца ў школьнай практыцы. Супрацоўнікі Інстытута, як вы ведаеце, не абмінаюць і Саюз беларускіх пісьменнікаў, прымаючы актыўны ўдзел у рабоце творчых секцый, іншых мерапрыемствах. Ды і некаторыя з'яўляюцца членамі гэтай творчай суполкі. Не магу не сказаць і пра супрацоўніцтва са сродкамі масавай інфармацыі. Гэта і выступленні па радыё і тэлебачанні, на старонках газет і часопісаў. Цікавай формай такога супрацоўніцтва стаў літаратурна-мастацкі альманах "Розгалас", які з'яўляецца ў эфіры штомесячна не першы год па Беларускім радыё.

**— Паслухаеш вас і атрымліваецца, што ўсё ідзе — лепш не прыдумаеш?**

— Адкуль у вас з'явілася такое меркаванне? Ёсць і праблема з кадрамі, некаторыя супрацоўнікі працуюць толькі на паўстаўкі і, калі знойдуць лепшую работу, лёгка развітаюцца з Інстытутам. Шмат у чым марудна асэнсоўваецца літаратурная спадчына, не абнаўляецца належным чынам навуковая праблематыка. Адчуваецца дэфіцыт свежых ідэй. Няма належнай базы для падрыхтоўкі кадраў. А за гэтым — і цяжкае фінансавае становішча.

**— Усё ж не хацелася б заканчваць нашу гаворку на песімістычнай ноце...**

— *Пра які песімізм гаворка?* Настрой у нас і святочны, і рабочы. А вынікі гэтай работы даюць знаць аб сабе і сёння, і праявяцца ў перспектыве. У выдавецтве "Мастацкая літаратура" працягваецца выданне першага поўнага Збору твораў Я. Купалы. А мы падрыхтавалі і першы поўны Збор твораў Я. Коласа. У Я. Купалы — 9 тамоў, у Я. Коласа — 18. Чытач атрымае магчымасць пазнаёміцца і з поўным Зборам твораў М. Танка ў 15 тамах. Перавыдаецца Збор твораў М. Багдановіча ў 3 тамах. Сёлета ў выдавецтве "Беларуская навука" выйдуць кнігі І. Багдановіч "Авангард і традыцыя нацыянальнага адраджэння. Беларуская паэзія на хвалях нацыянальнага адраджэння", Ж. Шаладонавай "Фарбы быту і жыцця ў паэме Якуба Коласа "*Новая зямля*", З. Драздовай "Моўна-стылявыя праблемы эпічнага жанру 70-х гадоў. Партрэт. Пейзаж", Алены Яскевіч "Старабеларускія граматыкі".

**— Дазвольце, Уладзімір Васільевіч, яшчэ раз павіншаваць вас асабіста і ўвесь калектыў Інстытута з такой важнай датай у яго гісторыі і пажадаць усім далейшых поспехаў. А яшчэ папрасіць прабачэння ў тых, чые прозвішчы і даследаванні тут не згаданы. Нічога не зробіш: нават пры жаданні немагчыма пералічыць тое значнае, што зроблена Інстытутам. Таму час ставіць кропку, інакш трэба пачынаць гаворку... з пачатку.**

**Гутарыў Алесь МАРЦІНОВІЧ**

НАДЗЁННАЕ

# Ці будзе радзіць дрэва без карэнняў?

Нядаўна ў Нацыянальную акадэмію навук Беларусі з урада рэспублікі паступіў пакет дакументаў з праектам рэфармавання НАН. Акрамя нелагічнасці прапановы аб неабходнасці пашырэння НАН Беларусі за кошт стварэння новага псіхолага-педагагічнага аддзялення, сэнс усіх рэфарматарскіх прапаноў зводзіцца да "трансфармацыі дзяржаўных праграм фундаментальных даследаванняў у дзяржаўныя праграмы прыкладных даследаванняў" (п. 5 праекта). Ад вучоных патрабуюць рэнтабельнасці тэарэтычных даследаванняў не ў аддаленай перспектыве, а ўжо сёння.

Адукаваны чалавек ведае, што фундаментальныя даследаванні ва ўсіх краінах свету былі і ёсць затратныя для дзяржавы, але неабходныя для грамадства. У цывілізаваных краінах разумеюць: не будзеш карміць сваю навуку — будзеш карміць чужую. Стаўленне да фундаментальных даследаванняў адлюстроўвае стаўленне да нацыянальнай бяспекі краіны. Прарыў у розных галінах прыкладных даследаванняў магчымы толькі пасля тэарэтычнай распрацоўкі маштабу табліцы Мендзялеева. Даследаванне радыю і нараджэнне новай навукі радыялогіі дазволіла праз некалькі дзесяткаў гадоў стварыць магутнейшую зброю, а затым і атамную энергетыку. Вызначэнне прасторавай структуры ДНК стала асновай для развіцця генетычных даследаванняў, абумовіла рэканструкцыю генома чалавека, тэрапію спадчынных захворванняў і абяцае фантастычныя перспектывы менавіта ў практыцы паўсядзённага жыцця. Тэорыя геліяцэнтрызму (дарэчы, упершыню ў друкаваным выглядзе прадстаўленая ў працах беларуса Францішка Скарыны і ўведзеная ім у сістэму адукацыі яшчэ ў пачатку XVI стагоддзя) сёння неабходна для практычнай астранаўтыкі.

Як дрэва не можа расці і даваць каштоўныя плады без карэнняў, гэтак без фундаментальных ведаў немагчыма адукацыя чалавека. Калі чыноўнікам удасца ажыццявіць праект па фактычным згортванні фундаментальнай навукі, то ў Беларусі пачнецца неабарачальны працэс разбурэння аднаго з важкіх нацыянальных здабыткаў: высокаінтэлектуальнага кадравага патэнцыялу. А там недалёка і да пастаноўкі пытання: а навошта нам увогуле акадэмія?

Такім чынам, прапанаваны праект выглядае правакацыйным, дэстабілізуючым, неабгрунтаваным з пункту гледжання рацыянальна мыслячага чалавека. Патрабаванне неадкладнай фінансавай аддачы ад НАН Беларусі азначае не што іншае, як спроба звярнуць краіну са шляху цывілізаванага прагрэсу. Няма сэнсу даказваць тое, што рэальны эканамічны эфект ад талковых прыкладных распрацовак несумненны. Аднак яны становяцца магчымымі толькі пасля стварэння падмурка, на якім будуецца практычная канструкцыя.

А цяпер некалькі простых фактаў, якія сведчаць аб тым, што фундаментальная навука не толькі танна дастаецца дзяржаве, але і прыносіць эканамічны эфект.

Спачатку напомнім аб акладах навуковых супрацоўнікаў. Напрыклад, у Інстытуце фізіялогіі аклад навуковага супрацоўніка, кандыдата навук складае 30672 рублі, а загадчыка лабараторыі, доктара навук, прафесара — 43056 рублёў. У 2000 годзе ў лабараторыі фізіялогіі ствала галаўнога мозга 9 навуковых супрацоўнікаў і 2 аспіранты на аснове тэарэтычных даследаванняў апублікавалі 44 навуковыя працы. Пяць артыкулаў выдадзены ў прэстыжных замежных часопісах ЗША, Кітая. У сусветнай практыцы кошт падрыхтоўкі і выдання падобных работ складае ад адной да трох тысяч долараў. Само сабой зразумела, што наша лабараторыя не атрымала з бюджэту ніводнай капейкі. Значыць, па самых сціплых падліках, эканамічная выгада складае як мінімум пяць тысяч долараў. Звернем увагу на тое, што ў сістэме НАН Беларусі ёсць навуковыя калектывы з больш унушальнымі паказчыкамі публікацый.

У 2000 годзе ў лабараторыі выконвалі курсавыя, дыпломныя, пошукавыя работы 18 студэнтаў Беларускага дзяржаўнага універсітэта. У Вялікабрытаніі навуковая стажыроўка аднаго студэнта ў прафесіянала ацэньваецца прыкладна ў 400 фунтаў стэрлінгаў. Калі перамножыць на колькасць студэнтаў, то атрымліваецца, як мінімум, дзесяць тысяч долараў. Такім чынам сумарны эфект у працэсе набыцця, прапаганды і навучання фундаментальным ведам склаў 15 тысяч долараў.

На забеспячэнне работы лабараторыя ў 2000 годзе атрымала: туалетнае і гаспадарчае мыла — 10 і 5 кавалкаў, пральнага парашку — 3 пачкі, ручнікоў — 7, ампул з ёдам — 3, ампул з марганцоўкай — 2. Апрача гэтага, атрымалі наступныя дапаможныя матэрыялы, неабходныя для правядзення вострых і хранічных эксперыментаў: чатыры пары пальчатак, два халаты, адзін кілаграм ваты і 14 бінтоў. Калі ўлічыць, што пры такім забеспячэнні фундаментальных даследаванняў за апошнія 10-12 гадоў навуковым супрацоўнікам даводзіцца самастойна рамантаваць электрафізіялагічную апаратуру, часткова набываць за свае грошы дапаможныя матэрыялы (шпрыцы, рэактывы, растворы і г. д.), то можна ўявіць, якую эканомію прыносіць дзяржаве самаадданасць і непатрабавальнасць навуковых калектываў НАН Беларусі.

У 2000 годзе НАН Беларусі на фундаментальныя даследаванні была выдзелена сума ў 5 мільярдаў рублёў. Розніца паміж той сумай, якую навуковыя супрацоўнікі зэканомілі для дзяржавы, і той, якая была выдзелена, складае каля 4 мільёнаў долараў.

Такім чынам, фундаментальныя даследаванні ў НАН Беларусі з'яўляюцца прыбытковымі. Могуць запярэчыць, маўляў, лічбы кошту падрыхтоўкі навуковых прац і стажыроўкі студэнтаў надта завышаны. Аднак звярніце ўвагу на кошт навучання аднаго студэнта ў платных вышэйшых навучальных установах краіны, на курсах павышэння кваліфікацыі.

Так, у Нацыянальнай акадэміі ёсць унутраныя праблемы. І навуковым калектывам трэба іх вырашаць. Напрыклад, патрабуе рэфармавання сістэма атэстацыі навуковых кадраў. Неабходны механізм, здольны ствараць умовы спаборніцтва, пры якіх пераможца атрымлівае вышэйшыя атэстацыйныя балы за канкрэтныя навуковыя дасягненні, а не па прынцыпе хто бліжэй да начальства і з рук прызначаных тым жа начальствам камісій.

Ёсць шмат праблем, вырашэнне якіх дапаможа ўзняць эфектыўнасць фундаментальнай навукі. Аднак у прапанаваным праекце гаворка ідзе не аб шляхах паляпшэння фундаментальных даследаванняў, а аб іх згортванні. Так званымі "рэфарматарамі" намечана наступная перспектыва: дэградацыя айчыннай навукі, залежнасць ад замежных распрацовак, страта аўтарытэту ў навуковай супольнасці, ад'езд навуковых кадраў за мяжу, пераход у камерцыйныя структуры, зніжэнне цікавасці да навуковых даследаванняў творчай моладзі.

Францішак Скарына гаварыў: "мудрост якобы моц в драгом камени, и яко злато в земли, и ядро ув ореху". Ні мовы, ні злата, ні ядра няма ў "рэфармісцкіх" прапановах недальнабачных чыноўнікаў і дылетантаў ад навукі з вучонымі ступенямі.

**Уладзімір КУЛЬЧЫЦКІ,**
**загадчык лабараторыі Інстытута фізіялогіі НАН Беларусі, доктар медыцынскіх навук, прафесар, член-карэспандэнт НАН Беларусі**

# І не судзімы будзеце...

## СПРОБА ТРАКТАТА СУПРАЦЬ ЗЛОСЦІ

— А ты напішы трактат супраць злосці, — параіў мне сябар у час гаворкі, калі я з абурэннем і скрухай гаварыў, колькі вакол стала злых людзей, колькі крыўды і гарачай злобы выліваецца на нас кожны дзень. — Ты ж у нас, як вядома, кот Леапольд, — зіранізаваў не ўтрымаўшыся, — любіш, каб усім улагодзіць...

Што ж паробіш, сапраўды страшна не люблю сварак, усялякіх, кажучы сучасным слэнгам, "разборак", хоць разумею, што ёсць моманты, калі трэба быць цвёрдым і прынцыповым, умець адстаяць сваю думку. Тым часам, гэтыя самыя цвёрдасць і прынцыповасць усё больш ператвараюцца для многіх у хамства, нецярпімасць, нежаданне лічыцца з іншай думкай. Прычым, даволі часта — для людзей, якія спавядаюць публічна і дэмакратыю, і свабоду думкі...

— Як вы смееце адпраўляць дэлегацыю ў Маскву? — чую ў тэлефоннай трубцы злосны жаночы голас. — Ганьба!

І не растлумачыць чалавеку, што кантакты творцаў, абмен культурнымі каштоўнасцямі, адкрыты і шчыры дыялог з калегамі з Расіі, Украіны, Малдовы ці Арменіі абсалютна не перашкаджае ні нашай, ні іхняй незалежнасці, што нельга творцам жыць толькі сваім "гародчыкам", што для кожнага літаратара важныя пераклады, сустрэчы...

А вось прыклад з іншага боку. Пачуў адзін з радыйных начальнікаў вершы паэта з радкамі, што "ўсё перамелецца, усё пераменіцца", і... тут жа прыпісаў палітыку. Маўляў, пра якія такія перамены марыць паэт?..

І так кожны дзень. Адны з абурэннем і пафасам абвінавачваюць Саюз пісьменнікаў, што мы, маўляў, барэльеф Ларысы Геніюш у падвал знеслі, хоць, як кажуць, ні слыхам ні дыхам пра гэта нават не чулі, другія з такім жа рвеннем і высакародствам вышукваюць у пісьменніцкіх шэрагах агентаў міжнароднага імперыялізму...

Дзелімся ўражаннямі пра матэрыял, надрукаваны ў свежым нумары газеты аднаго нашага публіцыста.

— Знаеш, — кажу, — матэрыял, як матэрыял, нічога такога ўжо надта выдатнага не знайшоў.

— Але ж як злосна напісана!.. — абараняе сваю думку суразмоўца.

Як злосна напісана... Далібог, лічыў і лічу гэта не надта дадатнай якасцю. Нездарма кажуць, што ад злосці вочы крывёй наліваюцца і не ўсё, як след бачаць, што ад пачуцця гэткага нават... лопнуць можна.

Успамінаю даўні анекдот. Забраўся мужык на дрэва, сеў на тоўсты сук і пілуе яго нажоўкай. Ідзе міма стары, паглядзеў уверх і кажа:

— Чалавеча, ты ж пілуеш сук, на якім сядзіш!

— Ат, ідзі сабе прэч, не перашкаджай!

І тут сук затрашчаў, абламаўся, і мужык грымнуўся з вышыні на зямлю. Падняў вочы на старога, які нахіліўся над ім, і пытаецца:

— Гэта ты, дзед, насурочыў?

Модна цяпер, як казалі кітайцы, біць агулам, "па штабах". Не асобны творца вінаваты, а Саюз пісьменнікаў, не адзін нядбайны ці несумленны кіраўнік, а кіраўніцтва, не адзін злодзей "каўказскай нацыянальнасці", а "чорныя". У нас ужо не людзі, а "электарат", тыя, хто не з намі, — або "саўкі", або "дзермакраты"...

Чытаю праведна-гнеўны ліст у адну з рэдакцый настаўніка-пенсіянера, як ён сам сябе называе (дарэчы, ведаю яго асабіста), пад яскравым загалоўкам "Не магу маўчаць". Пра што ж не можа маўчаць шаноўны аўтар?

"Адназначна лічу, што маю пэўнае права зрабіць папрок (сказаць праўду ў вочы) амаль "400-й грамадзе Саюза пісьменнікаў Беларусі", якія замест таго, каб быць творцамі і абаронцамі роднай мовы і літаратуры, фактычна паразітуючы на ёй, кормяцца на яе ніве".

Вось так! Прыпячатаў, як кажуць, усіх чатырохсот паразітаў! Хаця, шаноўны, калі пагледзець, як "корміцца" сёння пісьменніцкая грамада, то разыходжанне паміж вашай пенсіяй і іх заробкамі часам будзе на вашу карысць.

Не стану паўтараць абразлівых характарыстык на адрас народнага пісьменніка І. П. Шамякіна, а таксама "былога вучня па Плешчаніцкай школе" Івана Пташнікава, бо надта ж яны ўжо грубыя, бесчалавечныя. Шаноўны пенсіянер-рэвалюцыянер не заўважае, што і сёння гэтыя майстры слова ў страі, што зробленае імі служыць літаратуры, роднай мове.

Як падобна гэта, дарагі "абаронца" па стылі на тое, што гавораць вашы апаненты з другога лагера на адрас іншых выдатных пісьменнікаў, якія спавядаюць не іх погляды...

Хто, па-вашаму, гэтыя чатырыста "паразітаў"? Вольга Іпатава, што сёння на чале пісьменніцкай арганізацыі? Хіба трэба даказваць, колькі рабіла яна і робіць для развіцця роднай мовы, яе абароны? Асабіста і разам з паплечнікамі па арганізацыі творчасцю і выступленнямі, сваёй акрэсленай пазіцыяй, якая, магчыма, не так "агучана", але больш дзейсная і канструктыўная.

Хіба не пісьменнікі ў сваіх творах і выступах прапагандуюць хараство роднай мовы, хіба не яны — актыўныя наведвальнікі беларускіх класаў і школ? Пра тое, як ацэньвае Саюз беларускіх пісьменнікаў стан роднай мовы ў сродках масавай інфармацыі, паведаміла газета "Звязда". Па ініцыятыве Саюза пісьменнікаў, яго актыўным удзеле прайшлі святы Францішка Багушэвіча, Кузьмы Чорнага, Уладзіміра Караткевіча, Івана Мележа, Андрэя Макаёнка, адзначаны юбілей Івана Шамякіна. Творчая суполка — неад'емны арганізатар і ўдзельнік традыцыйных дзён беларускага пісьменства і друку.

Чаму шаноўны апанент не заўважае, што амаль кожны тыдзень у пісьменніцкай бібліятэцы праходзяць адкрытыя ўрокі літаратуры з удзелам славутых нашых пісьменнікаў, на якіх пабывалі вучні не толькі мінскіх школ, а са Слуцка, Баранавіч і г. д.

А пісьменніцкая акцыя "Радаводныя вытокі", калі творцы апякуюцца справамі на сваёй "малой радзіме"? Колькі робіць для роднай Віцебшчыны С. Панізнік, Пухаўшчыны А. Карлюкевіч, Навагрудчыны В. Іпатава, Стаўбцоўшчыны Г. Далідовіч, К. Камейша, А. Камароўскі, Я. Хвалей!..

І гэта пры тым, што творцу неабходна шукаць час для свайго непасрэднага занятку, бо ўсе вымушаны служыць, зарабляць на хлеб надзённы.

І гэта пры тым, што вобраз пісьменніка, дзякуючы некаторым сродкам масавай інфармацыі, набыў іранічна-паблажлівае адценне, а то і больш, пры тым, што з наступам масавай культуры слова сапраўднага творцы становіцца ўсё менш запатрабаваным.

І колькі намаганняў прыходзіцца прыкладваць, каб арганізаваць сустрэчу ў сельскім клубе, або рабочай аўдыторыі, бібліятэцы вайсковай часці.

Выхаванне маладых творцаў, прапаганда беларускай літаратуры, беларускага слова за мяжой у нашых сённяшніх варунках задача надзвычай няпростая. Але выходзяць новыя кнігі маладых (вядома, хацелася б больш), анталогіі нашай паэзіі і прозы на балгарскай, нямецкай і іншых мовах. Удалося захаваць і падтрымліваць асноўныя літаратурныя выданні, такія, як "Полымя", "Маладосць", "Нёман", "Крыніца", "Беларусь", "ЛіМ"...

Пры ўсёй павазе да новых нефармальных літаратурных рухаў іх кніжачкі і часопісы накладам 200-500 экземпляраў не заменяць увесь літаратурны працэс, а толькі дапоўняць яго. Багатае і шырокае культурнае поле сёння пакуль немагчыма захаваць без пісьменніцкай арганізацыі, без намаганняў усіх творцаў.

Гэта, вядома, не гаворыць пра тое, што і ў рабоце СБП, і ў грамадскай дзейнасці асобных пісьменнікаў, у іх пазіцыі ўсё ідэальна, усё павінна выклікаць захапленне. Але вось так, агулам, мазаць чорнай фарбай усё пісьменніцкае асяроддзе!..

Увогуле, праца чорная і часам незаўважная — сёння рэч непапулярная. Куды, бывае, лягчэй — дэкларавацьь пазіцыю, выкінуць лозунг, "засведчыцца", а там... хоць трава не расці...

Трымаць удары, безумоўна, не лёгка. Ды гэта, бадай, галоўнае ў наш час. А сыплюцца яны як злева, так і справа. Б'юць балюча, бесчалавечна. Брат — брата, калега — калегу, творца — творцу. Адзін помсціць за тое, што нехта прагаласаваў супраць яго пры размеркаванні прэмій, другі — што яго кнігу выкінулі з плана, трэці... А прыкрываецца ўсё гэта высакародным абурэннем, гучнымі словамі і ўзнёслай рыторыкай.

І як не стае радасці за поспех калегі, падтрымкі ў цяжкую хвіліну!..

Праблем на пачатку новага стагоддзя і тысячагоддзя выпала на наш лёс куды як дастаткова. Цяжка творцам і матэрыяльна і маральна, слова пісьменніка страчвае сваю запатрабаванасць. Бездухоўнасць, абыякавасць, хіжы прагматычны канфармізм запаланілі нашы душы...

Тут бы, якраз, і знайсці агульную мову, тут бы і падставіць пляча адзін аднаму, бо, урэшце, мэта ў нас, як і тады, калі выгукнуў вялікі Купала, адна — "людзьмі звацца!"...

І без самаедства, без злосці, без нянавісці. Узгадваючы біблейскае: "не судзіце, і не судзімы будзеце".

**Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ**



**ЧАСАПІС**

## *"Хрэстаматыя па гісторыі..."*

**Добрыя справы нярэдка трымаюцца на энтузіястах, але куды большая карысць ад здзейсненага імі, калі чалавек, які бярэцца за нешта важнае, валодае вялікай эрудыцыяй, з'яўляецца высокакваліфікаваным спецыялістам. А менавіта да такіх людзей адносіцца доктар мастацтвазнаўства Анатоль Сабалеўскі — адзін з найбольш дасведчаных у краіне даследчыкаў тэатра. Таму і карыстаюцца такой папулярнасцю кнігі, на вокладках якіх значыцца прозвішча Анатоля Вікенцьевіча. Не прайшла незаўважанай і складзеная ім "Хрэстаматыя па гісторыі беларускага тэатра і драматургіі" ў двух**




**тамах, што выйшла ў 1975 годзе. Аднак за час з'яўлення яе ў тэатральным жыцці Беларусі адбыліся вялікія змены, з'явіліся новыя імёны, творы. Таму А. Сабалеўскі падрыхтаваў другое, пашыранае і ўдакладненае выданне "Хрэстаматыі..." Гэтым разам у трох тамах. З першымі двума чытачы паспелі пазнаёміцца, а нядаўна ў выдавецтве "Беларуская навука" ўбачыў свет і трэці, заключны. Ён ахоплівае перыяд у межах: 60-я гады XX стагоддзя — 2000 год. "Зразумела, — сведчыць А. Сабалеўскі (а ён выступае не толькі ў якасці ўкладальніка, а з'яўляецца рэдактарам тэкстаў, аўтарам уступных артыкулаў і каментарыяў), — вызначэнне гэтае мае даволі ўмоўны характар, бо нельга правесці дакладнай мяжы паміж перыядамі ці дзесяцігоддзямі. Тым больш што многія драматургі, дзеячы сцэны тварылі ў розныя гістарычныя перыяды".**

**Дзякуючы А. Сабалеўскаму, можна атрымаць поўнае ўяўленне аб тым, як развіваліся нацыянальны тэатр, драматургія ў гэты перыяд — "са сваімі ўзлётамі і падзеннямі, пошукамі, знаходкамі і стратамі". Як сведчыць укладальнік, "у драматургіі пачатак 60-х гадоў адкрываецца "Лявоніхай на арбіце" А. Макаёнка, творам менавіта таго часу, які набыў шырокае распаўсюджванне і папулярнасць. Да яго неўзабаве далучыліся "Пад небам адным" А. Маўзона, "Выгнанне блудніцы" І. Шамякіна. Яшчэ з'явілася колькі п'ес, але яны ў мастацтве прыкметнага следу не пакінулі.**

**У томе выкарыстаны "манаграфічны прынцып размяшчэння матэрыялаў. Яны прыводзяцца пра таго ці іншага майстра ў адным месцы, звычайна прымяркоўваюцца да апошняга этапа творчай дзейнасці ці перыяду найбольш высокіх дасягненняў. Выключэнне складаюць драматургія Янкі Купалы, Якуба Коласа, Францішка Аляхновіча, творы якіх падаюцца ў першым і другім тамах, што гістарычна апраўдана, і драматургія Кандрата Крапівы і Андрэя Макаёнка ў другім і трэцім тамах з тых жа меркаванняў". І, зразумела, у параўнанні з першым выданнем, падаюцца новыя імёны тых, хто ярка заявіў аб сабе апошнім часам, а таму заслугоўвае пільнай увагі і з боку крытыкі, і з боку чытача, гледача. Як самі драматургічныя творы, так і іншыя матэрыялы, з-за абмежаванасці аб'ёму тома, падаюцца ў скарочаным выглядзе. З драматургаў прадстаўлены К. Крапіва ("Брама неўміручасці"), А. Макаёнак ("Лявоніха на арбіце", "Зацюканы апостал", "Трыбунал", а таксама "Аўтабіяграфія"), І. Шамякін ("Не верце цішыні", "Экзамен на восень"), М. Матукоўскі ("Амністыя", "Мудрамер"), А. Махнач ("Смык і Капуста", "Шпачок"), А. Петрашкевіч ("Соль", "Напісанае застаецца"), У. Караткевіч ("Званы Віцебска", "Кастусь Каліноўскі", "Маці ўрагану"), А. Дудараў ("Выбар", "Вечар", "Радавыя"), І. Чыгрынаў ("Госці", "Звон — не малітва"), М. Арахоўскі ("Ку-ку"), Г. Марчук ("Пеўчыя сорак першага года"). Можна атрымаць уяўленне і аб выдатных майстрах сцэны, якія належаць да той слаўнай гуртоўкі, што шмат паспрыяла таму, каб беларускі тэатр, нацыянальнае сцэнічнае мастацтва дасягнулі высокіх мастакоўскіх вяршыняў. Як правіла, усе яны былі ганараваны высокімі званнямі, а гэта Б. Платонаў, Г. Глебаў, А. Ільінскі, П. Малчанаў, Л. Ржэцкая, У. Дзядзюшка, С. Станюта, Л. Рахленка, Ц. Сяргейчык, М. Звездачотаў, В. Галіна. В. Пола, І. Матусевіч, А. Трус, З. Стома, І. Шаціла, Г. Макарава, Ф. Шмакаў, З. Канапелька, М. Яроменка і іншыя. Можна прачытаць пра выдатных рэжысёраў В. Раеўскага і Б. Луцэнку, пра вядомага тэатразнаўцу У. Няфёда. Несумненна, "Хрэстаматыя..." знойдзе ўдзячнага чытача, а адрасавана яна студэнтам, дзеячам прафесійнай і аматарскай сцэны, усім тым, хто цікавіцца драматургіяй, тэатрам, культурай.**

**Міхась ГЕНЬКА**

УРАЖАННЕ

# Наша тысяча гадоў

Кніга складаецца з чатырох частак: "Перад дарогай", "Малы край з вялікай гісторыяй", "Следам місіянераў", "Слова — гэта ўсё".

Гэта пра тое, што самі аўтары называюць "Беларускі Лёс", потым ідзе гісторыя Беларусі, потым — пра даўнейшае і цяперашняе жыццё рэлігій гэтага Краю, і нарэшце — пра самога Сакрата Яновіча, аўтара больш шасцідзесяці кніжак, што выдадзены ад Лондана да Мінска, аднаго з тых чатырох беларускіх пісьменнікаў, што трапілі ўсё ж у "Энцыклапедыю пісьменнікаў свету".

Сакрат Яновіч *не адкладае сваёй апошняй* кнігі на глыбокую старасць, піша, як цяпер. Спрыяюць яму: канец XX стагоддзя, вартыя яго сябры. Кніга "Наша тысяча гадоў" зроблена як дыялог, але Сакрат штогод у сваіх Крынках збірае трыялог. І недзе там, апроч пані Еўропы, прысутнічае і мастак Лёнік Тарасэвіч, які па-новаму аформіў кнігу: паказаў людзей, якія гавораць. Бо дыялог. А тое, што напісана лацінкай, то выйграе — бо лацінка графічна глядзіцца лепш. А чыстыя лісты ў канцы — то зусім добра. То пакінута для тых, хто пры памяці. Бо можна думаць, пісаць... Многа што можна. Жыць можна.

Дарэчы, форма размовы таксама добрая. Бо тэкст гістарычны, сухі ўспрымаецца як мастацкі. Пытанні акцэнтуюць увагу на заблытаных момантах гісторыі.

Аўтары знарок шмат гавораць пра Крынкі, Орлю, Шудзялава, Плянты, Грыбаўшчыну, пра дзядоў, бацькоў, суседзяў, даючы зразумець, што гісторыя стваралася тут, *на пагорках, у нашых мястэчках,* у нашых хатах, не за морам. Форма размовы дае аўтарам шанц гаварыць займальна і выразна, не трымацца акадэмічнай паслядоўнасці. Роля Ю. Хмялеўскага не абмяжоўваецца пытаннямі, бо ён праз сваё сэрца нясе гісторыю Краю абодвух народаў, памінаючы прытым свой уласны горкі вопыт — ("жыць дома, як на эміграцыі"). Надзвычай важна, што пра адно жыццё гавораць прадстаўнікі двух пакаленняў. Мяне менавіта здзівіў і пацешыў якраз Ю. Хмялеўскі — бо адважыўся не проста на дыялог з Яновічам, але і на дыскусію, а не голае падтакванне.

Хіба няшмат здраджу, калі прызнаюся, што Сакрата па-хатняму называюць Кроця. Крот капае. Капае архівы. Крот мае слаўны німб над галавой. Крот і ворагаў мае да халеры. Але так выходзіць, што то і ворагі *Беларусі.*

Калі Сакрат у канцы 80-х вярнуўся з Лондана, перачытаўшы там усё, што на Савецкай Беларусі ўжо забыліся, быў увесь змучаны, стомлены, гаварыў, што пра нас цяпер ведае такое, што лепш не ведаць... А цяпер у апошняй кнізе піша: "Сумна ў нас заўсёды — ад пачатку свету. Люблю смутак". І далей цягне: "Першапрычынай творчасці ёсць здзіўленне..." І яшчэ далей: "І гэтак я прапаў у здзіўленні ад аграмаднасці мінулага Беларусі... Але калі што пра яе нават вылазіла — то заўжды як правінцыя: што расейская, што польская. Ніколі не была яна самастойнай. У тым і фокус".

У кнізе "Наша тысяча гадоў" Сакрат разышоўся. Як ён піша пра палякаў! "Што ж, выхвалянне папраўляе настрой!.. Нічогаа, Унія-Эўра вылечыць іх ад гэтай дзяціннасці. Там не пахвалёнак слухаюць — голых фактаў". А пра нас што піша? А тое самае! "Прастачок не мае маральнага права на *нацыянальнасць, бо ўспрымае яе цынічна* праз страўнік, таму і адбываецца тут саматусіфікацыя ды самапаланізацыя, бо хлеб заўсёды знаходзіцца ў чужых руках".

Колькі ўсяго новага я даведалася пра сябе і пра суседзяў у кнізе на 100 старонак спрасаванага гістарычнага агляду!

...што беларусы — гэта зславенізаваныя балты і яцвягі, а славянскай крыві ў нас толькі 10%;

што ВКЛ развалілася таму, што не здолела выпрацаваць ідэі, якая магла б злучыць народы;

што рускія ўцякалі на нашы землі ў X стагоддзі, баронячыся ад насільнай хрысціянізацыі;

што найчарнейшай старонкай у гісторыі Рэчы Паспалітай была Люблінская унія 1569, у выніку якой Польшча вымушана была павярнуцца тварам на ўсход, у развале якога гінула кожная энергія з-над Віслы. Рэч Паспалітая вымушана была задзірацца з Масквой увесь час не ва ўласных інтарэсах;

*што народ, які хоча выжыць, павінен дбаць* пра важныя рэчы — хлеб і школу;

што за родную мову змагаюцца бацькі, а не маці, таму называць яе трэба не матчынай, а бацькоўскай;

што на Беласточчыне палякі ўспрымаюць беларусаў, як недабіткаў, якіх прывёз некалі рускі цар, таму што ў царкве моляцца па-расейску...

І шмат, шмат яшчэ ўсяго такога.

Аўтары спакойна, як бы збоку, апавядаюць пра лёсы беларусаў на фоне сусвету, пра ўплывы на нашы лёсы суседзяў і дзе яшчэ адбываліся падобныя працэсы, апавядаюць пра тое, што было, а не як хацелася б, каб так было, адлушчваюць асцярожна праўду ад прыгожых міфаў.

У частцы "Следам місіянераў" ужо праз прызму змагання за беларусаў розных рэлігійных канфесій аглядаюць пакутніцкую дарогу Беларусі, і лічаць, што Беларусь асуджана на нялёгкае існаванне сваімі сіламі, бо ў выніку навукова-тэхнічнай рэвалюцыі пра*пала цікавасць да яе тэрыторыі.*

У кнізе не абмінулася супольнае беларуска-габрэйскае сужыццё, роля татараў у ваенным і культурным жыцці Краю. Цікавае адкрыццё цюркскага паходжання прозвішчаў нашых класікаў Багушэвіча і Багдановіча.

Аказваецца, расейцы адносіліся да беларусаў заўсёды, як да замежжа. Чыноўнікі не адчувалі тут сябе дома, спроба каланіялізацыі ўвесь час правальвалася. Маёнткі

*Ю. Хмялеўскі і С. Яновіч. "Nasze tysiąc lat". Беласток, 2000 г.*

КНІГАРНЯ

# Каб душа была чыстай

Толькі адгорнеш кнігу Алеся Камароўскага "Пенальці", выпушчаную выдавецтвам "Ураджай", як адразу запыняеш позірк на невялікай прадмове Эдуарда Малафеева, чалавека добра вядомага шматлікім прыхільнікам футбола: "Аповесць Алеся Камароўскага "Зачараваны мяч" — першая ластаўка ў беларускай літаратуры на футбольную тэму. Не буду меркаваць аб мастацкіх вартасцях твора. Гэта справа літаратурных крытыкаў. Як спецыяліст адзначу, што аўтар аповесці дасягнуў галоўнага, яскрава паказаў: футбол — гэта штодзённая цяжкая праца і пошук на шляху павышэння майстэрства. Толькі тады зачараваны мяч можа стаць паслухмяным любому руху іграка. Толькі ў цяжкай працы вырастае сапраўдны футбаліст, вялікі спартсмен і, вядома, чалавек". А паколькі аўтарытэт Э. Малафеева ў футболе, *несумненна, важкі,* хочацца, не зважаючы на адсутнасць вольнага часу, пачаць знаёміцца і з гэтай аповесцю А. Камароўскага, і з іншымі творамі, што і склалі чарговую кнігу пісьменніка.

Дарэчы, для мяне асабіста, як, бадай, для многіх чытачоў, гэтае знаёмства з аповесцю "Зачараваны мяч" — не першае. Яшчэ ў 1989 годзе яна выходзіла асобнай кнігай. У падобных выпадках нярэдка бывае і так, што пры другім прачытанні твора не атрымліваеш ранейшага задавальнення, няма навізны пры ўспрыманні напісанага аўтарам. Чаго не скажаш пра "Зачараваны мяч".

Аповесць *па-ранейшаму зачароўвае.* А яшчэ пры другім прачытанні знаходзіш і тое, што чаго напачатку і не заўважыў, калі сачыў у асноўным толькі за яркім, дынамічным сюжэтам. Цяпер жа ёсць магчымасць паставіцца да ўсяго больш засяроджана. І становіцца зразумелым, што А. Камароўскі, удала скампанаваўшы кампазіцыю, не ставіў гэта самамэтай. Ягонае майстэрства найперш праявілася ў іншых, прытым у двух накірунках, аспектах.

Першы звязаны з тым, што прыкмеціў у "Зачараваным мячы" Э. Малафееў: аповесць напісана чалавекам, які па-сапраўднаму любіць футбол, захапляўся ім з ма*ленства, а пазней удзельнічаў у гульнях у* складзе каманд рознага ўзроўню. Адным словам — прафесіяналам. У сувязі з гэтым нельга не адзначыць, што А. Камароўскі першы са спартыўных каментатараў стаў весці рэпартажы па тэлебачанні і радыё на беларускай мове, калі ў 1982 годзе дынамаўцы Мінска сталі чэмпіёнамі СССР па футболе.

Другі аспект — майстэрства А. Камароўскага-празаіка, яго ўменне псіхалагічна-глыбока зазірнуць у душы персанажаў, усебакова раскрыць іх характары. І не толькі як футбалістаў, што ў дадзеным выпадку вельмі важна, а і наогул як людзей. У сувязі з гэтым нельга не адзначыць, што несумненная аўтарская ўдача вобраз маладога футбаліста Вадзіка Ясінскага.

Прыемна перачытваць аповесць "Зачараваны мяч" і па іншай прычыне: услед за гэтым творам у кнізе стаіць наступны, таксама аповесць — "Пенальці". Як працяг "Зачараванага мяча", як раскрыццё характару *галоўнага героя на новым жыццёвым і,* калі можна так сказаць, спартыўным вітку. Тым самым атрымалася свайго роду дылогія пра спорт, а калі канкрэтней — пра футбол і футбалістаў. Сам па сабе факт знамянальны, бо дагэтуль таксама нічога падобнага ў беларускай літаратуры не было. А яшчэ важна, што, пішучы аповесць "Пенальці", А. Камароўскі добра памятаў вопыт некаторых сваіх папярэднікаў, якія, захапіўшыся дылогіямі і трылогіямі, не змаглі ўтрымаць мастакоўскую планку на раней узятай вышыні і з кожным чарговым творам, магчыма, і самі таго не заўважаючы, пісалі слабей.

Гэта не тычыцца "Зачараванага мяча" і "Пенальці". Перад намі два раўназначныя ў мастацкіх адносінах творы, сюжэтна знітаваныя, дынамічныя па разгортванні сюжэтаў. Але перад намі і далейшае разгортванне характару Ясінскага і яшчэ большае захапленне яго вялікасцю ФУТБОЛАМ. Ды і спортам увогуле, а гэта надае творам А. Камароўскага вялікую прыцягальную сілу, бо яны адрасаваны ў першую чаргу чытачам старэйшага школьнага ўзросту, а гэта той перыяд у жыцці чалавека, калі абавязкова хочацца ў кагосьці вучыцца, у некага браць прыклад. Зразумела, сёння колішнія ідэалы страчаны, пабляклі, але ж засталіся вечнымі паняццямі сумленнасці, маральнай чысціні, фізічнай дасканаласці, мужчынскай годнасці. Якраз гэтаму можна (і трэба!) вучыцца ў герояў аповесцяў А. Камароўскага. І не толькі тых, што склалі дылогію.

У кнізе змешчана і аповесць "Ахілесава пята". Таксама пра спорт і спартсменаў, толькі гэтым разам галоўны герой твора — не футбаліст, а спартсмен па скачках у вышыню. Але Аляксей Красовіч, гэтаксама, як і Вадзік Ясінскі, праходзіць шлях самасцвярджэння і ў жыцці, і ў спорце, вучыцца разбірацца ў людзях, адрозніваць сапраўдныя каштоўнасці ад уяўных.

"Ахілесава пята" цікавая і сваёй кампазіцыйнай пабудовай. А. Камароўскі ўдала выкарыстоўвае такі літаратурны прыём, як паралелізм. Падзеі, што адбываюцца сёння і непасрэдным удзельнікам якіх з'яўляецца Аляксей, суседнічаюць з тымі, што мелі месца ў гады Вялікай Айчыннай вайны, калі дзед галоўнага героя, таксама Аляксей Красовіч, сам напрасіўся на выкананне важнага баявога задання, у выніку чаго быў знішчаны варожы дзот. Дзед Аляксея загінуў смерцю героя,але адкрыў для паспяховага наступлення шлях таварышам.

Два сюжэтныя планы, дзякуючы сваёй знітаванасці, дазволілі аўтару ненавязліва правесці думку аб тым, што чалавек, які адчувае пачуццё абавязку, у рашаючы, крытычны момант можа здзейсніць, здавалася б, немагчымае. Так атрымалася ў Красовіча-старэйшага. Гэта даказвае і Аляксей-малодшы, калі на міжнародных спаборніцтвах устанаўлівае сусветны рэкорд па скачках у вышыню.

І Алесь Камароўскі настолькі праўдзіва перадае чаканне балельшчыкамі гэтага, што ствараецца ўражанне асабістай прысутнасці чытача на стадыёне, на якім неўзабаве і павінна адбыцца неверагоднае:

"Трыбун як не было. Чорная злітая маса стадыёна замерла. Высвечаны сектар для скачкоў, як у фокусе, звёў да сябе ўсё электрычнае святло. Нават судзейскія столікі, здаецца, адступілі ў паўпрыцемак, затоена глядзелі зводдаль. Усё чакала гэтага скачка: трыбуны і суддзі, каментатары і эфір... Чакала гарысполавае пакрыццё сектара — наструненага, упэўненага разбегу красовак, магутнага штуршка левай нагі... Чакала планка...

Аляксей страсянуў кісцямі рук, як бы скідваючы з іх нябачныя пылінкі, пачаў разбег... Пачаў імкліва, быццам яму трэба было пераскочыць не планку, а ўсю заходнюю трыбуну стадыёна..."

набывалі, але не маглі іх утрымаць і — збывалі. Беларус — іншы чалавек, чым расеец, найперш ментальна. Чатырыста гадоў знаходжання ў арбіце захаду пасля Крэўскай уніі зрабілі сваю справу. У расейца няма пачуцця ўласнасці, схільнасці да багацця, умення разлічваць на сябе самога, у беларуса — ёсць. Грамадскае ў беларуса ёсць нечым дадатковым, цікавым настолькі, наколькі ўплывае на дабрабыт сям'і, на каханне. Расеец — заўсёды патрыёт айчыны, хоць у айчыне жыве, як жабрак.

У апошняй частцы "Слова — гэта ўсё" аўтары ацэньваюць творчасць Сакрата Яновіча гэтак жа, як і грамадскае, бесстаронне, хоць Сакрат і сцвярджае, што пісьменнік не можа быць староннім сведкам свайго часу, бо "літаратурны твор нагадвае крывое люстэрка, у якім выпукляецца нешта адно коштам нечага другога" дзеля прыгажосці слова. Пераклад Сакрат Яновіч называе пацалункам праз шыбу. Работу празаіка ён ацэньвае так: "Аповесці не стварающца, як коміксы. Павінна ўзнікнуць патрэба такая вялікая, што не вытрываць, тады сядаеш за кампанаванне аповесці — дзень у дзень з перапынкамі на снеданне, абед і вячэру, да позняй начы. Назаўтра — праўкі, пераробкі ўчарашняга, і далейшая праца. Так мінімум год аблогі, не зважаючы на вясну, лета, зіму. Скончыўшы кнігу, добра трапіць у санаторый ці ў шпіталь на аддзяленне інтэнсіўнай тэрапіі".

Сакрат Яновіч любіць укладаць мініяцюры, умее збіваць ёмістую поўную фразу, устаўляючы туды "сакраткі", мясцовыя словы "крынкаўкі". Аўтары сцвярджаюць, што на мове польскай яны пішуць "для заробку". Польская мова С. Яновіча і Ю. Хмялеўскага — гэта мова інтэлектуалаў, наша інтэлігенцыя размаўляе тут на расейскай мове пралетарыяту.

Кніга "Наша тысяча гадоў" напісана папольску, але не для палякаў. Ці з'явіцца гэтая кніга на беларускай мове? Наўрад ці паступіць такі сацыяльны заказ, бо нашы "дэмакраты" не ўспрымуць падобнай гісторыі гэтак жа, як не ўспрынялі б яе камуністы. Гэта — іншы ўзровень.

Наша тысяча гадоў цягнецца па сёння, няма канца такой "стабільнасці" дзікунства.

**Данута БІЧЭЛЬ**

---

Акрамя аповесцяў, А. Камароўскі прыйшоў на сустрэчу з чытачом з пяццю апавяданнямі. Праўда, яны са спортам не звязаны, але дзякуючы таму, што напісаны дасканала, пашыраюць уяўленне аб творчых магчымасцях аўтара. І не толькі ў галіне "сур'ёзнай" прозы.

У апавяданнях "Каюся, Госпадзі..." і "З таго свету" добра раскрыты і гумарыстычныя задаткі таленту пісьменніка, пры гэтым гэтыя творы напісаны так, што сітуацыі па сутнасці тыповыя. У першым з іх каецца той, хто здраджваў жонцы, а цяпер славядаецца святару, у другім — выпадак у пэўнай ступені анекдатычны: вясковы п'яніца, каб ён не перашкаджаў гасцям, быў схаваны жонкай унутр канапы.

У абодвух творах А. Камароўскі піша так пераканаўча, што хочаш — не хочаш, але абавязкова засмяешся. Чаго варта толькі заканчэнне апавядання "З таго свету":

"І тут ён прачнуўся. Мац-мац — дошкі, кругом дошкі. "Памёр! То ж труна! — ляжаў і мацаў у цемнаце дошкі. — А колькі зямлі нада мной? Метры са два... "Ляжаў і думаў": А мо жывога закапалі?" Ён нема зароў, пачаў біць у донца..."

Скончылася ж усё тым, чым і мусіла скончыцца: "Жонка прыбегла, выцягнула яго з канапы. Дапоўз да кухні, да вядра і доўга піў ваду, быццам выбраўся з таго свету.

З таго дня Іван кінуў піць".

Што да апавяданняў "сур'ёзных", дык у аснову іх пакладзены сітуацыі, узятыя з самога жыцця. Герой апавядання "Бусел" — чалавек, які вельмі любіць прыроду, за што праслыў у вёсцы дзіваком. "Віновы Туз" — расказ пра аднаго з тых, хто назаўсёды застаўся верным свайму каханню, чысціню якога збярог на дарогах вайны, бо тая, каго любіць ён, хоць і не дачакалася мужа, палічыла за лепшае застацца адзінокай. Так і дажываюць яны свой век, жывучы ў вёсцы поруч. А апавяданне "Лясная фея" пра выпадковую сустрэчу, якая так і не атрымала працягу. У кожным выпадку А. Камароўскі знаходзіць патрэбны настрой, дзякуючы якому ўчынкі, пачуцці персанажаў набываюць тую непаўторнасць, што сама па сабе ўжо сведчыць аб неардынарнасці іх лёсаў.

Калі ж падагульніць уражанне ад кнігі "Пенальці", нельга не сказаць, што ўсё, аб чым піша А. Камароўскі, падначалена аднаму: душа ў чалавека ў любых сітуацыях павінна быць чыстай.

Чыстай у жыцці.

Чыстай у яго прафесійнай дзейнасці.

Чыстай ва ўчынках і пачуццях.

**Ягор КАРЖЭВІЧ**

---

*Угодкі*

# Ля вечнага кастра

## Аляксею ЗАРЫЦКАМУ СПОЎНІЛАСЯ Б 90

Апошняя, падпісаная Аляксеем Аляксандравічам мне кніга, у гэты момант ляжыць перада мной. Яна — і апошняя прыжыццёвая ў паэта — зборнік вершаў і паэм "Трывожная госця", выпушчаная выдавецтвам "Мастацкая літаратура" ў 1986 годзе. Ці не адразу пасля выхаду і пакінуў свой аўтограф: "Алесю Марціновічу на трывалую і плённую творчую дружбу. Абсалютна шчырапрыязна. 8.8.1986. Аляксей Зарыцкі", а не стала яго 29 кастрычніка 1987-га. Ёсць у мяне і іншыя, дараваныя Аляксеем Аляксандравічам кнігі, але гаворку хочацца пачаць менавіта з гэтай, бо яна, больш чым іншыя, захавала цяпло яго рук, а яшчэ — адчуванне такое — і шчодрасць ягонай душы. Пры чытанні, не проста ажываюць паэтычныя радкі, а чуецца голас самога паэта:

*Гляджу, як Млечны шлях паволі тоне*
*У апраметнай цьмянай глыбіні.*
*Як горне гэта зорнае бяздонне.*
*Яшчэ, душа, у бязмежжа зазірні.*

*Яно так горне, быццам просіць зліцца*
*На векі вечныя да кроплі з ім.*
*Душа ж не хоча й кропляй паступіцца:*
*Яго ў сябе ўліць прагне назусім.*

Голас чуцён з таго бясконцага бязмежжа, з той "апраметнай цьмянай глыбіні", дзе і знаходзіцца цяпер А. Зарыцкі. А можа, сам ён тут, з намі, на Зямлі — толькі ў нейкім іншым вымярэнні, пра якое пры жыцці кожнаму з нас ніколі, бадай, не давядзецца, а душа там, на небе, дзе бясконне Млечнага Шляху, вабнасць і загадкавасць якога набывае асаблівы сэнс, дзякуючы і гэтаму цудоўнаму вершу.

Твораў жа, вартых увагі ўдзячнага чытача і крытыкі, напісана А. Зарыцкім шмат. І нямала кніг паэзіі ім выдадзена. Акрамя "Трывожнай госці", пачынаючы з першай "Эпічныя фрагменты", што пабачыла свет яшчэ ў 1932 годзе, гэта — "Дняпроўскае рэха", якая стала першай пасляваеннай і датавана 1946-м, "Арліная крыніца", "Світанскія сады", "Залатое дно", "Размова з сэрцам", "Вяртанне на зямлю", "Мая асяніна", "Каля вячэрняга кастра" і іншыя. А яшчэ А. Зарыцкі — аўтар зборніка апавяданняў на рускай мове "Вересковый мед", кніг успамінаў, крытычных артыкулаў, нарысаў "За словам-падарункам". Шмат перакладаў з рускай, украінскай, літоўскай, нямецкай, польскай, лужыцка-сербскай моў і найчасцей — з арыгінала, бо ў 1936 годзе скончыў Маскоўскі інстытут замежных моў.

Што да чытача, дык тыя, хто пастаянна трымае ў полі зроку навінкі літаратуры, не праміналі напісанага А. Зарыцкім. Наконт жа крытыкі трэба быць праўдзівым: яна часта нібы і не заўважала яго, што дало Аляксею Аляксандравічу падставы прызнацца:

*Толькі не часта хвалілі мяне,*
*Славы вялікай не ўведаў я, не.*

Прычыну гэтай няўважлівасці дакладна вызначыў Міхась Стральцоў, калі, рэцэнзуючы кнігу "Мая асяніна" ("Запрашэнне на агледзіны", "Полымя", 1974, N 1), пісаў: "А. Зарыцкі ніколі не належаў да тых аўтараў, чый літаратурны лёс люляла шумная хвала ўраз здабытага поспеху. Магчыма, пэўная прыглушанасць лірычнага голасу, якая, аднак, кампенсавалася апавядальнай удумнасцю верша, была адной з прычын гэтага, і, яшчэ, як ні дзіўна, — высокая культура радка, трывалае слоўнае майстэрства, якія засцерагалі ад яўных няўдач і прывучалі разам з гэтым крытыку глядзець на аўтара як на паэта роўнага, стабільнага — і толькі: факт, калі ўмельства замінала не ўласна творчасці, а яе выхаду да гэтага. Трохі крыўдны факт, бо наўрад ці можна тут вінаваціць аднаго аўтара". Адзначыў М. Стральцоў і тое, што, уласна кажучы, і рабіла А. Зарыцкага А. Зарыцкім: "Чалавек, здаўна ўлюбёны ў гук і сэнс славянскай гаворкі, цярплівы палоннік свайго "лінгвістычнага хобі", якое так добра служыць яму ў асноўнай прафесіі паэта і перакладчыка".

Дзякуючы кнізе "Мая асяніна" ў многім і пачаўся "новы" А. Зарыцкі. І найперш, у выніку з'яўлення аднайменнага верша, што гэтак узрадаваў М. Стральцова: "Асяніна... Вось і яшчэ адно добрае слова навідавоку, вынесена ў назву кніжкі, і мы па-харошаму здзіўляемся і, можа, нават трошкі зайздросцім: бач, ты, асяніна! Было ж во такое слова, і чуў жа яго, але абмінуў". А. Зарыцкі не абмінуў, бо цудоўна ведаў беларускую мову і любіў адшукваць тыя жыватворныя россыпы яе, што пастаянна бытуюць у народзе. Асяніна ж — з шэрагу такіх:

*Заўжды ў асенні час,*
*Нібыта князь даніну,*
*Збіраў пастух у нас*
*Калісьці асяніну.*

*Туман, што сырадой,*
*Імжа імжыць праз сіта.*
*Хто з палатна сувой*
*Даваў, хто трохі жыта.*

*Ужо на сенажаць*
*Маю кладзецца іней.*
*Час надыходзіць дбаць*
*І мне аб асяніне.*

На той час (кніга выйшла ў 1973 годзе, а гэты верш напісаўся і таго раней — у 1965 годзе) творчыя набыткі А. Зарыцкага былі вельмі значныя і важкія. Іншыя б на яго месцы, згадваючы сваю "асяніну", пастараліся б нагадаць аб гэтым, а ён

*За век свой я нашмат*
*Напасвіў песень надта*
*І асяніне рад*
*Цяпер і небагатай.*

Гэтая сціпласць — таксама адзнака сапраўднага таленту. Той, хто ведае сабе цану, не будзе на кожным кроку клясціся, які ён таленавіты. Праўда, мне могуць запярэчыць, што ёсць і іншыя выпадкі і назавуць прозвішчы прызнаных майстроў, якія любілі, каб іх як мага больш хвалілі. Яно так, але, пры ўсім, усё ж большасць выпадкаў, калі сваю выключнасць, пры любой мажлівасці, падкрэсліваe звычайная шэрасць. Хоць, таксама нельга аспрэчыць, з'яўленне прызнанняў, падобных тым, што прагучалі ў "Маёй асяніне", ідзе, як кажуць, і ад адваротнага. Самому аўтару хочацца, каб тыя, каму ён прызнаецца, не пагадзіліся.

У сувязі з гэтым нельга не спаслацца на прадмову "Не ціхне рэха змоўклых галасоў...", напісаную Барысам Бур'янам да Збору твораў А. Зарыцкага ў двух тамах (у 1994 годзе ў "Мастацкай літаратуры" з'явіўся першы том). У час адной з размоў з Аляксеем Аляксандравічам Б. Бур'ян працытаваў яго радкі:

*Я просты рабацяга, я прывык*
*Надзею гадаваць у буднях рупных, —*
*Маё сягоння — гэта чарнавік*
*Маіх наступных дзён*
*і спраў наступных...*

З вуснаў А. Зарыцкага прагучала: "Барысе, так можа гаварыць сам вершаскладальнік пра сябе, ды толькі ці не самае крыўднае для яго — гэта пачуць ад некага, што нібы па ягоных радках адчуваецца: які ён "просты рабацяга"..."

Не "рабацягам" быў ён у паэзіі, у літаратуры, а тым творцам, які, апантаны сваёй справай, разумеючы, што поспех спадарожнічае не заўсёды, не мог уявіць сабе жыцця без яе. Былі сумненні, развагі ("Цяжэй за ўсё, калі не пішацца паэту. // Нібы вярба тады ён над рачулкай зніклай. // Я добра ведаю пакуту гэту, // Бо сам гадамі быў такой вярбой паніклай"), але і надыходзілі моманты, калі слова слухалася. Не магло не слухацца, бо прарастала на жыццядайнай аснове, назва якой талент. А. Зарыцкі пакінуў пасля сябе не толькі вершы, вартыя ўвагі, ім напісана і нямала паэм. Канечне, штосьці з цягам часу, пачынае ў іх нездавальняць, але ў цэлым яны таксама сведчаць аб тым, наколькі аўтар іх умеў заставацца ў паэзіі самім сабой. Гаворка ж пра перакладчыцкую дзейнасць А. Зарыцкага — асобная тэма, бо пра яго майстэрства ў згаданым накірунку можна разважаць шмат. Не ў апошнюю чаргу пра ўвасабленне па-беларуску выдатнай паэмы класіка літоўскай літаратуры Крысціёнаса Данелайціса "Чатыры пары года".



*Аляксей Зарыцкі.*

...Ёсць у А. Зарыцкага выдатны верш "Не ціхне рэха змоўклых галасоў". Не шмат знойдзеш твораў, што гэтак бы праўдзіва, па-філасофску напоўнена перадавалі сутнасць кожнаму вядомага трыадзінства, якое заключаецца ў непарыўнай еднасці мінулага, сённяшняга і будучага, а за гэтай лучнасцю паўстае само жыццё:

*Не ціхне рэха змоўклых галасоў.*
*Мінулае заўжды для нас адкрыта.*
*Я чую пошум колішніх лясоў,*
*Калі бяру кавалак антрацыту.*

*Я зніклых акіянаў сумны ўздых*
*У старажытнай ракавіне чую.*
*А захачу — і прашчураў маіх*
*Убачу я і з імі заначую.*

*Засне ў пячоры ля агню радня,*
*Я ж слухаць буду пад завейны лямант,*
*Як тысячы гадоў назад да дня*
*Трубіў у роспачы апошні мамант...*

Позірк у мінулае для лірычнага героя — магчымасць адчуць сваю паяднанасць з вечнасцю, як бы папрысутнічаць у некалькіх прастора-часавых вымярэннях адначасова. Адсюль і заканамернае жаданне зрабіць рывок у будучыню:

*О як, хаця б на сотню год якіх,*
*Уперад мне праз далячынь прарвацца,*
*Каб час за мной ніяк не мог угнацца*
*І да нашчадкаў завітаць сваіх*
*Хай на хвілінку,*
*Хай на міг?*

Тое, што немагчыма ў самім жыцці, магчыма ў паэзіі. А. Зарыцкі, як жывы з жывымі, прамаўляе сёння з намі, ужо з грамадзянамі пачатку XXI стагоддзя. Хацелася б верыць, што падобная яго размова адбудзецца і з тымі, хто будзе жыць пасля нас, бо лепшае з напісанага ім, вартае, каб памяталі яго.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**

*Фота Уладзіміра КРУКА*



*У гады вайны. (Фота з архіва сям'і Зарыцкага).*



*З Піменам Панчанкам і Максімам Танкам. 1972.*

ПРОЗА

Таццяна ГАРЭЛІКАВА

# СУСЕДКІ

АПАВЯДАННЕ



ВЕРА ўздрыгнула. Галасы з тамбура. Тут, у кватэры, усё чуваць. Сцепанулася: о госпадзе! Як яны лаюцца: слова — і мацюк, слова — і мацюк, мацюк і такі, і гэтакі, у розных інтанацыях і адценнях, усё мацюком выказаць могуць... Паднялася з-за стала, дзе рабіла кантрольную па англійскай для завочніка, — грошы ж зарабляць неяк трэба, — і, ямчэй захінаючы на сабе лёгкі бэжавы халацік, зачыніла ў пакой дзверы. Усё адно чуваць, хоць і глушэй. Села зноў за стол, але ахапіў ужо нейкі неспакой, і вось ужо ён, гэты неспакой, гаспадаром пайшоў па ўсёй кватэры, запоўніў усе куткі. О госпадзе! Добра, што хоць не звоняць у дзверы. А было ж — званілі... Спагады шукалі — то ён, то яна, то яна, то ён... Як у маці. Быццам яна, Вера, можа ім паспрыяць, перайначыць іх... Абое на заводзе дзесь робяць. Аднагодкі яе, недзе таксама пасля трыццаці пяці...

Не рабілася ўжо кантрольная. Прыцемна ў пакоі і не па сабе. Пайшла на кухню, зачыніўшы за сабой шчыльна дзверы, пачала грукаць посудам, гатаваць гарбату, села, задумлівая, на белы табурэцік, пачала яе, духмяную, піць. Глыток... І думкі нейкія вірацца ў галаве, думка за думкай... Куды дзенешся ад гэтых думак? Няма Віці — вось і ўсё... Быў Віця — і ўсё было. А цяпер... Удава. Адна, паўсюль адна. І за душой, здаецца, нічога, апроч работы. Дзімка нейкае адхланне. Сын. Каб не ён... Але і ён... У Дзімкі — вуліца, сябры, ён ганяе мячык у двары да вечара, ці ў яго да паўночы спартыўная секцыя, у яго свае размовы і свае інтарэсы... Як жыццё складваецца... Марыла ж некалі, што ў яе будзе трое дзетак, трое — не менш... Яна доўга сядзела на кухні за кубкам гарбаты. Было паўсюль у кватэры, і тут, на кухні, чыста і дагледжана, нідзе ніякага вэрхалу, нічога лішняга, і гэта чысціня, гэты парадак, якія заўжды радавалі яе, здаліся раптам халоднымі і пустымі, парадак здаўся холадам, а чысціня — пустэчай. Каму і навошта? Аціхлая, аж млявая, яна пакручвала рукой на стале пусты даўно кубак, і на лбе ў яе гулялі лёгкія зморшчынкі...

Ужо сем гадоў, як удава. А здаецца, учора гэта было — Віця, малады, здаровы, дома, і жыццё поўнае сэнсу і шчасця... Абарвалася яго жыццё гэтак раптам і гэтак недарэчна. У вёсцы абіраў, узлезшы на два табурэцікі, вішні, іх той год многа было на дрэвах. Вішня тая ў двары, ля дарожкі асфальтаванай, высокая. І ён раптам хістануўся на двух тых табурэціках і — грымнуўся патыліцай аб асфальт... Сем гадоў мінула, а здаецца — учора тое было... Канструктар на заводзе, ён быў яшчэ і мастаком, і цяпер паўсюль у кватэры развешаны яго карціны...

Яна ўлягала ўсе гэтыя гады ў работу — цягнула ў гімназіі паўтары стаўкі, а яшчэ — рэпетытарства, пераклады ды кантрольныя работы для завочнікаў — па вечарах, амаль штодня, англійская мова цяпер паўсюль трэба. Плылі грошы, долар да долара, і на стале было, і не голыя, дзякуй богу, але... Нешта яе гняло і не давала жыць. Яна іншы раз ціха адчайвалася, іншы раз набіралася нейкай дзіўнай рашучасці некуды пайсці, паехаць, асабліва ўлетку, у часе водпуску, пазнаёміцца з такім, як сама, адзінокім і непрыкаяным... Але куды ехаць, апроч як у вёску? І аднойчы яна занесла аб'яву ў вячэрнюю газету...

Прыйшло тры лісты. Яна ўсе іх па некалькі разоў перачытала і выбрала адзін: пісаў гарадскі, удавец, дачка замужам, вельмі адзінокі. Колькі яму — не напісаў... Мо гадоў сорак, сорак пяць, але ж ёй ужо трыццаць пяць мінула...

А ён аказаўся не такім і старым — трыццаць дзевяць, амаль равеснік, і самавіты, прыгожы. Бровы, як і валасы, чорныя-чорныя. Шырокія плечы. Высокі. Добра апрануты. Толькі...

Толькі неяк ён усё не так пачаў. Ужо ў самы першы раз, яшчэ і не прыгледзеліся адно да аднаго і не пагаварылі, а ён тут жа, у прыхожай, толькі зайшоў, смела прыціснуў яе да сцяны, дыхнуў блізка-блізка...

Аслабанілася. Паправіла валасы.

— Вы сядзьце, калі ласка, пасядзіце, — сказала ціха. — Я гарбату згатую. Ці вам лепш каву?

Ён смела, ва ўпор пазіраў на яе сваімі чорнымі смяшлівымі вачыма:

— Мне лепш цябе... І без кавы можна... Пасля пакорміш...

Але неяк яны ўсё ж пагаварылі. Сказаў, што ўдавец, ужо тры гады, час ужо... А вочы хуткія-хуткія, і рукі...

Ён добра пад'еў і пайшоў, а яна доўга сядзела адна на кухні, аж пакуль не прыбег з секцыі Дзімка. Гатавала сыну вячэру, і ўсё яшчэ гучалі ўвушшу ягоныя словы: "Пазваню, мая красачка". І чула на сваіх плячах яго шырокія далоні. І, згадваючы яго, хвалявалася, адчула, што ружавеюць шчокі і сэрца тахкае-тахкае...

Але перад выхаднымі ён не пазваніў. Прыехаў у аўторак, без званка. Сказаў, што ў камандзіроўцы быў — бізнес такая штука, што на месцы сядзець не будзеш. Яна паспакайнела. А ён узяў яе за рукі і, пільна гледзячы сваімі чорнымі смяшлівымі вачыма, сказаў:

— Дык калі мы... кулдыкацца будзем? Давай пакулдыкаемся. Пакуль сына твайго няма. А пасля пакорміш.

І адно ў яго наўме. Яна падумала: калі чалавек жыць з табой збіраецца, ён не адно пра гэта думае.

У наступныя выхадныя ён зноў не з'явіўся, хоць і абяцаў. Пазваніў у сераду:

— Гатуй, старая, закусь — еду!

Не, гэта нешта не тое, падумала яна. І калі ён пераступіў парог, выставіў на стол бутэльку "пшанічнай", яна сказала яму:

— У цябе ёсць сям'я, Слава. Жонка. Ідзі да сваёй сям'і.

Ён прыціх, каўтнуў камяк. Пастаяў хвілінку моўчкі.

— А што табе мая сям'я? — заварушыўся і сказаў раптам весела. — Ці табе ўжо не трэба мужчына?

І, вясёлы, аблапіў яе.

Яна вызвалілася.

— Ідзіце адсюль, калі ласка, — сказала, апусціўшы галаву. — Мне трэба муж.

— Ха! — весела бліснуў ён жывымі чорнымі вачыма.

— Прашу вас, ідзіце адсюль.

І адчыніла яму дзверы.

...Ціха ўжо ў тамбуры. Ну і дзякуй богу. Яна пайшла ў пакой, было ўжо прыцемна, уключыла настольную лямпу, пачала заканчваць кантрольную.

Званок у дзверы. Дзімка? Сёння ў яе рэпетытарства няма. Дзімка, вядома... Хуценька падхапілася, пайшла, адкідваючы на хаду рукой валасы з ілба, адчыняць. Уключыла ў прыхожай святло. У цьмяным тамбуры — сусед. Калыхаецца, вочы бліскаюць, як у ліхаманцы, і нахабна пазірае, худы і няголены:

— Во, не пускае... б... Ты, Вера, вазьмі мяне да сябе. Я піць кіну, хіба што ў святы... Яна, б.., не разумее...

— Не, не, Міша, прабачце, я не магу, ідзіце ў сваю кватэру. Прабачце, — і хуценька зачыняе перад ім дзверы. Уздыхае. Дзе Дзімка? Да ночы на той секцыі. Чамусь непрыемна на душы. І нічога ўжо не хочацца рабіць. Яна пачала рассцілаць, дзе спала, у зале, пасцель, падушку паклала, узбіла, а канапа такая шырокая, і ў ёй мітнулася жаданне і другую сюды пакласці, узбіць яе, як некалі... І каб ён побач ляжаў, аціхлы, прытомлены, цёплы, і яна б уткнулася тварам у яго цёплыя шырокія грудзі.

У Сяргея закончыліся заняткі ў вучылішчы, і ён бег дадому: як ніколі хацелася есці. Грошай не было нават на булачку, а раніцай зусім не снедаў — прачнуўся, маці ўжо на кухні бубнела нешта, бесперастанку, сама сабе, айчым хроп у спальні, аж рэха разлягалася па ўсёй кватэры, і нават тут, у Сяргеевым пакоі, вісеў смурод ад перагару. Незадаволены, хмурны, Сяргей моўчкі падняўся з ложка, моўчкі, натапыраны, апрануўся, моўчкі ўзяў сумку і пайшоў за дзверы. Стаяў, чакаў ліфт, і ела душу крыўда ад учарашняга вечара, калі прасіў у маці грошай. Не дала. Няма, кажа, да зарплаты хоць бы дажыць. Ну, не давай, — падкусіў губу. Ва ўсіх хлопцаў кішэнныя грошы, адзін я... Ленка вунь адвярнулася, не глядзіць у мой бок, як і няма мяне... Хутчэй закончыць вучылішча ды самому зарабляць. Яна б са мной сябравала... Прыгожая... Такія вочы... Хоць бы шакаладку ёй купіў... Жэнька вунь Іры купляе... Але маці... Няма ў яе грошай... Быццам я многа прашу... Ну, хай айчым свае прапівае, а яна ж таксама зарабляе, нешта ж плацяць ёй на заводзе. Крыўда ў Сяргея, жаласць да самога сябе. Стуліў губы, і во ўжо злосць нейкая...

Гэта — раніцай. А цяпер, пасля заняткаў, шлункі так падцягнула, што, мінаючы сяброў і сяброўак, дахаты ляцеў. З аўтобуса на метро. З метро на аўтобус. Вось і прыпынак. Вось дом. Вось пад'езд. Ліфт. Дзверы.

Пад дзвярыма ляжаў, скурчыўшыся, п'яны айчым, у некалі сініх, а цяпер няпэўнага колеру джынсах і чорнай, з нейкімі бялёсымі плямамі, куртцы. Сяргей працягнуў руку, моцна націснуў на кнопку званка, хоць пэўна ведаў, што маці дома няма, у яе сёння другая змена. Пачуў, што скрыгатнуў на паверсе ліфт. А-а... Дзімка. Са спартыўнай сумкай на плячы, школьнік, гады на чатыры за яго, Сяргея, меншы. У яго вунь "ліхтар" пад левым вокам і з прарэхай рукаў у куртцы. Расхрыстаны.

— Добры дзень, — ціха, амаль разгублена вітаецца.

— Прывітанне, — буркнуў яму галодны і злосны Сяргей і, адчыніўшы ключом дзверы, пераступіў цела п'янага айчыма.

Дзімка сядзеў на кухні, перад ім стаяла талерка з блінчыкамі, смачнымі, з мясам, ён нехаця еў, думаючы сваё. Было так сумна. Нічога ён не можа перайначыць. Б'юць яго хто хоча і як хоча, і ён нічога не можа зрабіць. І ў класе, і на вуліцы. Чаго яны такія злосныя? — думаў Дзімка. — І дзяўчынкі некаторыя... Я ж вось нікога не хачу пабіць, у мяне ніколі такіх жаданняў не было, а ім толькі б таўхануць, толькі б піхнуць, ды яшчэ мацюком наверх... Як яны любяць мацюкацца? Мама, як раскажу, толькі горка ўздыхае: "Неяк прыстасоўвайся, сынок. Іх жа не пераменіш. Цяпер многа злосных, і дарослых, і дзяцей". Што маме расказваць? Працавала б яна не ў гэтай гімназіі, а ў нашай школе, дык бы... Ці каб тата быў жывы. Ён бы падышоў, аднаму ў каршэнь даў бы, астатнія б не лезлі... А што мама? Неяк на вуліцы пачала разбірацца — яны яе не слухаюцца, ха-ха ды хі-хі, нават нехта ёй матам, хоць і напаўголаса... Ходзяць табуном, цвеляцца: "Мамчын сынок". Які я мамчын сынок? Што не мацюкаюся, як яны, ды не злуюся ні на кога? Зайду на перапынку ў буфет, куплю шакаладку, абавязкова нехта падбяжыць, будзе глядзець, як я ем, і крычаць: украў!

Дзімка з'еў адзін блінчык, быў узяўся за другі, пакалупаў відэльцам — расхацелася. Адсунуў ад сябе талерку. Наліў чарпаком з каструлі кампоту ў кубак. Выпіў. Зноў сядзеў сам сабе, як зачараваны.

І навошта ён мне быў, гэты Генка? Ён жа вялікі, школу ўжо скончыў. Запыняе ля пад'езда, руку падае, як даросламу, размаўляе, і я стаю з ім, усміхаюся. А цяпер пачаў... Я яму сказаў ужо:

— Усё. Я з табой больш не сябрую.

— Ты нясі мне, пахан, на пачак "Прымы". Ясна? Кожны дзень. Не прынясеш — будзеш біты.

— Я ў міліцыю на цябе заяўлю.

— У мяне ў міліцыі ўсе сябры. Брат міліцыянт. Ты запомніў? Кожны дзень на пачак "Прымы". Не прынясеш — будзеш біты.

Сёння ён ударыў кулаком пад вока і за куртку цягнуў, рукаў вось паехаў. Што скажа мама?

Дзімка прыціх, думае. Згадваецца яму чамусь вёска, бабуля з дзедам... Усплыло: лета, аўтобусная станцыя, ён малы, толькі ў школу пайшоў, мама ў белай сукенцы, і дзядзька Лёня... У дзядзькі Лёні кашуля трактарам пахла... Во! Хай бы быў дзядзька Лёня...

Дзімка быццам узрадаваўся нечаму. Але апомніўся.

Сам я, сам... Ён і цукеркі мне купляў. Я іх паеў, але мамы яму не аддаў. Учапіўся маме ў сукенку, а другой рукой дзядзьку Лёню адпіхваю, крычу праз слёзы: ідзі, ідзі!..

Уздыхнуў Дзімка. Малы быў, не разумеў нічога. Цяпер выйшаў бы са мной з пад'езда дзядзька Лёня і Генку гэтаму ў каршэнь, у каршэнь! Вось як было б... Не чапіўся б ён да мяне з гэтай "Прымай"... А што кашуля ў дзядзькі Лёні трактарам пахла... Новую б яму купілі...

Дзімку чамусь хочацца плакаць. Ён сядзіць на кухні, гаротны, маўклівы, нічога яму не хочацца рабіць. Хутка павінна прыйсці з працы мама. Прыйдзе. Ну і што? Увечары мама не паспявае адчыняць на званок дзверы — у мамы рэпетытарства, яна сядзіць па вечарах з чужымі людзьмі, а ён — адзін. Зробіць урокі, а пасля... Тэлек не дужа хочацца глядзець. Найбольш сядзіць у сваім пакоі з магнітафонам, касету за касетай мяняе... Тэлефон!

— Алё, — маркотна выдыхае ў трубку Дзімка.

— Я наконт рэпетытарства па англійскай. Колькі вы бераце за гадзіну?

— Пазваніце, калі ласка, увечары.

Паклаў трубку, сеў тут жа, ля тэлефона, у крэсла, падкурчыў ногі. Задрамаў.

Вера стаіць на аўтобусным прыпынку, аўтобуса нешта доўга няма, ужо мінут дзесяць, але яна не хвалюецца — выйшла з дому трохі раней, яе ўрокі ў гімназіі пачнуцца праз гадзіну, а тут ехаць недалёчка, паспее. Сонца вясновае грэе. Хочацца зняць ужо гэтую скуранку ды ў лёгкай адзежыне, у лёгкім абутку, з распушчанымі валасамі... Але ветрана. Шыецца, халаднаваты. Падыходзяць і падыходзяць людзі. Ужо натоўп на прыпынку.

Тася. У шэрай даўгаватай куртцы, з шэрым берэтам на галаве. Чорная сумка ў руцэ.

— Добры дзень, — згледзеўшы суседку, паволі падыходзіць, вітаецца, і Вера ёй ветліва адказвае. Тая пытае, ці доўга яна тут стаіць, чакае, і Вера ахвотна кажа.

Тася заціхае, апускае галаву, маўчыць, нейкая яна не такая, як заўсёды, цішэйшая нейкая. Маўчыць і Вера.

— Я ж, Вера, выгнала Мішу, — падымае галаву і сумнымі вачыма пазірае Тася. — На халеру ён мне такі?

— Ой, вы і так... столькі цярпелі, — шчыра спагадае ёй Вера.

— Ты ж знаеш, які ён... Але казаў, у пад'ездзе нашым сабе знойдзе... — і насцярожана пазірае на Веру.

— Ой, каму ён трэба! — кажа тая без ваганняў.

І гэтак даўно яны, колькі жывуць побач, размаўляюць: Тася яе на "ты", а Вера — не можа так, толькі "вы" ёй. Хоць яны, бадай, аднагодкі. Вера ніколі, нават у лепшыя свае часы не была ганарлівай. Ганарлівай быць нецікава. Спакойная, ураўнаважаная, з цеплынёй у душы — заўсёды. Так цікавей жыць. Затое Тася... Быў у яе гэты алкаголік Міша,і так яна высока перад ёй, Верай, галаву несла: я з мужам, а ты — адна. Без дулі ні да носу. Вера толькі сумна пасміхвалася. Сёння Тася разгаворлівая...

— Пайшла я, Вера, з завода. У метро цяпер, прыбіральшчыцай. Таксама па зменах працую. Але бясплатны праезд цяпер, — радуючыся, вымае Тася з кішэні курткі, паказвае карычневае пасведчанне. — І нават на электрычках. Цяпер да мамы, у вёску, на электрычках езджу, бясплатна. Дзве перасадкі, але затое бясплатна.

— Нічога страшнага, што перасадкі, — кажа ёй Вера.

— Паехалі во з Сяргеем, яму ж білет за паўцаны, сумку бульбы прывалаклі. Буракоў трохі.

— Ну, правільна. Усё не купляць. Цяпер гародніна дарагая.

— Там жа, у вёсцы, бацька яго... Зарабляе, машына ў руках, але каб хоць калі даў што Сяргею, у яго ж гэтых левых рэйсаў... Аліменты — і ўсё. Як і няма ў яго гэтага сына. Скупярдзяй! Гадуе сваіх дваіх, з другой жонкай — тая матцы яго даспадобы прыйшлася, дык і жывуць. Матка яго дужа ва ўсё ўмешваецца, больш, чым жонкі, яе слухаецца. Наравістая. Развяла нас... Дом новы пабудаваў, абгарадзіў усё, "жыгуля" купіў, раз'язджаюць, і мне так непрыемна сустракацца з ім... Жабрачка я перад ім. Хоць і ў горадзе жыву. Што гэты горад? Адно, кватэру гэту маю, выплакала некалі...

— Ой, цяпер час такі, ніхто нікому не спагадае. Кожны пад сябе грабе.

— Сёння ў мяне выхадны, — не маўчыць, выказвае сваё Тася, — дык во хачу паехаць купіць Сяргею што на ногі. Прыбрала ў кватэры ды паеду.

Шурхае побач коламі жоўты "Ікарус", натоўп сунецца ў дзверы, заходзяць разам з усімі і Вера з Тасяй, і ў аўтобусе стаяць між людзей, ужо кожная сама сабе.

Сяргей рана прачнуўся, але маці ўжо не было дома, у яе сёння першая змена. Нядзеля. У нармальных людзей выхадны. А ў Сяргея сёння дзень нараджэння — яму шаснаццаць! Ён даўно думаў пра гэты свой дзень, чакаў яго і дзіўна хваляваўся. Быццам не было ў яго дагэтуль дзён нараджэння. Былі. Але то былі не такія. Цяпер ён атрымае пашпарт. Ужо заўтра можна ісці атрымліваць. Гэта значыць, дарослым стаў. Гадзіны праз дзве прыйдзе Жэнька, сябра, разам у вучылішчы вучацца. Чакае Сяргей. Але вельмі расчараваны: чаму пусты халадзільнік? Ні торціка, ні кока-колы... Маці ж знае... Ды што яму цяпер кока-кола? Можна было б і гарэлкі... Але ж маці... Яна думае, што я ўсё яшчэ маленькі... Вырас я з гэтых яе торцікаў... Усё ўжо можна: і цыгарэту, і чарку — як даросламу, як мужчыне.

Ён ныкаў па кватэры, у сервант зазіраў, быццам на нешта спадзяваўся. Пайшоў айчым — выветрылася ўсё. Але маці к полудню прыйдзе, прынясе штонебудзь... Чакай яе. Жэнька вунь хутка будзе...

Яму распірала ад нейкага дзіўнага адчування грудзі, моцна білася сэрца, і хацелася, каб усе, увесь свет бачыў і разумеў яго... Шаснаццаць! Пахадзіў, засунуўшы рукі ў кішэні штаноў, па ціхай пустой кватэры. Адчыніў дзверы ў лоджыю — шыбанула свежым вясновым паветрам. Выйшаў у лоджыю, пастаяў, шырока расставіўшы ногі, паглядзеў на пустыр, што перад домам, на

*(Працяг на стар. 15)*



**цу, дык, зразумела, у такім разе не проста настроіць сябе псіхалагічна. Ён жа вельмі адказны спявак. Менавіта гэтая рыса і дапамагае яму — у жыцці, на сцэне, — і часам шкодзіць... А яшчэ ён цудоўны сем'янін, любіць і ўмее гатаваць. Ненавіджу кухню, а ў яго гэта атрымліваецца цудоўна.**

Быць заўсёды "на плыву", у выдатнай форме яму дапамагае сяброўства са спортам. У маладосці ён уваходзіў у зборную Расіі па бегу на каньках на 500 метраў і на гэтай дыстанцыі сем гадоў трымаў рэкорд. Акрамя таго, займаўся веласпортам, валейболам. Такая рыса спартсмена, як азартнасць, дапамагла Ю. Бастрыкаву дасягнуць пэўных прафесійных вышыняў у мастацтве. Праўда, на думку жонкі, у яго няма прагнасці да пашаны, а гэта ж неабходна для артыста. Маўклівасць, а часам залішняя сціпласць замінаюць яму ў артыстычным асяроддзі.



Але ж ён ведае сабе цану, свае творчыя магчымасці. Між іншым, Н. Гайда вылучае і такую немалаважную адметнасць: яго ўменне насіць касцюм, праўда, калі той пашыты адпаведна фігуры. Неяк у Мінску на прэм'еру "Фаўста" ў пастаноўцы С. Штэйна завітаў знаны оперны рэжысёр Б. Пакроўскі, які адзначыў, што артыст Ю. Бастрыкаў у партыі Валянціна добра спявае і яшчэ "ўмее насіць касцюм".

Канцэртмайстар Георгій Карант, які шмат гадоў працуе з Юрыем Бастрыкавым, мяркуе, што гэты спявак для многіх сваіх калег лічыцца эталонам вакальнай тэхнікі. Словам, калегам ёсць чаму ў яго павучыцца.

**Вера КРОЗ**

*На здымках: народны артыст Беларусі Юрый БАСТРЫКАЎ у ралях Міракля і Радрыга.*



скага інстытута — спявачка Валянціна Іванаўна Першына. Пазаймаўшыся са мной, яна параіла паступаць у інстытут. Я паступіла ў Гнесінскі інстытут пры конкурсе 7-8 чалавек на месца. І вось там жа вучыўся сын Лісіцыяна. Таму мы часта сустракаліся з Паўлам Герасімавічам і яго сынам.

**— А потым вы трапілі ў Мінск?**

— Аднойчы Валгаградскі тэатр быў на гастролях у Мінску. А я ж мінчанка! Тады ў Бабруйску працаваў яшчэ Магілёўскі тэатр музычнай камедыі, і дырэктар будучага мінскага тэатра прапанаваў мне папрацаваць у Бабруйску да адкрыцця тэатра ў сталіцы (што і адбылося ў 1971 г.). А я ў тым самым годзе атрымала дыплом у Гнесінскім інстытуце.

Пачалі працаваць у Мінску. Выступалі спачатку ў клубах, палацах... Потым пераехалі ў новы будынак на Мяснікова. Толькі, на жаль, зала ў ім для нас малаватая. Але я вельмі ганаруся сваім тэатрам і самааддана люблю яго!

**— Вы доўгі час працавалі ў Расіі, а таксама шмат ездзілі на гастролі з беларускім музычным тэатрам. Дзе вас лепш прымалі? Ці, можа, увогуле, розніцы няма?**

— Я б сказала, што вялікай розніцы няма. Мінскі тэатр раней многа гастраляваў. Ленінград, Калінінград, Архангельск, Мурманск... Аб'ездзілі ўсю Украіну, і, канешне, Беларусь. Нас усюды сустракалі "на ўра". Перабіраю свой архіў і знаходжу шмат цікавага. Напрыклад, вось вялікая паштоўка з Ленінграда, у якой такія цёплыя кампліменты! Столькі лістоў з добрымі словамі!

**— Скажыце, а вам ніколі не хацелася ўсё ўзяць ды кінуць?**

— Не! Наадварот! Мне хутчэй надакучвае хатняя праца. Я прыходжу ў тэатр і там адпачываю. Ён мне ніколі не надакучыць! Нават калі якія непрыемнасці — я там "адыходжу". А калі, бывае, хварэю — выходжу на сцэну і нічога не адчуваю, акрамя радасці.

**— Гэта сапраўды так? Ці шчыра вы гаворыце?**

— Шчыра! Вось нават сёння: я замарылася, да таго ж — нагаварылася, а калі б мне зараз патэлефанавалі і выклікалі на спектакль — усё б кінула і пабегла ў тэатр! Дарэчы, быў такі выпадак. Я памыла галаву, бо ведала, што ў той вечар замест мяне павінна спяваць артыстка Іванова. Я расслабілася. Раптам — тэлефонны званок. Памрэж кажа, што Іванова не прыйшла, а ўжо трэба даваць трэці званок. Ніколі не забуду, як я з мокрай галавой (мусіла завязаць хустачку) "лавіла" таксі! Вось так бывае!

**— Што вам бліжэй: класічная аперэта ці, скажам, мюзікл?**

— Калі шчыра, мне бліжэй класічная аперэта, там ёсць "поле дзейнасці" не толькі як вакалісту, але і як драматычнаму акцёру. Гэта вельмі цікава. Ну, і, зразумела, музыка Кальмана, Афенбаха, Легара, Планкета, Цэлера — яна цудоўная. Але калі ўзяць нашы сучасныя творы — я не магу сказаць, што іх не люблю. Мы вельмі любілі "Несцерку". У нас ішла "Паўлінка", я іграла Альжбету — вельмі любіла гэтую ролю. Добры быў спектакль. Было б нядрэнна, каб гэтыя спектаклі зноў з'явіліся ў рэпертуары тэатра.

**— А як вы ставіцеся да эстраднай музыкі?**

— Я люблю Пугачову, вельмі люблю Кіркорава, Лявонцьева, Мікалая Баскава. З беларускіх выканаўцаў — "Песняроў", "Верасоў" — слухаю іх з задавальненнем.

**— Ці ёсць у вас хобі?**

— Хобі для мяне — зямля, кветкі, мо дачны ўчастак. Калі ў мяне выдаецца вольны час, я еду на дачу. Там свежае паветра... размаўляю з раслінамі... Атрымліваю на прыродзе задавальненне. Я люблю Беларусь. У нас такая цудоўная прырода! Лясы, пагоркі, рэкі... Беларусь такая прыгажуня! А яшчэ я люблю "важдацца" з птушкамі і рознымі звяркамі. У мяне дома перыядычна жылі хамячкі, вавёрка, марская свінка, папугай, галка... І гэта пры тым, што ў кватэры пастаянна жылі каты і сабакі, нават чарапаха — Кацька.

**— Ніна Антонаўна, вы не лічылі, колькі роляў ужо сыгралі?**

— Калісьці я налічыла каля 200, але потым зразумела, што "не ахапіла" палову мінскага перыяду, Я не адмаўляюся ні ад якіх роляў: ні ад маленькіх, ні, зразумела, ад вялікіх. Таму што мне ўсё цікава. У мяне нават эпізадычныя ролі добра атрымліваюцца.

Ведаеце, калі я атрымліваю ролю, чытаю і ўжо з тэксту ўяўляю характар гераіні. А калі мы пачынаем працаваць над новым спектаклем з рэжысёрам, які яго ставіць, ён дае артыстам сваё бачанне п'есы і характараў дзейных асоб, улічваючы асаблівасці выканаўцаў. А бывае так, што, пакуль еду ў метро, у галаве "пракручваю" ролю або партыю напяваю. Спрабую розныя інтанацыі: як жа лепш сёння сказаць.

**— Жадаю вам сыграць яшчэ як мінімум столькі ж роляў, колькі вы ўжо сыгралі!**

**Гутарыла Вольга НАВАЖЫЛАВА**

*На здымках: заслужаная артыстка Расіі Ніна РАВІНСКАЯ ў спектаклях "Судны час" і "Сільва".*

МАНАЛОГІ

# Чую голас салаўя

***Эдуард Кірыленка нарадзіўся ў 1937 г. у Гомелі. Закончыў Гомельскае музычнае вучылішча імя Н. Сакалоўскага (цяпер каледж), Беларускую дзяржаўную кансерваторыю імя А. Луначарскага, працаваў дырэктарам Лідскага і Маладзечанскага музычных вучылішчаў. З 1980 года — дырэктар Гомельскага каледжа мастацтваў. Заслужаны дзеяч культуры Рэспублікі Беларусь.***

— Кожны год я з асаблівым нецярпеннем чакаю вясны, чыстага прамяністага неба, памаладзелай зямлі. Ужо напрадвесні лаўлю звонкую песню салаўя ў зарэчнай паркавай зоне за Сожам. І песня любага птаха як чарговая уверцюра музычнага жыцця нашага каледжа мастацтваў, які носіць імя выдатнага беларускага кампазітара Нестара Сакалоўскага.

Каледж з'яўляецца адной са старэйшых навучальных устаноў рэспублікі і рыхтуецца сёлета да 80-гадовага юбілею. І не адна звонкая птаха — спевакі, музыкі ўзняліся ў творчую прастору з ягоных сцен. За часы свайго існавання каледж (раней ён называўся музычным тэхнікумам і вучылішчам) падрыхтаваў для нашай культуры 5 з паловай тысяч спецыялістаў.

Чым жа жыве сёння наша навучальная ўстанова, наш выкладчыцкі калектыў? Бурлівым жыццём. Пачну з самых апошніх падзей. Каледж заслужыў аўтарытэт па многіх напрамках сваёй дзейнасці. І таму не дзіўна, што ён стаў базай Пеўчых акадэмій, якія арганізоўваюць разам з намі Міністэрства культуры Беларусі, Беларуская акадэмія музыкі, упраўленне культуры аблвыканкама, абласная філармонія. Якія толькі творчыя калектывы не прымалі ўдзел у апошняй (сёмай ужо) Пеўчай акадэміі. Гэта Дзяржаўны акадэмічны народны хор Рэспублікі Беларусь імя Г. Цітовіча пад кіраўніцтвам народнага артыста Беларусі, прафесара М. Дрынеўскага, хор пад кіраўніцтвам народнага артыста СССР, прафесара В. Роўды, хор "Акадэмія" з Мінска, Дзяржаўная акадэмічная харавая капэла Рэспублікі Беларусь Р. Шырмы... Сапраўднае свята народнай песні! Пеўчая акадэмія — гэта яшчэ і навукова-практычныя канферэнцыі пра сучасны стан пеўчых традыцый на тэрыторыі Беларусі, фальклорныя напрамкі дзейнасці сучасных беларускіх кампазітараў.

Народная песня — гэта цэлы сусвет у мастацтве, крыніца кампазітарскага натхнення. Таму сваю сцэну мы з вялікім задавальненнем прадастаўляем і гарадскому сімфанічнаму аркестру, кіраўніком якога з'яўляецца В. Краўцоў. Ён напоўніў музычнае жыццё гамяльчан новымі фарбамі. Выступленні гэтага калектыву заўсёды ідуць пры запоўненай зале. У канцэртах аркестра прымаюць удзел вядомыя музыканты з Мінска, Санкт-Пецярбурга і іншых гарадоў. Прыемна бачыць разам з імі на сцэне выкладчыкаў і навучэнцаў каледжа. У нас стала традыцыяй выступленне ў канцэртах музыказнаўцаў. Асабліва палюбіліся гамяльчанам "Музычныя серады"...



Многія выдатныя педагогі стваралі славу навучальнай установе. Назаву толькі некаторых з іх: А. Туранкова, Р. Пуксту, М. Фалейчыка, К. Каваленку, А. Лукомскага, З. Бодніч, Т. Станпакову, А. Гурава, Я. Шаўчэнку, Н. Цітова, В. Двораву, У. Надтачэя. Зараз у нас працуе 125 выкладчыкаў, займаецца 573 навучэнцы па 6 спецыяльнасцях: інструментальнае выканальніцтва, спевы, дырыжыраванне, харэаграфія, народная творчасць, музыказнаўства. Нашы навучэнцы паспяхова выступаюць на міжнародных і рэспубліканскіх конкурсах, атрымліваюць дыпломы і ганаровыя граматы.

І творчыя нашы калектывы заслужылі славу не толькі ў вобласці, але і далёка за яе межамі. Духавы аркестр, якім кіруе А. Чваркоў, носіць званне народнага і з'яўляецца лаўрэатам рэспубліканскіх конкурсаў. Такое ж званне мае і цымбальны аркестр, які ўзначальвае У. Іваноў. Шмат працуе над павышэннем прафесійнага майстэрства камерны аркестр, кіраўніком якога з'яўляецца А. Мазепін. Лаўрэатам міжнародных і рэспубліканскіх фестываляў стаў народны акадэмічны хор, з якім плённа працуе А. Сабалеўская. Адзначу такія калектывы, як аркестр баяністаў (кіраўнік У. Баглай), хор народнай песні (кіраўнік А. Баруценка), народны хор (кіраўнік Л. Новікава).

**Занатаваў Аляксей ШНЫПАРКОЎ**

*На здымку: дырэктар каледжа мастацтваў імя Н. Сакалоўскага, заслужаны дзеяч культуры РБ Э. Кірыленка (справа) і загадчык кафедры Беларускай акадэміі музыкі, прафесар, народны артыст РБ Я. Гладкоў.*

КАНЦЭРТЫ

# З лёгкай рукі піяніста

Кожны артыст, і асабліва таленавіты, — гэта перш за ўсё прапагандыст узораў мастацтва, які валодае шырокім колам музычнай інфармацыі і даносіць яе да шырокай аўдыторыі. Піяніст Барыс Бергер у прафесійным музычным асяроддзі нашай краіны вядомы як нястомны прапагандыст твораў беларускіх кампазітараў. Канцэрты беларускай музыкі ў выкананні Б. Бергера зрабіліся ўжо традыцыйнымі. Штогод нацыянальная музычная скарбніца папаўняецца новымі творамі, якія, на жаль, іншы раз падоўгу чакаюць свайго выканання, тым больш — дакладнага мастацкага ўвасаблення. Менавіта "з лёгкай рукі" Б. Бергера ажываюць многія фартэпіянныя опусы айчынных аўтараў.

Не было выключэннем і нядаўняе канцэртнае выступленне Б. Бергера ў сталічнай зале камернай музыкі. У праграму ўвайшлі творы Я. Глебава, І. Лучанка, Д. Смольскага, А. Мдзівані, Р. Суруса, У. Будніка, М. Літвіна, Л. Захлеўнага, У. Солтана, А. Хадоскі. Абавязкова выканаўца ўключае ў свае канцэрты творы старэйшыны сучаснай беларускай музыкі А. Багатырова, чыю творчасць лічыць асабліва блізкай, дарагой свайму сэрцу.

Такое шырокае кола аўтараў у праграме вымагае ад піяніста хуткага пераключэння ў стыль кожнага з іх. Гэта, безумоўна, адна з найцяжэйшых выканальніцкіх задач. Напрыклад, у першым аддзяленні санатам Д. Смольскага, насычаным суровымі, мужнымі і разам з тым фантастычнымі, дэманічнымі вобразамі, кантраставалі пяшчотныя, лірычныя п'есы з цыкла "Прынашэнне дзецям" А. Мдзівані.

Нельга не сказаць і пра вельмі складаныя тэхнічныя рэсурсы беларускіх фартэпіянных твораў, што таксама патрабуе ад выканаўцы асаблівай моцы, энергіі, эмацыянальнай напружанасці, шырыні вобразнага мыслення і, канешне, валодання разнастайнымі выразнымі магчымасцямі інструмента.

Б. Бергер выдатна прадэманстраваў усе якасці піяніста-канцэртанта. Умела спалучаліся ў выканаўцы моманты задушэўнай лірыкі з эмацыянальна яскравымі эпізодамі: яму ўдалося ўвасобіць і сумясціць палярна розныя настроі і вобразы.

Як саліст Беларускай дзяржаўнай філармоніі Б. Бергер сумяшчае канцэртную дзейнасць з выкладчыцкай працай у Акадэміі музыкі. Веданне творчасці беларускіх кампазітараў дапамагае яму ў педагогіцы, а ўласная захопленасць настаўніка беларускай музыкай перадаецца вучням яго класа.

**В. УРУБЛЕЎСКАЯ,**
**студэнтка Беларускай акадэміі музыкі**

## З лімаўскай кагорты

УЛАДЗІМІРУ ІДЭЛЬСОНУ — 75

**З газетай "Літаратура і мастацтва" Уладзімір Барысавіч звязаў свой лёс у 1956 годзе, калі па сумяшчальніцтве пачаў працаваць бібліятэкарам "ЛіМа", а з 1960-га па 1962 год быў спачатку літаратурным работнікам аддзела культуры, а пасля загадчыкам аддзела інфармацыі. Нарадзіўся У. Ідэльсон 31 сакавіка 1926 года ў горадзе Ленінградзе. Да 1941 года жыў і вучыўся ў Мінску. Калі пачалася Вялікая Айчынная вайна, сям'я эвакуіравалася ў горад Томск. У 1945 годзе У. Ідэльсон скончыў 1-е Томскае артылерыйскае вучылішча, з'яўляецца ўдзельнікам Вялікай Айчыннай вайны. Пасля дэмабілізацыі скончыў гістарычны факультэт Мінскага педагагічнага інстытута і выкладаў гісторыю ў школе і тэхнікуме, а затым і ўладкаваўся на працу ў "ЛіМ". З 1962 года з'яўляўся рэдактарам выдавецтва "Беларусь", старшым рэдактарам "Мастацкай літаратуры", а ў 1981—1988 гадах быў старшым рэдактарам выдавецтва "Юнацтва".**

**Літаратурную працу Уладзімір Барысавіч пачаў у 1959 годзе як крытык. З гэтага часу перыядычна выступаў з артыкуламі і рэцэнзіямі па пытаннях літаратуры і мастацтва. Значныя набыткі мае ў галіне перакладу. Дзякуючы У. Ідэльсону беларускія чытачы змаглі прачытаць на сваёй роднай мове кнігі "В'етнамскія апавяданні" (1968, разам з Я. Васілёнкам), "Таджыкскія народныя казкі" (1970), "Кіргізскія народныя казкі" (1971, разам з З. Петрушэняй), "Добры дзень, Вавёрка! Як жывеш, Кракадзіл?" Д. Дзмітрыева (1983) і іншыя. На рускую мову У. Ідэльсон пераклаў дакументальна-мастацкую аповесць Н. Гілевіча "Перажыўшы вайну", кнігі М. Ваданосава, П. Ткачова, П. Рунца, Г. Шыловіча, У. Паўлава, Л. Арабей, У. Федасеенкі і іншых. У літаратурным запісе яго выйшлі кнігі І. Хімічава "В борьбе и тревоге" (1977), І. Арцем'ева "Позывные Москвы" (1978), П. Хадыкі "По велению сердца" (1980). У сааўтарстве з М. Герчыкам напісаў сцэнарый мастацкага фільма паводле апавядання І. Пташнікава "Сцяпан Жыхар са Сцешыц", а таксама сцэнарыі шэрагу дакументальных і навукова-папулярных фільмаў.**

**Віншуем Уладзіміра Барысавіча з 75-годдзем. Доўгіх год жыцця вам, новых творчых набыткаў!**

## У даследчыцкім пошуку

АЛЯКСЕЮ ПЯТКЕВІЧУ — 70

**Нарадзіўся Аляксей Пяткевіч 30 сакавіка 1931 года ў вёсцы Новы Свержань Стаўбцоўскага раёна. У 1954 годзе скончыў аддзяленне беларускай мовы і літаратуры філалагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага універсітэта, а праз тры гады — аспірантуру пры кафедры беларускай літаратуры гэтай вышэйшай навучальнай установы. З 1958 года звязаў свой лёс з Гродзенскім педагагічным інстытутам імя Янкі Купалы, цяперашнім універсітэтам. З рэцэнзіямі і артыкуламі выступае ў друку з 1958 года. Акрамя таго, з-пад яго пяра з'яўляюцца гісторыка-літаратурныя і краязнаўчыя даследаванні, што публікаваліся ў альманахах, навуковых зборніках, энцыклапедычных выданнях, перыядычным друку. З цікавасцю была сустрэта кніга А. Пяткевіча "Сюжэт. Кампазіцыя. Характар. Аб прозе Кузьмы Чорнага", што засведчыла аб здатнасці аўтара глыбока спасцігаць сутнасць творчасці аднаго з самых выдатных беларускіх пісьменнікаў. Свайго роду даведнікам стала для многіх кніга А. Пяткевіча "Гродзеншчына літаратурная", якая па насычанасці фактычным матэрыялам, у тым ліку і такім, што ў шырокі ўжытак уведзены ўпершыню, мае энцыклапедычны характар. Нікому дагэтуль не ўдавалася так поўна і ўсебакова расказаць пра літаратурнае жыццё гэтага рэгіёна Беларусі, пра пісьменнікаў, якія нарадзіліся тут ці звязалі свой лёс з Гродзеншчынай альбо пісалі пра яе ў сваіх творах. Вядомы А. Пяткевіч і як аўтар артыкулаў для калектыўных даследаванняў па гісторыі беларускай літаратуры.**

**З 70-годдзем, шаноўны Аляксей Міхайлавіч! Яшчэ доўгіх год жыцця вам і новых даследчыцкіх поспехаў!**

"ЛіМ"-ФОТА



НА ЛЕСАПАВАЛЕ... *(Мікола Гроднеў, Уладзімір Някляеў і Леанід Дайнека на суботніку ў Іслачы).*

*Фота Анатоля КАЛЯДЫ з архіва Ганада ЧАРКАЗЯНА*

ЗГАДКІ

# Вяртанне Сяргея Пясецкага

Праблема вывучэння, асэнсавання ўсяго багацця нацыянальнай культуры, актуальная для беларусаў заўсёды, у апошняе дзесяцігоддзе набыла новае гучанне. Аднаўленне беларускай дзяржаўнасці, нацыянальнае адраджэнне і ў выніку новае філасофска-светапоглядНае абгрунтаванне нацыянальнай ідэі запатрабавала перагляду культурна-гістарычнай спадчыны і пэўнай міфалагізацыі яе здабыткаў. Распачалося вяртанне ў беларускі культурны і літаратурны кантэкст забароненых некалі альбо незаслужана забытых імёнаў. Да айчыннага літаратурнага пантэону далучаюцца як бясспрэчна беларускія пісьменнікі, гэтак і тыя, што яшчэ нядаўна належалі выключна суседнім літаратурам. Пры гэтым увага слушна акцэнтуецца на беларускім элеменце творчасці нашых суайчыннікаў, што пісалі на мовах суседзяў. Спецыфіка творчага светаўспрымання такіх літаратараў абумоўліваецца іх тэрытарыяльным паходжаннем, асаблівае значэнне надаецца этнакультурнаму ландшафту мясціны, адкуль паходзіць творца.

Асаблівую цікавасць у гэтым сэнсе ўяўляе польская літаратура і тыя яе прадстаўнікі, якія паходзілі з Беларусі. Беларуская прысутнасць у польскай літаратуры відавочная, нават настолькі відавочная, што давала падставу польскаму мастаку канца XIX стагоддзя Я.Мальчэўскаму канстатаваць: "Гонар польскага генія нашых часоў ўратаваў Высьпянскі. Усіх іншых нарадзіла Русь". Сапраўды, вось толькі некаторыя ўраджэнцы ці жыхары Беларусі XVIII—XIX стагоддзяў, якія сталі славай і гонарам польскай літаратуры: Адам Нарушэвіч, Дыяніз Князьнін, Францішак Багамолец, Юльян Урсын Нямцэвіч, Адам Міцкевіч, Тамаш Зан, Ян Чачот, Аляксандр Ходзька, Уладзіслаў Сыракомля, Юзэф Ігнацы Крашэўскі... З іх творчасцю распачынаўся ў польскай літаратуры і класіцызм, і сентыменталізм, і рамантызм.

Своеасаблівым донарам аказалася для польскай літаратуры беларуская зямля і ў XX стагоддзі. Эліза Ажэшка, Марыя Радзевіч, Юзэф Вайсенгоф, Леанард Падгорскі-Акалаў, Мар'ян і Казімір Здзяхоўскія, Ежы Путрамант, Тэадор Буйніцкі, Язэп Маслінскі, Юзэф Чаховіч, Ян Гушча, Эўгеніюш Кабац,— гэтыя і дзесяткі іншых славутых, выдатных і проста вядомых польскіх пісьменнікаў не толькі нараджэннем, але і духоўным станаўленнем абавязаныя найперш Беларусі, яе прыродзе і людзям.

Вышэйазначаныя творцы, асабліва XIX стагоддзя, усё больш прыцягваюць увагу беларускіх даследчыкаў і, з лёгкай рукі У.Мархеля, набылі ў айчынным літаратуразнаўстве акрэсленне "беларускіх польскамоўных пісьменнікаў". Польскую літаратуру XX стагоддзя з беларускага гледзішча даследуюць У.Казбярук, А.Лойка, А.Мальдзіс, С.Мусіенка і некаторыя іншыя нашы літаратуразнаўцы. Аднак ёсць у польскай літаратуры гэтага перыяду цэлы пласт, які наша крытыка покуль што не песціла залішняй увагай. Гаворка ідзе пра польскую эміграцыйную прозу, пра тых яе прадстаўнікоў, якія, гаворачы словамі англійскай даследчыцы Ніны Тэйлар, былі "спадкаемцамі Вялікага Княства Літоўскага", г.зн. мелі беларускае паходжанне. Гэта, у прыватнасці, Юзаф Мацкевіч, Чэслаў Мілаш, Сяргей Пясецкі, Фларыян Чарнышэвіч. Сярод чатырох памянёных празаікаў асаблівае месца займае Сяргей Пясецкі, бясспрэчна, найбольш з іх "беларускі", пісьменнік, творы якога вось ужо шэсцьдзесят гадоў захапляюць чытачоў па ўсім свеце, аднак дагэтуль амаль невядомыя чытачу беларускаму. Ушаноўваючы 100-годдзе з дня нараджэння пісьменніка, паспрабуем прыадкрыць заслону з ягонага жыцця і творчасці.

Сяргей Пясецкі — неардынарны творца і разам з тым чалавек з надзвычай складаным жыццёвым лёсам, які і прадвызначыў ягоную неардынарнасць. Пісьменнік нарадзіўся 1 красавіка 1901 г. у Ляхавічах як пазашлюбнае дзіця праваслаўнага шляхціца і ягонай служанкі. Маці сваю ён так ніколі і не пабачыў, а бацька, паштовы служачы, залішняй любоўю сына не песціў. Дзяцінства прайшло ў самотным сузіранні прыроды, чытанні кніжак. Пазней, калі з пачаткам першай сусветнай вайны бежанская доля заслала сям'ю Пясецкіх у расійскі Уладзімір, потым — Пакроў, да ўсяго гэтага далучыліся і бойкі з аднакласнікамі, якія не прымалі выхадца з Беларусі за свайго. Свабодалюбны і ўпарты характар хлопца ў сёмым класе гімназіі спрычыніўся да трагедыі: за напад на гімназіяльнага інспектара ён патрапіў у турму. У хуткім часе, аднак, Пясецкаму ўдалося ўцячы з турмы, і ён акунуўся ў тагачасны вір рэвалюцыйных падзей у Маскве. Жудаснасць бальшавіцкага тэрору настолькі яго ўразіла, што ў Мінск у 1918 годзе ён прыязджае свядомым антыкамуністам. Пясецкі ваюе з бальшавікамі спачатку ў партызанскіх атрадах "Зялёнага Дуба", дзе быў паранены, потым уступае ў войска генерала Булак-Балаховіча, затым — у польскую армію. Багатыя жыццёвыя назіранні, а таксама цесныя зносіны будучага пісьменніка з прадстаўнікамі тагачаснага злачыннага свету далі яму потым дасканалы матэрыял для напісання раманаў "зладзейскай трылогіі" — "Яблычак", "Гляну я ў вакно", "Ніхто не дасць нам вызвалення". Як зазначае сам Пясецкі ў прадмове да рамана "Яблычак", падзеі, апісаныя ў трох раманах, "*адбываюцца ў перыяд ад ранняй вясны 1918 года па жнівень 1919 года ў Мінску Літоўскім, у якім канцэнтравалася тады жыццё даўнейшай Расійскай імперыі і... Еўропы*".

У 1921 годзе Пясецкі быў дэмабілізаваны. На пачатку 1922 года ён перабіраецца ў мястэчка Ракаў, якое пасля 1921 года, маючы выгаднае геаграфічнае становішча і набыўшы прыгранічны статус, пачынае імкліва развівацца і ператвараецца на некаторы час у гандлёвы, культурны і прамысловы цэнтр памежных тэрыторый цэнтральнай Беларусі. Гэта адбылося ў значнай ступені дзякуючы велізарнай плыні кантрабанднага тавару, які ішоў у абодвух накірунках праз Ракаў. Местачкоўцы ж і жыхары прыгранічных вёсак займелі выключную магчымасць для заробку, пастаўляючы праз мяжу, з аднаго боку, польскую і еўрапейскую мануфактуру і спірт для жыхароў Савецкай Беларусі, а з другога боку, праносячы золата, валюту, футра і дыяменты з Беларусі ў Польшчу. Кантрабанда праз мяжу тавараў хутка сталася самым прыбытковым заняткам у мястэчку. Гэтая праца вымагала ад кантрабандыстаў ведання мясцовасці і ўмення добра арыентавацца на ёй, учэпістага розуму, вынослівасці, фізічнай загартаванасці і смеласці. Не дзіва, што кантрабандысты карысталіся славай людзей адважных і рашучых. Да іх далучыўся і Пясецкі.

Маладому чалавеку (нагадаю, што яму ў той час было крыху больш чым 20 гадоў) імпанавалі складанасці і небяспека, звязаныя з прафесіяй кантрабандыста. Аднак яму, відаць, хацелася яшчэ большага, надзвычайнага, гранічна рызыкоўнага.

У 1922 годзе былы вайсковец Пясецкі быў завербаваны ў польскую ваенную разведку, так званы II Аддзел, і пачаў выконваць сакрэтныя даручэнні на тэрыторыі Савецкай Беларусі. Вельмі прыдалося выдатнае веданне рускай і беларускай моў (зазначым, што да 20 гадоў польскай мовы ён увогуле не ведаў) і тагачасных савецкіх рэалій (дарэчы, адлюстраванне гэтых рэалій у ягоных пазнейшых літаратурных творах было для польскага — і еўрапейскага ўвогуле — чытача важным мастацкім адкрыццём). Праз некаторы час падхарунжы займеў заслужаную славу адказнага, адважнага і аператыўнага агента.

Праз нейкі час польскай арміі і разведцы Пясецкі не спатрэбіўся. Трэба было за нешта жыць. Памежны кантроль узмацніўся, кантрабанда прыпынілася. Цывільнай прафесіі не было, затое засталіся добра развітыя ранейшыя звычкі. Яны, уласна, і перамаглі. У 1927 годзе польскі суд асуджае Пясецкага за рабаўніцтва на 15 гадоў турмы. І вось тут адбываецца тое, што гісторыкі турмы з радасцю маглі б унесці ў свае аналы як прыклад дабратворнага ўздзеяння турэмных умоў на лёс чалавека. Праўда, гэта былі спецыфічныя ўмовы даваеннай польскай турмы, дзе зняволеным давалі чытаць перыядычныя выданні, дзе яны маглі карыстацца пісьмовымі прыладамі. Менавіта ў турме Пясецкі стаў дасканала вывучаць польскую мову. Разам з тым на дзесяты год зняволення ў яго прачынаецца літаратурны дар. У 1937 годзе, прачытаўшы ў адной з газет пра літаратурны конкурс, ён за некалькі месяцаў піша і дасылае на конкурс раман "Каханак Вялікай Мядзведзіцы", прысвечаны "кантрабандысцкаму" перыяду ягонага жыцця. Гэты першы твор Пясецкага не толькі быў адзначаны на тым ананімным конкурсе першай прэміяй, але і цалкам змяніў лёс ягонага аўтара. Раман імгненна атрымаў не толькі агульнапольскую, але і сусветную вядомасць. Толькі за два перадваенныя гады ён быў перакладзены на 11 моў і неаднаразова перавыдаваўся. Як жа мог такі славуты аўтар і надалей знаходзіцца ў турме? У выніку шматлікіх зваротаў вядомых дзеячаў польскай культуры і проста радавых чытачоў у судовыя органы Пясецкі быў датэрмінова вызвалены з турмы.

Падчас вайны Пясецкі ўдзельнічае ў фармаваннях Арміі Краёвай на Віленшчыне, а ў 1946 годзе эмігруе на Захад, спачатку ў Італію, потым у Вялікабрытанію. Расстанне з сям'ёю, што засталася ў Польшчы, жыццёвыя цяжкасці эмігранта не зламалі пісьменніка, загартавалі ягоную волю і літаратурны талент. Пясецкі пісаў аж да самай сваёй смерці ў 1964 годзе. Ягонаму пяру належаць больш за 10 раманаў і аповесцяў, якія дагэтуль перавыдаюцца ў многіх краінах свету, а таксама навелы, кінасцэнарыі. Па творах пісьменніка здымаліся мастацкі і шматсерыйны тэлевізійны фільмы.

Скупыя радкі кароткай біяграфіі не перадаюць усіх перыпетый яго яскравага, багатага на падзеі і ўражанні жыцця. Яно найперш адлюстравана ў творчасці пісьменніка. Першае знаёмства беларускага чытача з ёю адбылося дзякуючы часопісу "Спадчына" і непасрэдна сп. В.Ракіцкаму і В.Арэшку (гл. №1 за 1999 г., №1 за 2000 г.). Ёсць падставы спадзявацца, што дзякуючы рупнасці перакладчыкаў мы зможам у хуткім часе больш шырока азнаёміцца з творамі нашага слыннага земляка. З другога боку, неадкладная задача літаратуразнаўцаў — увесці творчасць Сяргея Пясецкага ў беларускі і шырэй — усходнеславянскі культурны кантэкст, з якога яна, уласна, і вырастала і якому таксама паўнапраўна належыць.

**Пятро РАГОЙША**

***Нядаўна прайшлі пасяджэнні рэдакцыйных калегій рэспубліканскіх літаратурных часопісаў і газеты "ЛіМ". На іх абмеркавана рашэнне калегіі Дзяржаўнага камітэта Рэспублікі Беларусь па друку "Аб рабоце рэдакцый літаратурных перыядычных выданняў, заснавальнікам якіх з'яўляецца Саюз беларускіх пісьменнікаў ("ЛіМ", "Полымя", "Нёман", "Маладосць", "Бібліятэка часопіса "Маладосць", "Крыніца"), перспектыўныя тэматычныя планы, надзённыя праблемы ў дзейнасці рэдакцыйных калектываў. Чытачы "ЛіМа" могуць мець пэўнае ўяўленне пра тое, як ішла гаворка, са стэнаграмы пасяджэння рэдкалегіі часопіса "Полымя". У ім прыняў удзел і выступіў кансультант інфармацыйна-аналітычнага ўпраўлення Дзяржаўнага камітэта Рэспублікі Беларусь па друку Уладзімір Матусевіч.***

# Не губляючы аптымізму і надзеі

## З ПАСЯДЖЭННЯ РЭДАКЦЫЙНАЙ КАЛЕГІІ "ПОЛЫМЯ"

**СяргейЗАКОННІКАЎ:** Шаноўныя калегі! На пашыранае пасяджэнне рэдакцыйнай калегіі часопіса "Полымя" запрошаны не толькі яе сябры, але і ўсе супрацоўнікі: і творчыя, і тэхнічныя. І гэта невыпадкова. Сёння працэс выпуску нашага выдання зусім не такі, як раней. У сувязі з тым, што рэдакцыя сама рыхтуе арыгінал-макет часопіса і перадае яго ў друкарню, значна ўзрасла роля кожнага з нас у своечасовым выкананні і якасці агульнай працы. Разумеючы гэта, усе супрацоўнікі стараюцца не падводзіць адзін аднаго. Увогуле, калі гаварыць пра калектыў рэдакцыі, то мяне радуе, што тут сабраліся сапраўдныя патрыёты "Полымя". Нягледзячы на мізэрную зарплату, на цяжкія ўмовы, у нас няма кадравай сумятні, захоўваюцца стабільнасць і лад. Дзякуй за гэта ўсім вам!

А цяпер пра тое, чаго мы дасягнулі, чым жывем, што нас хвалюе, клапоціць. Як адзначалася на калегіі Дзяржкамдруку, "часопіс "Полымя" вызначаецца высокім узроўнем большасці публікуемых матэрыялаў". Гэтую ацэнку падзяляюць таксама многія нашы падпісчыкі і чытачы. Яны цікавяцца не толькі новымі літаратурнымі творамі, але і разнастайнымі матэрыяламі, якія змяшчаюцца ў раздзелах "Спадчына", "Старонкі нашай гісторыі", "Успаміны. Дзённікі. Дакументы", "Постаці", "Пра час і пра сябе" і г. д. Адным з лепшых нашых дасягненняў стала пастаянная рубрыка "Культура мовы". Станоўчую ацэнку атрымала і ўведзеная з 1997 года рубрыка "Галасы свету", пад якой змяшчаюцца вялікія падборкі перакладаў на беларускую мову твораў сучасных пісьменнікаў блізкага і далёкага замежжа.

Часопіс рэгулярна друкуе аглядныя крытычныя і літаратуразнаўчыя матэрыялы, асобныя артыкулы, прысвечаныя творчасці як класікаў, так і сучасных літаратараў, якія адразу выкарыстоўваюцца на занятках у школах, гімназіях, ліцэях, каледжах, вучылішчах, ВНУ. Можна сказаць, што тут "Полымя" выступае як бы ў дзвюх іпастасях: і як хрэстаматыя, і як падручнік па літаратуры.

Але мы сабраліся не для таго, каб толькі пералічваць дасягнутае. Наш калектыў заўсёды ставіцца да сваёй працы самакрытычна. Хачу сказаць, што захоўваць высокі ўзровень часопіса сёння нялёгка. Знізілася не толькі актыўнасць аўтараў, але і якасць твораў, якія прапануюцца рэдакцыі. Гэта тычыцца амаль усіх літаратурных жанраў. Мы стараемся заахвоціць пісьменнікаў да супрацоўніцтва, рэгулярна вядзём перамовы, робім пэўныя спецыяльныя заказы, але, на вялікі жаль, сітуацыя застаецца складанай. Раней рэдакцыя ў сваім "партфелі" мела запас адабраных, падрыхтаваных якасных твораў і матэрыялаў на пяць-шэсць месяцаў наперад, што давала магчымасць прасторы, выбару пры фармаванні чарговага нумара часопіса. Канешне ж, мы і цяпер запас маем, але ён не такі багаты. Часта, калі з'яўляюцца сапраўды выдатныя творы, а для іх у часопісе заўсёды "зялёная вуліца", даводзіцца рыхтаваць спешна, як кажуць, — з плеч ды ў печ. Гэта прыносіць шмат клопатаў усім: і галоўнай рэдактуры, і творчым, і тэхнічным супрацоўнікам.

Думаецца, што на агульны стан сучаснага літаратурнага працэсу ўплывае атмасфера нейкай няпэўнасці, разгубленасці, якая пануе ў нашым грамадстве. Апатыя паралізуе творчы пачатак не толькі ў пісьменніцкім асяроддзі, але і ў іншых галінах жыцця. Інтэлектуальная частка грамадства, наогул, трапіла ў бядоту, займаецца не творчасцю, а элементарным фізічным выжываннем, перабіваецца нейкімі выпадковымі заробкамі. Усё гэта не на карысць паляпшэння сітуацыі.

Дайшло да таго, што рэдакцыя часта вымушана прымаць ад аўтараў творы, напісаныя ад рукі, бо ў іх няма грошай, каб заплаціць за камп'ютэрны набор або проста машынапісны перадрук. Вось і корпаюцца нашы наборшчыкі з такімі рукапісамі, разгадваюць почыркавыя рэбусы, слепяць вочы, губляюць свой каштоўны час. Але гэтыя праблемы — не галоўныя, іх можна вырашыць.

Больш складанымі для рэдакцыі застаюцца праблемы эканамічна-фінансавыя. Сродкаў пастаянна не хапае, каб часопіс выходзіў без спазнення, у поўным аб'ёме, з прыстойнай вокладкай і мастацкім афармленнем, на добрай паперы. І хай нас выбачаюць за гэта падпісчыкі і чытачы. Усё ж, як бы там ні было, а за мінулы год маем дванаццаць нумароў. Мы не пайшлі на тое, каб здвойваць нумары. І ў гэтым годзе будзем выходзіць кожны месяц.

Трэба аддаць належнае, часопіс мае значную дзяржаўную падтрымку, але яна з году ў год змяншаецца. А таму рэдакцыя сама пастаянна прымае захады, каб палепшыць эканамічнае становішча. Доля ўласных даходаў для выпуску часопіса за мінулы год склала 41 працэнт. Гэта адзін з лепшых паказчыкаў сярод аналагічных выданняў.

Цяпер накont падпіскі. У канцы 80-х і на пачатку 90-х гадоў яна даходзіла да 10,5 тысячы экземпляраў. З увядзеннем двухмоўя, пагаршэннем адносін да роднай мовы з боку афіцыйных улад і зніжэннем жыццёвага ўзроўню людзей падала і падпіска. Сёння чалавеку трэба выбіраць: або кавалак хлеба, або часопіс ці кніга. Тым не менш, у апошні час часопіс мае стабільна 3000 экземпляраў, лідзіруе сярод аналагічных выданняў і па гэтым паказчыку. Але, бясспрэчна, павышаць тыраж трэба. І рэдакцыя пастаянна працуе ў гэтым накірунку: праводзіць літаратурна-мастацкія вечары, сустрэчы з чытачамі на прадпрыемствах, у бібліятэках і клубах, у школах і ВНУ.

Дарэчы, не маючы магчымасці выпісаць часопісы, газеты, людзі зараз актыўна ідуць у бібліятэкі. Я часта бываю ў бібліятэках і бачу на свае вочы, якія там зачытаныя нумары "Полымя". Часопіс патрэбен і школьнікам, і студэнтам для падрыхтоўкі да заняткаў, і выкладчыкам, і навукоўцам, і ўвогуле ўсім сталым чытачам. Але, на жаль, па прычыне недахопу фінансаў не ўсе бібліятэкі выпісваюць наш часопіс і іншыя літаратурныя выданні. Хацелася б, каб гэтая праблема была вырашана на дзяржаўным узроўні, і тады будзе падтрымка не толькі "Полымю", але і школьнікам, студэнтам, і ўсім нашым чытачам.

У рашэнні калегіі Дзяржкамдруку, пра якую я згадваў раней, ёсць крытычныя заўвагі ў адрас часопіса. Рэдакцыі рэкамендуецца "пры адборы матэрыялаў больш узважана і аб'ектыўна падыходзіць да ацэнак падзей мінулага і сённяшняга дня Беларусі, фактычнай абгрунтаванасці аўтарскіх высноў". У сувязі з гэтым хачу зазначыць, што старонкі "Полымя" адкрытыя для ўсіх таленавітых аўтараў. І кожны з іх мае права на сваю думку, на сваю пазіцыю. Такое права трэба паважаць і ўлічваць у рэдакцыйнай працы. Што мы і робім. Гэта тычыцца твораў, матэрыялаў як пра сённяшні дзень, так і пра падзеі мінулага.

Мне думаецца, што якраз "Полымя" на працягу многіх гадоў фармуе з дапамогаю высокапрафесійных, дасведчаных аўтараў аб'ектыўнае асэнсаванне айчыннай гісторыі, прынцыпова і праўдзіва асвятляе сённяшнюю рэаліі. Наша пазіцыя была і застаецца нязменнай — падтрымліваць усё таленавітае, што ствараецца пісьменнікамі і навукоўцамі, выконваць асветніцкую місію па пытаннях гістарычнага развіцця Беларусі, выхоўваць у людзей нацыянальную самасвядомасць, патрыятызм, павагу да роднай мовы, культуры, разуменне неабходнасці пабудовы сваёй незалежнай дзяржавы, дзе ўсе яе насельнікі змогуць жыць багата не духоўна, так і матэрыяльна.

А цяпер я даю слова намесніку галоўнага рэдактара Генадзю Дзмітрыеву, які расказа пра рэдакцыйныя планы, пра іншыя праблемы нашага жыцця.

**ГенадзьДЗМІТРЫЕЎ:** У кожнага сябра рэдакцыйнай калегіі ёсць падрыхтаваны намі загадзя прыкладны тэматычны план часопіса "Полымя" на першае паўгоддзе 2001 года, таму, відавочна, няма патрэбы спыняцца на ім падрабязна. Заўважу толькі, што ў рэдакцыйным "партфелі", асабліва ў яго мастацкім раздзеле, прадстаўлены імёны найбольш вядомых нашых пісьменнікаў. Больш сціплае месца ў плане адведзена маладым аўтарам, што абумоўлена традыцыйна высокімі патрабаваннямі часопіса да мастацкага ўзроўню твораў. Менавіта на гэтым і хацелася засяродзіць вашу ўвагу. Не сакрэт, што якраз мастацкі ўзровень твораў, якія прапануюцца рэдакцыі, апошнім часам няўхільна зніжаецца (у прынцыпе, гэта характэрна для ўсёй нашай мастацкай літаратуры). Не вазьму на сябе смеласць адназначна акрэсліць усе прычыны такой з'явы. Іх шмат. Не апошняя з іх — агульнае стаўленне дзяржавы да нацыянальнай культуры ў цэлым і да беларускай мовы і літаратуры ў прыватнасці. Вынікі вядомага рэферэндуму не маглі не адбіцца негатыўна на самім жаданні беларускіх пісьменнікаў працаваць з высокім творчым імпэтам. Ці надта натхніцца пісьменнік любога ўзроўню на самаадданую творчую працу, калі дзяржава абяцае падтрымку толькі лічаным творцам — аўтарам літаратурных шэдэўраў? У шэрагу прычын — няўхільнае змяншэнне колькасці беларускіх школ, адпаведна — зніжэнне попыту на беларускую мастацкую кнігу. З асабістага настаўніцкага вопыту ведаю, што школа заўсёды задыхалася ад недахопу сучасных твораў. Чамусьці чыноўнікі ад адукацыі мелі за лепшае ўводзіць у праграму па беларускай літаратуры для пазакласнага чытання ідэалагічна вывераныя творы адных і тых жа пісьменнікаў, прычым на доўгія гады, ігнаруючы сучасныя таленавітыя творы. Выпісаць для школьнай бібліятэкі "Полымя" альбо "Маладосць" заўсёды было вялікай праблемай, не кажучы ўжо пра час сённяшні. Прыкінцы, колькі ў краіне школ (хаця б адных вясковых, у якіх яшчэ дыхае беларушчына), і параўнайце гэтую лічбу з накладам названых часопісаў! А яшчэ дадайце сюды мізэрныя ганарары, якія ці здольныя закрыць у поўнай меры чыста тэхнічныя выдаткі на перадрук. Да прыкладу, наш малады празаік у Нямеччыне за апавяданне памерам у 6 старонак атрымлівае ганарар каля пяцісот дойчмарак, а народнага пісьменніка Беларусі за аповесць, надрукаваную ў часопісе "Полымя", мы "ашчаслівілі" ганарарам аж у сто тысяч беларускіх рублёў! Ці пагадзіцца б той чыноўнік, што вызначае ганарарную палітыку ў дзяржаве, за такія грошы хоць бы толькі перапісаць гатовую аповесць?

Названыя праблемы самым непасрэдным чынам уплываюць і на агульны ўзровень іншых матэрыялаў, якія друкуюцца ў "Полымі". Скажам, раздзел "Сярод кніг" збяднеў выключна з-за таго, што нашыя дзяржаўныя выдавецтвы надзвычай "ашчадна" ставяцца да выпуску беларускамоўнай мастацкай літаратуры, і таму нашыя крытыкі вельмі абмежаваныя ў выбары.

І апошняе. Калегія Дзяржкамдруку зрабіла папрок часопісу ў "незаўсёды ўзважанай" ацэнцы пазіцый аўтараў артыкулаў на гістарычную тэму. Даруйце, але так і хочацца запытаць: у якім такім высокім кабінеце патаемна захоўваюцца тыя самыя вагі? Гістарычныя падзеі патрабуюць аб'ектыўнага асвятлення, а пазіцыі і іх ацэнкі ў вольным грамадстве могуць быць самымі рознымі.

**Ніл ГІЛЕВІЧ:** Сёння я чую пра тое, што і хацеў пачуць. Словы кіраўнікоў рэдакцыі вызначаюцца глыбокім разуменнем цяперашняй сітуацыі ў духоўным жыцці нашага грамадства, прасякнуты сапраўдным клопатам пра часопіс і ўвогуле пра ўсю беларускую літаратуру, культуру. Так і трэба гаварыць.

У такога часопіса, як "Полымя", свая унікальная доля, свая вельмі важная місія. З гадамі гэта адчуваецца ўсё ясней. Часопіс на працягу амаль васьмідзесяці гадоў быў галоўным літаратурным выданнем, важным духоўным асяродкам у рэспубліцы і, спадзяюся, такім застанецца. Заўсёды кожны пісьменнік ганарыўся тым, што яго твор надрукаваны ў "Полымі". І тут не павінна быць крыўдна іншым часопісам. Успомніце, быў "Новый мир", і на яго раўняліся ўсе выданні. Там фармавалася літаратурная думка. Тое ж магу сказаць і пра "Полымя". Я з 1950 года стаў чытач гэтага часопіса, а таму ўсё адбывалася на маіх вачах. Праўда, бывалі і такія перыяды, калі "Полымя" трапляла не ў *тыя рукі*. *Станавілася не такім, якім яго хацелася бачыць*. На пісьменніцкіх сходах і з іншых трыбун гаварылі, што нельга апускаць узровень часопіса, але ж... Рэдактараў тады мянялі ў ЦК КПБ.

**Янка БРЫЛЬ:** І бывала, што на горшага. Пасля таго, як пайшоў Максім Танк, высунулі на гэтую пасаду каля дваццаці кандыдатаў. Доўга ішла валтузня. "Думаць трэба", — сказаў загадчык аддзела культуры ЦК КПБ С. Марцалеў. А пасля з'ездзіў на сесію ААН і вярнуўся з галоўным рэдактарам — Паўлам Кавалёвым.

**Ніл ГІЛЕВІЧ:** І такое было. Але я хачу сказаць пра сённяшняе "Полымя". Усіх, хто тут працуе, і ў першую чаргу ў тэхнічнай службе, я назваў бы святымі людзьмі. Працаваць у такіх умовах, і працаваць выдатна, — гэта сапраўды подзвіг. Мы скардзімся на недастатковую ўвагу да літаратуры з боку дзяржавы, і, відаць, справядліва скардзімся. Але паглядзіце на недзяржаўныя, камерцыйныя выданні і выдавецтвы: якія ў іх офісы, *якія ўмовы працы! Такое "Полымю" і не снілася. Я гэта вяду да чаго?* Здавалася, калі гэтыя выданні і выдавецтвы — дэмакратычныя, то чаму б, абапіраючыся, стаўшы цвёрда на ногі ў матэрыяльным плане, не аказаць, хай сабе і невялікую, але падтрымку сваёй беларускай літаратуры? Ды дзе яна — тая падтрымка?

А цяпер пра адносіны дзяржавы. Чыноўнікі кажуць, што ў літаратурных выданняў няма значных тыражоў. Адкуль жа яны будуць, калі ў людзей не хапае зарплаты, пенсіі нават на ежу. Зараз многія, хоць і хочуць, ды не могуць выпісваць часопісы. А таму людзі ідуць у бібліятэкі. Вось тут і патрэбна дапамога. "Полымя", улічваючы яго значнасць, неабходнасць, павінна быць у кожнай бібліятэцы. Трэба прыняць рашэнне, выдзеліць бібліятэкам сродкі. І яшчэ, калі паважаем гэтае выданне, то спачатку бібліятэка выпісвае "Полымя", а тады ўсе астатнія часопісы. Менавіта такія захады неабходна прыняць, калі дзяржава хоча рэальна дапамагчы нашай літаратуры, культуры. *А інакш усе размовы, якія вядуцца*, на карысць бедных.

Чаму ўвогуле літаратуры сёння так мала пішуць і дазваляюць сабе такі нізкі ўзровень? Чаму нясуць творы, напісаныя без павагі да сябе і да рэдакцыі? А таму што ў грамадстве запанавала сацыяльная апатыя, яна ўсім падрэзала крылы. Пісьменнікі бачаць, як гіне мова, мізарнее культура. І нехта з ім махае рукой: "Ат, і так сыдзе!" А дзяржаўныя мужы даказваюць, што мова не гіне, што ўсё ў нас нармальна. Як жа не гіне! Паглядзіце на нашы школы, ВНУ, прайдзіце па кнігарнях. Што вы там убачыце?

Часта мы чуем такое: "А хто каму забараняе карыстацца беларускай мовай?" Сапраўды не забараняюць, гавары на кухні з жонкай. А што адбываецца ў грамадскіх месцах? Паўсюдна абражаюць людзей за родную мову, калі яны гавораць ёю ў транспарце, у краме і ці мала дзе яшчэ. Даходзіць нават да фізічнай расправы. Пра такія выпадкі шмат пісалася ў нашай прэсе.

Дык як жа быць? Скажу *адразу — я* катэгарычна супраць таго, каб пісьменнікі неслі ў рэдакцыі, як кажуць, левай нагой напісаныя, неапрацаваныя творы. Божа барані! Хоць такое заўважалася і раней. Але не пра гэта гаворка.

Сёння ўсім пісьменнікам, журналістам трэба ўзнімаць, як мага вышэй, прафесійны, мастацкі, інтэлектуальны ўзровень сваёй творчасці. Якраз цяпер неабходна паказаць людзям, якімі выдатнымі магчымасцямі валодае родная мова. Вось, шаноўныя, як мы працуем, вось наша мова! Бо калі пісьменнік, журналіст збіваецца на "трасянку", то і народ будзе гаварыць ёю.

Хутка адбудзецца вечар, прысвечаны 80-годдзю Івана Паўлавіча Мележа. І я думаю — вось у каго было сапраўднае стаўленне да сваёй працы, да калег, вось у каго трэба вучыцца!

Што тычыцца плана на першае паўгоддзе, то ён дастаткова багаты і змястоўны. Ёсць адна заўвага — мала публіцыстыкі. І я здагадваюся, чаму. Публіцыстыка заўсёды *закранае духоўна-палітычны нерв жыцця* грамадства. У сённяшніх умовах многія пісьменнікі, каб не наклікаць бяды на сваю галаву, стараюцца абысці вострыя праблемы, не хочуць чапаць гэты нерв.

Некалькі слоў пра заснавальнікаў часопісаў. Чым матэрыяльна, фінансава можа дапамагчы Саюз беларускіх пісьменнікаў рэдакцыям? Нічым. Ён сам — бюджэтная арганізацыя. Нейкія сродкі для падтрымкі літаратурных выданняў можна было б зарабіць, маючы сваю ўласнасць. Скажам, мець прыбытковае выдавецтва, здаваць у арэнду некаторую плошчу Дома літаратара, аднавіць Бюро прапаганды літаратуры, каб праводзіць платныя масавыя мерапрыемствы. Гэта робіцца ў суседніх дзяржавах. А для нас усё гэта — толькі мары.

*(Працяг на стар. 14—15)*

## Францыск, у якога паверыў Бог

**Амерыканскі хірург Дональд Кодэр зацікавіўся Беларуссю. Апошнім часам мы прызвычаіліся да таго, што краіна нашая вядомая ў свеце перманентным канфліктам улады з апазіцыяй, нацыянальнай знешняй палітыкай і іншымі не надта прэстыжнымі з'явамі. Замежнікам Беларусь цікавая як "камуністычная рэзервацыя", як рэлікт савецкай мінуўшчыны. А вось Дональда Кодэра зацікавіла беларуская культура, слаўная беларуская мінуўшчына, найперш — асоба Францішка Скарыны. Зацікавіла тое, што дасведчаны ў лекарскай справе чалавек, якім быў наш Першадрукар, прыйшоў праз навуку да веры, да высновы, што змагацца з хваробамі цела можна толькі ратуючы душу. Гэта падштурхнула яго да асветніцкай працы, да выдання "Біблії" на мове беларускага народа. Хірургу Дональду Кодэру вельмі блізкі Скарынавы светапогляд. Скарынава разуменне хрысціянскай ідэі ў дачыненні да жыццёвага побыту і да ягонай і Скарыны прафесійнай справы — медыцыны.**

**"Мой Францыск Скарына" назваў сп. Кодэр эсэ, прысвечанае свайму адкрыццю асобы нашага Першадрукара. А праз гэтую велічную постаць ён адкрыў для сябе і Беларусь. У перакладзе на рускую мову з прадмоваю Уладзіміра Конана эсэ выдадзена "Беларускім кнігазборам".**

**Дональд Кодэр трапіў у Беларусь невыпадкова. Упершыню ён наведаў нашу краіну ў 1997 годзе як удзельнік адукацыйнай праграмы па маральным выхаванні, якую праводзіла дабрачынная арганізацыя "Міжнародны школьны праект". Зараз ён бярэ ўдзел у распрацоўцы праекта па стварэнні рэабілітацыйнага цэнтра для ахвяраў наркаманіі. Раней Д. Кодэр працаваў у Эквадоры, Дамініканскай Рэспубліцы, Мексіцы, Тайвані, Кеніі, Бангладэш, Кыргызстане і Казахстане.**

**Абапіраючыся на факты біяграфіі Францыска Скарыны, аўтар спрабуе рэканструяваць час, калі Першадрукар жыў і працаваў, і перакінуць адтуль мост у нашы дні. Аўтар часта цытуе "Біблію", бо знаходзіць у святой кнізе думкі, блізкія людзям усіх часоў. Асобныя раздзелы прысвечаны мясцінам, якія асвяціў сваёй прысутнасцю Скарына (Полацк, Падуя, Прага), асобным аспектам дзейнасці Першадрукара, ягоным думкам і справам.**

**На заканчэнні Дональд Кодэр разважае пра тое, аб чым мог думаць Скарына ў апошнія гады жыцця ўдалечыні ад радзімы. Гэты раздзел мае назву "Запавет Скарыны". Уласна кажучы, гэта думкі самога Кодэра пра жыццё, смерць, вечнасць, укладзеныя ў вусны Францыска Скарыны. Хірург думае пра ўсё вышэйназванае значна часцей за звычайнага чалавека. Сама прафесія правакуе да "роздуму аб смерці і пазнанні самога сябе", як казаў Скарына. "Але я таксама ведаў, што гэта — Боская справа, а не мая, і таму я нічога не баюся", — Скарына сапраўды мог сказаць такія словы перад смерцю. Як, дарэчы, і кожны іншы чалавек, які верыць у Бога і ведае, што Бог верыць у яго.**

**П. В.**

## Да 150-годдзя Янкі Лучыны

**У шэрагу мерапрыемстваў, прысвечаных 150-годдзю з дня нараджэння выдатнага паэта Янкі Лучыны, мяркуецца правесці 25 мая 2001 года навуковую канферэнцыю. Янка Лучына ў кантэксце самаідэнтыфікацыі беларускай літаратуры. Арганізатарамі канферэнцыі выступілі Інстытут літаратуры імя Янкі Купалы НАН Беларусі, Нацыянальны навукова-асветны цэнтр імя Францыска Скарыны; Беларускі дзяржаўны універсітэт; Польскі інстытут у Мінску. Шырокае кола пытанняў, прапанаваных для дыскусіі, ахоплівае жыццё, творчасць вядомага паэта на трох мовах, напрыклад: невядомыя старонкі жыццяпісу Яна Неслухоўскага (Янкі Лучыны); навучэнцы Мінскай класічнай гімназіі; Янка Лучына і яго сучаснікі? Янка Лучына — пасрэднік польска-рускага літаратурнага ўзаемадзеяння; версіфікатарскае майстэрства Янкі Лучыны і іншыя. Прадметам асобнай гаворкі стане творчасць Янкі Лучыны ў паралелях з польскай і рускай паэзіяй канца XIX ст. Таксама выносяцца для асобнага абмеркавання наступныя пытанні: творчасць Янкі Лучыны ў ВНУ і школе (вывучэнне, перспектывы), мова твораў Янкі Лучыны; тэксталогія твораў Янкі Лучыны, крыніцазнаўства жыцця і творчасці паэта.**

**На сённяшні дзень паступілі заяўкі на ўдзел у канферэнцыі ад навукоўцаў з Польшчы, Расіі, з розных рэгіёнаў Беларусі. Як бачна, тэматыка канферэнцыі мае цікавасць як для навукоўцаў, выкладчыкаў ВНУ, аспірантаў, так і супрацоўнікаў музеяў. Спадзяёмся, што шырокая грамадскасць Беларусі далучыцца да мерапрыемстваў, прысвечаных памяці Янкі Лучыны.**

ЗГАДКІ

Міхась ДАНІЛЕНКА

# ДЗВЕ БЫЛІ

### "Ой, рэчанька, рэчанька..."

Ёсць у Лоеўскім раёне прыгожая вёска Пярэдзелка. Раскінулася яна на высокім правым беразе Дняпра. Прысады са стогадовых ліп вядуць да будынка з белымі калонамі. Некалі тут жыла пані Бараноўская (бліжнія навакольныя лясы і зараз называюць "Бараноўскае"). У перабудаваным панскім будынку размяшчаецца сярэдняя школа. А амаль насупраць яе, на пагорку, пабудаваны сельскі Дом культуры. Вось у гэтым Доме культуры некалькі гадоў назад рашылі правесці рэгіянальнае свята песні. (Тады яшчэ ніхто не думаў, што некалі ў нас будуць грымець "Славянскі базар" у Віцебску і "Залаты шлягер" у Магілёве). У Пярэдзелку прыехалі ўдзельнікі хораў з Палесся — з Брагінскага, Хойніцкага, Ельскага, Рэчыцкага ды іншых раёнаў. Акрамя спевакоў-аматараў, у святе прымалі ўдзел і мастацкія чытальнікі, прамаўляльнікі жартаў.

З Мінска на свята ў Гомель прыехаў народны артыст СССР Генадзь Цітовіч. З ім мы дабіраліся разам у невялічкім аўтобусе, зафрахтаваным абласным аддзелам культуры. Я тады працаваў у "Гомельскай праўдзе" і павінен быў асвятляць ход свята ў абласной газеце.

Ад абласнога цэнтра да Пярэдзелкі — шлях не блізкі, кіламетраў восемдзесят набярэцца. Даведаўшыся, што я дружыў з пісьменнікам Раманам Сабаленкам, Генадзь Іванавіч расказваў, як ён начаваў у Раманавых бацькоў у вёсцы Сабалі на Брагіншчыне.

— Ён рашыў напісаць для "Полымя" мой творчы партрэт, — пахваліўся Цітовіч. — Усенькую ноч мы ў Сабалях прагаварылі. Я Раману драбнюсенькія падрабязнасці расказваў пра хор вёскі Вялікае Падлессе Ляхавіцкага раёна, пра тое, як абжываўся першыя гады ў Мінску...

За вокнамі "рафіка" адбягалі жніўныя палі. Мінулі даўжэзны мост цераз Дняпро пасля Баршчоўкі (цяпер тут узвялі новы). Генадзь Іванавіч быў у добрым настроі. Захапляўся маляўнічымі краявідамі, успамінаў, як ён хрысціў дачку Рыгора Барадуліна. (Па яго словах, яны тады жылі па суседстве).

Ад павароткі на Рэчыцу мы пакіравалі на Лоеў.

— Зараз пачнецца мой раён, — папярэдзіў я Генадзя Іванавіча.

Ён уважліва ўглядаўся ў лясныя палосы ўздоўж шашы. У густым вецці дрэў часта сустракаліся, як кучомкі, сарочыя гнёзды.

— Не баяцца чалавека, — паківаў галавой Цітовіч. — Ведаюць, што ніхто машыны спыняць не будзе і не палезе разбураць іхняе жытло.

У Пярэдзелцы мясцовыя ўлады пастараліся на славу. Усё было ўрачыста і прыстойна. Спевакі ў святочных строях змянялі адзін аднаго на сцэне. Спевы ліліся прывольна, шырока. Здавалася, яны рэхам адгукаюцца недзе на другім дняпроўскім беразе ў купчастых лазняковых зарасніках.

Пасля ўрачыстай часткі, калі журы прысудзіла прызавыя "месцы лепшым самадзейным калектывам, нас запрасілі ў саўгасную сталоўку. Невялікі драўляны будынačак. Сталы заслалі прыгожымі абрусамі. На іх у гарлачах паставілі букеты вяргіняў і астраў. Ды і на сталах... Не паскупіліся на выпіўку і закуску. Помніцца, Цітовіча здзівіла, што на талерках была не рачная — дняпроўская — рыба, а карп; яго разводзілі ў рыбгасе "Белае" на Жыткаўшчыне.

— Няўжо ў Дняпры перавялася рыба? — недаўмяваў Цітовіч.

— Дзякуйце, што хоць карпы ёсць, — адказаў я.

— І то праўда. Няма чаго Бога гнявіць, калі ёсць шклянка, а да яе і шкварка.

Паблізу нас сядзеў мужчына ў акулярах у пазалочанай аправе. Я ведаў, што гэта быў трэці сакратар Лоеўскага райкама партыі Галай. Уласна ён і наглядаў за тым, як ладзілася і праходзіла свята. (Праўда, у час, калі выступалі спевакі, я яго чамусьці сярод прысутных на адкрытай пляцоўцы не бачыў). Сакратар падазрона пабліскваў з-пад шкельцаў акуляраў на нас з Цітовічам: занадта гучна мы пачалі ўжо размаўляць.

— Давайце, Генадзь Іванавіч, запяем нашу бессмяротную "Рэчаньку", — прапанаваў я.

Спявалі мы з Цітовічам, помніцца, ці не ўдвух: хоць і адзначалася свята песні, але на пачостку запрасілі тых, хто наўрад ці ведаў словы песні:.

***Ой, рэчанька, рэчанька,***
***Чаму ж ты няпоўная? —***

выводзілі мы з Генадзем Іванавічам.

Сакратар райкама спачатку зашыпеў: яму, відаць, падалося, што заспявалі мы занадта гучна. Мусіць, яму падумалася: а калі песню пачуюць за сценамі гэтай сталоўкі? Гэта ж — непарадак, ліха ведае, што зробіць вышэйшае начальства, калі даведаецца пра спевы.

— Дык няўжо мы з народным артыстам краіны не можам уголас праспяваюць славутую песню? — абурыўся я.

— Ціха, ціха, — замахаў рукамі сакратар. — Абыдземся без песень. І так сёння іх шмат наслухаліся.

...Калі мы падымаліся з-за сталоў, Цітовіч дакорліва паківаў галавой:

— Вось такія кіруюць намі. Распараджаюцца, дзе можна павысіць голас, а дзе — ціха, "піяна", шаптаць губамі...

Таго сакратара па прапагандзе, вядома ж, павысілі: перавялі ў Гомель. Галай узначальваў камітэт па друку пры аблвыканкаме. Які з яго быў кіраўнік тым друкам — іншая размова.

### Як задумвалася "Дрыгва"

У 1982 годзе шырока адзначалася 100-годдзе з дня нараджэння класіка беларускай літаратуры Якуба Коласа.

Я тады працаваў у абласной газеце "Гомельская праўда". Па пільных справах мне давялося быць у вёсцы Навасёлкі Петрыкаўскага раёна. Дарэчы, у раёне вёсак з такой назвай — дзве. У адной з іх знаходзіцца цэнтр саўгаса, які носіць такую ж назву. Але са знаёмым дырэктарам школы Іванам Усціновічам я трапіў у вёску, дзе жылі сыны славутага дзеда Талаша, апісанага Коласам у "Дрыгве".

— Разумееце, у нашай школе працуе выкладчыкам гісторыі чалавек, які бачыў, як некалі прыязджаў сюды Якуб Колас і сустракаўся з Васілём Ісакавічам Талашом. Ён і на пахаванне дзеда Талаша прылятаў. Табе цікава было б паслухаць яго ўспаміны.

Помніцца, уразіла хараство Навасёлак. Паўз самыя агароды віецца ціхаплынная Прыпяць, якая "нясе свае воды сухадоламу Дняпру". Над вадою нахілілі вецце ніцыя вербы. На вуліцах раслі таўшчэзныя, бы тумбы, грушы-дзічкі. Мы з Усціновічам былі ў Навасёлках восенню, і дол, помніцца, густа быў усыпаны падаліцамі. Пад нагамі шапацела апалая лістота. А ў празрыстым паветры часам чуліся тужлівыя жураўліныя крыкі.

Пакуль настаўнік быў у адлучцы (ездзіў па справах у Мазыр), мы пабывалі ў Талашовых сыноў. У малодшага (у аповесці ён выведзены пад імем Панас) якраз колькі дзён перад тым памерла жонка. Хата яго была яшчэ новая, крытая трохі пацямнелаю дранкай.

— Ведаеце, хлопчыкі, — з хваляваннем (відаць, не ў першы раз) успамінаў ён, — паплыла на чоўне на луг за Прыпяццю. Трохі травы прыплавіла. "Можна, кажа, прылягу вось тут, за грубкаю? Нешта млосна мне, чалавеча". Прылегла вось на гэтым тапчане. Я трохі па дворы пасоўгаўся. Думаю: нешта доўга маўчыць мая Куліна. Хапіўся за яе руку, а яна, хлопчыкі, халодная, як лёд...

Гора, відаць, яшчэ не астыла ў душы гэтага чалавека. (У яго хаце на відным месцы вісеў у зашклёнай рамцы партрэт бацькі — дзеда Талаша). Ён у каторы раз перажываў жончыну смерць.

Пазней, калі мы бліжэй пазнаёміліся, Панас (будзем і мы так яго называць) пачаў дапытвацца ў Івана Усціновіча аб удовах, з якімі мог бы звязаць сваё далейшае жыццё. Каму ж ахвота ў добры дом прыводзіць якую нягегу?

— Глядзі, чалавеча, — пажартаваў я з дырэктара школы, — яшчэ сватам станеш. Рыхтуй вышываны ручнік...

Старэйшы Талашоў сын жыў у другім канцы вёскі. Аб змаганні бацькі з белапалякамі ён ведаў мала. Успамінаў толькі, як калісьці партызаны спалілі мост цераз Прыпяць.

Між тым вярнуўся ў школу выкладчык гісторыі і пачаў расказваць, як прычальваў у Навасёлках параход, як сустракаўся Та-

# Не губляючы аптымізму і надзеі

*(Заканчэнне. Пачатак на стар. 13)*

Магчымасці "Полымя" ў сувязі з нялёгкім матэрыяльным становішчам зменшыліся. Часопісу цяжка зараз надрукаваць вялікі твор: раман, аповесць, паэму. Сам сутыкнуўся з гэтым, бо нядаўна напісаў аб'ёмную драматычную паэму.

Тым не менш, шаноўныя супрацоўнікі рэдакцыі, за ўсё, што вы робіце ў складаных умовах, — вам вялікі дзякуй і паклон. Вы пастаянна трымаеце такі прафесійны, мастацкі ўзровень, як ні адзін часопіс. І мне хацелася б, каб "Полымя" мела належны статус і належную дапамогу. Тут фармуецца сучасная беларуская літаратура, і ад клопатаў дзяржавы залежыць тое, якой яна будзе прапанавана ўсяму свету.

**Кастусь ЦВІРКА:** Мне хочацца выказаць меркаванне пра знешні выгляд часопіса. Чаму б "Полымю" не вярнуцца да ранейшага фармату, не выходзіць на якаснай паперы, з лепшай вокладкай?

**Сяргей ЗАКОННІКАЎ**: Я разумею вас. Сапраўды, сённяшні знешні выгляд "Полымя" беднаваты, сціплы. Не думайце, што гэта нас не хвалюе. Канешне ж, для такога часопіса лепей падыходзіць еўрапейскі фармат. Але перайсці на цяперашні кніжны фармат мы вымушаны, бо не было паставак патрэбнай паперы. І яшчэ ёсць шмат праблем. Карацей кажучы, усё гэта не ад добрага жыцця. Усё ўпіраецца ў фінансы. У мінулым годзе намі былі зроблены падлікі, у што абыдзецца якаснае паліграфічнае, мастацкае афармленне часопіса і неабходныя для гэтага матэрыялы. Дык вось, выдаткі на выпуск узрастуць на 60 працэнтаў. А дзе гэтыя сродкі ўзяць? Аднак пэўныя захады прымаць будзем, і, магчыма, неўзабаве "Полымя" выйдзе ў абноўленым выглядзе.

**ВіктарКАВАЛЕНКА:** "Полымя" — гэта тое літаратурнае выданне, якое не толькі прыемна і цікава чытаць. З яго заўсёды хочацца нешта ўзяць для сябе, выпісаць нейкую думку, цытату. Гэта адзін з самых прыстойных, высокапрафесійных часопісаў рэспублікі. Такі ўзровень рэдка можна сустрэць нават сярод расійскіх выданняў, якія маюць непараўнана большыя магчымасці: і аўтарскія, і матэрыяльныя.

Хачу выказацца па праблемах асвятлення айчыннай гісторыі. На першы погляд, сёння маецца больш шырокая база для плённай працы ў гэтай галіне духоўнага жыцця грамадства: адкрыта шмат не вядомых раней архіўных матэрыялаў, выраслі цэлыя пакаленні маладых даследчыкаў, якія стараюцца напісаць аб'ектыўную гісторыю Беларусі. Але на практыцы ўсё адбываецца інакш. Як і раней, знаходзяцца людзі пры пасадах, якія становяцца заслонаю на шляху да ведання сапраўднай нашай гісторыі. Зноў гістарычныя факты падаюцца ва ўсечаным, прэпарыраваным варыянце, а многія з іх проста замоўчваюцца. Такія адносіны да гісторыі нашай айчыны, народа — бесперспектыўныя. Без сур'ёзнага і аб'ектыўнага асэнсавання пражытага, перажытага ніякага зруху наперад у нас не будзе. Наш народ так і застанецца ў палоне выдуманых, хлуслівых, ідэалагізаваных міфаў, якія скоўваюць розум, творчую ініцыятыву, самасвядомасць.

Яшчэ адна вельмі важная праблема, якая турбуе многіх людзей і асабліва нацыянальную інтэлігенцыю. Моцным ударам па роднай мове, па ўсёй беларускай культуры стала ўзаконенае двухмоўе. Увесь час ідзе аглядка на рускамоўны электарат. А вось на Украіне адзінай дзяржаўнай моваю стала ўкраінская. Леанід Кучма на збаяўся такога рашэння, хоць там рускамоўны электарат непараўнана большы.

**Ніл ГІЛЕВІЧ:** На Украіне жыве 13 мільёнаў рускіх.

**Віктар КАВАЛЕНКА:** Кучма не збаўяўся. І яго выбралі прэзідэнтам у другі раз.

Многія палітыкі, сродкі масавай інфармацыі Расіі часта абвінавачваюць суседнія дзяржавы, і ў першую чаргу Украіну, што там з жыццядзейнасці грамадства выцясняецца руская мова. Нядаўна на гэтую тэму па тэлебачанні прайшло інтэрв'ю расійскага журналіста Аляксандра Любімава з віцэпрэм'ерам украінскага ўрада Міколам Жулінскім, дарэчы, акадэмікам, вядомым літаратуразнаўцам і гісторыкам. Дык вось, наш калега пасадзіў журналіста з яго імперскім сіндромам і недасведчанасцю ў лужыну. На Украіне руская мова вывучаецца ва ўсіх школах, на ёй выходзіць ажно 105 (!) часопісаў, ужо не кажучы пра газеты. А якія суадносіны ва ўжыванні дзвюх моў на Беларусі? Але і ў нас высокапастаўленыя чыноўнікі апантана вышукваюць нацыяналізм. Пабаяліся б Бога, шаноўныя!

І яшчэ адно. На Украіне стаўка зроблена, як і ва ўсіх нармальных краінах, на нацыянальную інтэлігенцыю. У адміністрацыі Прэзідэнта, у Радзе, ва ўрадзе, ва ўсіх мясцовых органах працуюць аўтарытэтныя пісьменнікі, навукоўцы, юрысты, журналісты і г. д. А наша нацыянальная інтэлігенцыя сёння не запатрабавана, застаецца на абочыне грамадскага жыцця. Які ж тады можна чакаць прагрэс?

Хачу сказаць і пра літаратурную крытыку. Часта чую — крытыкі не пішуць пра новыя творы, засяроджваюцца толькі на класіцы, абмінаюць сучаснасць. Па-першае, гэта не зусім справядліва, а па-другое, пісаць пра класіку можна з выхадам на сучаснасць. Наадварот, вельмі добра, што зараз з'яўляецца шмат таленавітых, грунтоўных артыкулаў, дзе класіка асэнсоўваецца з новых, сучасных пазіцый, дзе няма зашоранасці, дагматызму. Магчыма, крытыка і сапраўды ў нечым не дапрацоўвае, але спадзяюся, што сітуацыя зменіцца ў лепшы бок.

**ВалянцінаКОЎТУН:** Вы заўважылі, што

лаш з Якубам Коласам. Тут паблізу жыў чалавек, які стаў правобразам Мартына Рыля. "Так вось і "Дрыгва" зарадзілася", — сказаў ён.

Карацей кажуы, калі я вярнуўся ў Гомель, дык напісаў артыкул "Так нараджалася "Дрыгва". Надрукавалі яго ў газеце "Літаратура і мастацтва" пад рубрыкай "Да 100-годдзя з дня нараджэння Якуба Коласа.

А праз нейкі час праездам на Брагіншчыну завітаў да нас у рэдакцыю Аляксей Слесарэнка. Ён паклікаў мяне з пакоя ў калідор і сказаў:

— Ведаеш, пры мне заходзіў у "ЛіМ" Даніла Міцкевіч. Хоча напісаць на цябе абвяржэнне. Ніколі, кажа, Якуб Колас у Навасёлках не быў. З дзедам Талашом сустракаўся толькі ў Мінску. Не прылятаў ён і ў Петрыкаў, калі там адкрывалі помнік дзеду Талашу. Усё гэта, кажа, аўтар, выдумаў.

— Але ж я сустракаўся, вось як з табой, з чалавекам, які ўсё гэта мне расказваў.

Аляксей Аляксеевіч быў больш вопытным за мяне чалавекам. Ён пачаў мяне вучыць:

— Ведаеш што? Напішы Данілу Канстанцінавічу пісьмо. Апішы ўсё, як было. Яму, відаць, не спадабалася, што артыкул прайшоў міма музея, дзе ён дырэктарам.

Я зрабіў так, як падказаў мне А. Слесарэнка. Напісаў ліст Данілу Міцкевічу. Неўзабаве атрымаў пісьмо ў адказ. "Не ведаю, па-мойму, Якуб Колас за ўвесь час на самалёце ляцеў толькі адзін раз у Маскву — на сесію Вярхоўнага Савета". Далей Даніла Канстанцінавіч прапаноўваў супрацоўнічаць з іхнім музеем. "Але трэба, каб абавязкова вы ўспаміны зацвярджалі ў любым мясцовым сельскім Савеце..."

Лёсу суджана было, каб я й непасрэдна сустрэўся з Данілам Міцкевічам. Неяк быў я ў Мінску і зайшоў у Дом друку да свайго сябра Хведара Жычкі. Дом друку знаходзіцца непадалёк ад "Коласавага дома" — яго музея.

— Аж сорамна, — прызнаецца я Хведару Дзмітрыевічу, — у Коласаўскім музеі ні разу не быў.

— Дык у чым справа? — загарэўся той. — Пойдзем. У мяне якраз абедзенны перапынак.

Мы пераходзілі з залы ў залу без экскурсавода, самастойна. Мяне ўразілі, як зусім навюсенькія, пяць ордэнаў Леніна і доўгі кажух, які часам надзяваў народны песняр, каб ямчэй адчуць сябе ў гарадскіх сценах.

— А цяпер з вамі хоча пагутарыць Даніла Канстанцінавіч, — сказала маладзенькая супрацоўніца музея.

Я збянтэжыўся: "Ну і памяць, ліха на яго!"

Даніла Міцкевіч запытаўся, ці быў я ў Мікалаеўшчыне.

— Не, не быў, — прызнаўся я. — Нават Нёмана ні разу не бачыў.

— Туды зрабілі добрую шашу. Нядаўна ездзілі госці з Балгарыі — вельмі спадабалася. А адыходзіць аўтобус ад чыгуначнага вакзала, — пачаў тлумачыць Даніла Канстанцінавіч.

На жаль, не пабываў я ў слыннай вёсцы і не апаласнуў твар у празрыстых водах Нёмана.

# Мікола ТАТУР

24 сакавіка пасля працяглай хваробы памёр сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў з 1953 года Мікола (Мікалай Ігнатавіч) Татур.

Мікола Татур нарадзіўся 3.03.1919 г. ва ўрочышчы Застар'е Клічаўскага раёна Магілёўскай вобласці ў сялянскай сям'і. Рана застаўся без бацькоў. Выхоўваўся ў Бабруйскім дзіцячым доме. Пасля заканчэння сямігодкі вучыўся ў Мінскім індустрыяльна-педагагічным тэхнікуме, а потым на польскім аддзяленні факультэта мовы і літаратуры Мінскага настаўніцкага інстытута, які скончыў у 1937 г. Настаўнічаў, працаваў выкладчыкам беларускай мовы і літаратуры. Падчас Вялікай Айчыннай вайны удзельнічаў у партызанскім руху. Быў цяжка паранены і доўга лячыўся ў шпіталях. Пасля вайны працаваў у Дзяржаўным выдавецтве рэспублікі і ў выдавецтве "Полымя". З 1966 па 1979 г. — у апараце Саюза пісьменнікаў. Спачатку на пасадзе дырэктара Беларускага аддзялення Літаратурнага фонду СССР, а затым дырэктарам Бюро прапаганды мастацкай літаратуры.

Узнагароджваўся ордэнамі Чырвонага Сцяга, Айчыннай вайны 1 ступені, Чырвонай зоркі, медалямі, Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета БССР.

Літаратурную дзейнасць пачаў у 1948 г. у жанры мастацкага перакладу. Сістэматычна перакладаў на родную мову творы рускіх, польскіх, украінскіх і іншых аўтараў. На яго творчым рахунку пераклады раманаў, аповесцяў, апавяданняў, п'ес і інсцэніровак. Адначасова выступаў і як літаратурны крытык, а ў апошнія гады як аўтар эпіграм і пародый.

Светлая памяць пра Мікалая Ігнатавіча Татура, чалавека ня-



лёгкага лёсу, майстра мастацкага перакладу, шчырага руплііўца на ніве выдання і прапаганды беларускай кнігі назаўсёды застанецца ў нашых сэрцах.

**Саюз беларускіх пісьменнікаў**

ПАМЯЦЬ

# Апантаны жыццём і жывапісам

Антон Стафанавіч Бархаткоў. Яму — нашы апошнія кветкі, сардэчныя словы, пачуцці і наша ўдзячнасць за ўрокі шчырасці, дабрыні, працавітасці, рыцарскага служэння высокім ідэалам праўды і прыгажосці.

Яго нельга было не любіць за чыстае сэрца, якім ён саграваў наша жыццё сваім вялікім мастацкім талентам, за мужнасць, з якою да апошняга дня працаваў у беларускім нацыянальным жывапісе. Да апошняга дня — гэта не словы. Мы развіталіся з ім у Палацы мастацтваў у той дзень, калі ў тым самым палацы, дзе стаяла яго труна, былі выстаўленыя работы беларускіх жывапісцаў — трэцяму тысячагоддзю, і там жывым восеньскім пажарам гарэлі фарбы на яго новай, адной з апошніх, карціне, здзіўляючы маладой сілаю вока, рукі і сэрца. Пісаць гэтак на сваёй восемдзесят сёмай вясне — гэта не проста талент, а рэдкі лёс, шчаслівы ў любові да жыцця і мастацтва.

У пачатак XXI стагоддзя ён прыйшоў амаль з пачатку стагоддзя мінулага, XX, прыйшоў сялянскім пастушком ад лясоў ды ніў на ціхай Бесядзі, з жывых беларускіх краявідаў, з імі ў душы, беспрытульнікам, рана страціўшы бацьку і пакінуўшы ў вёсцы маці з яе новым мужам, другой сям'ёю. Дзіўна, як з гэтакай ранаю на сэрцы ён, вясковы хлапчук, знайшоў цягнік у далёкую Маскву, як выжыў у бадзяннях па сталіцы, начуючы на самым нізкім яе паверсе, паміж ног людскіх на вакзалах, як прайшоў праз прыёмнікі для беспрытульных, стаў сынам палка, скончыў рабфак, знайшоў мастацкае вучылішча, стаў вучнем выдатных жывапісцаў Пятровічава і Крымава, потым — вучнем Сяргея Герасімава ў Сурыкаўскім мастацкім інстытуце. Па жыцці вяло сэрца, жывапісам апантанае з маленства, дзе вугалем ды крэйдаю абмалёўваў вясковыя хлявы ды хаты. А там — вайна. Куды — сыну палка? Пайшоў у партызаны, камандаваў групай разведкі. Адтуль — на фронт. З вайны ў родную Шчыглоўку вярнуўся з ордэнамі ды медалямі — дом у вёсцы збудаваў. Жыць у новым доме пакінуў сваякоў, а сам — у горад да палітры, фарбаў. І новае дзіва — ён жыве пакуль дарогу да Бялыніцкага-Бірулі, да яго палітры і сэрца. Два дамы Бірулі, у сталіцы і дача "Чайка", прыгрэлі маладога беларуса, апантанага жывапісам, у іх ён жыў, працаваў, вучыўся ў вялікага жывапісца пісаць, там ажаніўся на Соф'і Кузьмінічне, камернай спявачцы, а ў 1947 годзе разам з Бірулем прыязджае ў Мінск, з ім разам кожны дзень — за мальбертам на Курасоўшчыне, на Белай Дачы. Стаяў цёплы пасляваенны май, па ваколіцах Мінска цвілі сады, яблыні шалёна цвілі і пад вокнамі Белай Дачы. Пазней Антон Стафанавіч будзе з прыемнасцю ўспамінаць, як разам з Бірулем ездзіў па Міншчыне, быў у гасцях у Якуба Коласа, які яны, два мастакі, стары і малады, тую вясну пісалі: "Пасля работы ставілі ў садзе перад сабою напісаныя эцюды і разбіралі, што на іх зроблена ўдала, што — сыра, недакладна, чаму не так як трэба. Я часцей маўчаў, каб болей гаварыў ён, а ён скажа — як у сук улепіць. Для мяне гэта былі самыя дарагія ўрокі жывапісу".

З таго часу ўсё жыццё ў яго пакоі на сцяне вісеў пейзаж з тымі, што цвілі на Дачы, яблынямі. Любіў казаць: "Тут рука Вітольда Каятанавіча пахадзіла. Пярэдні план у мяне доўга не атрымоўваўся. Ён заўважыў, падышоў, узяў маю палітру, пэндзлем махануў — усё на месца стала. І цень ад яблыні — яго рукою".

Зусім нядаўна, нібыта ўчора, як снег ляжаў, у Палацы мастацтваў была яго вялікая выстаўка і на ёй, каля ўваход, на самым светлым месцы — гэтыя яблыні ў квецені з Белай Дачы і два партрэты Бялыніцкага-Бірулі, напісаныя з натуры рукою Антона Стафанавіча. Тут была і "Першая песенька", якая даўно стала нашым нацыянальным шэдэўрам. Работы старыя, але дарагія сэрцу мастака. А далей — пазнейшыя і шмат новых. Усе напісаныя з натуры ва ўсе поры года, яны шмат расказалі нам пра мастака. Як шмат працуе, ездзіць па Беларусі, як любіць пісаць родныя краявіды на Дняпры, Сожы, Бесядзі, Друці, як часта бывае на Нёмане, у мясцінах Коласа, як любіць Міншчыну. Шмат хто заўважыў і здзівіўся яго працавітасці, вастрыні вока, адчуванню колераў, адценняў, каларыту, тонкаму лірызму ў самыя апошнія гады. Яму гэта сказалі, а ён у сваёй прыроднай сціпласці зніякавеў і адказаў: "Вітольд Каятанавіч пісаў у апошнія гады адным вокам, паралізаваны, а як молада!" Адным пісаў і ён. Адным вокам і двума сэрцамі. Адно было сваё, другое — японскі стымулятар. А як молада! Яго вока



заблішчэла, твар пасвятлеў — быў рады, што заўважылі.

У апошнія гады ён быў пастаянным удзельнікам усіх, пачынаючы з самага першага, мастацкіх пленэраў у Бялыніцкім раёне на Друці — радзіме Бялыніцкага-Бірулі. Быў душою пленэраў. Гэты край палюбіў, як любіў яго Біруля, і шмат тут пісаў. Прывёз і падарыў землякам настаўніка паўтара дзесятка сваіх лепшых работ — яны тут у музеі, у зале побач з залаю карцін Бірулі. Побач — глядзяцца добра.

Антон Стафанавіч прыйшоў у высокае мастацтва ад працы селяніна на зямлі, як добра ведаў, і ў жывапісе працаваў з сялянскай упартасцю, як той, на ніве, араты, сейбіт, жнец. Дзень без працы пражыць не мог. Пры любым здароўі і настроі. Ён нёс у сабе традыцыі сялянскай маралі і з імі стаў чалавекам высокай інтэлігентнай культуры. У такога мастака можна вучыцца і жывапісу, і таму, як трэба ў мастацтве жыць.

**Віктар КАРАМАЗАЎ**

ў сённяшняй гаворцы ўсе супрацоўнікі рэдакцыі крытычна ставяцца да сябе, да сваёй працы, не хаваючы цяжкасцей, вострых праблем. Такая атмасфера ў нас пануе заўсёды. Прынцыповыя адносіны ў рэдакцыі і да таго, што прапануецца аўтарамі, што друкуецца. Перад пісьменнікам, перад выданнем заўсёды ставіцца выбар: або праводзіць чалавечныя гуманістычныя ідэі, або скаціцца да эрзацлітаратуры. Мы свядома выбралі першы шлях. Галоўнае ў нашым часопісе — гэта гуманістычны пачатак. Рэдакцыя выбірае самае лепшае, тое, што працуе на духоўнае здароўе людзей.

Вазьміце нават толькі першы нумар часопіса за гэты год і пагартайце яго. Вось яна, сапраўдная літаратура! Я чытаю апавяданне Анатоля Кудраўца "Зязюля пракукуе заўтра" і бачу, што яно самага найвышэйшага духоўнага і мастацкага ўзроўню, твор — сапраўды на мяжы пісьменніцкага подзвігу.

Але гляньце і на тое, як настырна, нахабна вылазіць на наша поле маскультура, сатанінская літаратура, якія разбураюць чалавека. І наш абавязак супрацьстаяць ім. Мы па-новаму ацэньваем сёння класіку. Хрысціянская мараль, закладзеная ў ёй, узвышае гэтую літаратуру, як годна выглядае яна на фоне бруднага сатанінства. І добра, што да гуманістычнага, хрысціянскага пачатку павароцваецца ўсё больш творцаў і простых людзей, што ён прыйшоў у нашыя школы, ВНУ. Назапашваць патэнцыял духоўнасці і выкарыстоўваць яго ў грамадстве — гэтаму шляху нельга здраджваць, бо за ім — будучыня.

**Уладзімір МАТУСЕВІЧ:** Мне прыемна прысутнічаць сёння на рэдакцыйнай калегіі часопіса "Полымя", бо ідзе сапраўды прафесійная, разумная, зацікаўленая гаворка і пра дзейнасць выдання, і пра беларускую літаратуру і культуру, і пра ўсё набалелае ў духоўным жыцці.

Праца нашых літаратурных выданняў разгледжана на калегіі Дзяржаўнага камітэта Рэспублікі Беларусь па друку. Там было выказана нямала добрых слоў у адрас часопіса "Полымя". Адзначаўся ягоны высокі мастацкі ўзровень, плённая праца рэдакцыі па супрацоўніцтве з таленавітымі аўтарамі. У часопісе шмат змястоўных раздзелаў і рубрык, якія прыцягваюць увагу чытачоў. Радуе моўная культура выдання.

На пасяджэнні калегіі былі і крытычныя заўвагі, але іх не трэба ўспрымаць, як спробу ў нечым абмяжаваць, уціснуць у нейкія рамкі дзейнасць рэдакцыі. Гэта наш погляд, наша меркаванне.

Я ўсё ж застаюся пры думцы, што сённяшні літаратурны працэс застаецца ў многім па-за ўвагай нашай крытыкі. Гэта тычыцца ўсіх літаратурных выданняў. І добра, што "Полымя" на агульным фоне глядзіцца нашмат лепей. Тут друкуюцца і аглядныя артыкулы, і крытычныя, літаратуразнаўчыя матэрыялы, якія можна выкарыстоўваць школьнікам, студэнтам, выкладчыкам. У кожным нумары часопіса ёсць дзве-тры рэцэнзіі на новыя кнігі. Галоўны ж рэзерв, на мой погляд, — больш актыўная праца менавіта па сучасных аўтарах, накірунках, актуальных пытаннях сённяшняга літаратурнага працэсу.

Трэба адзначыць і добрыя вынікі ў фінансава-эканамічнай дзейнасці рэдакцыі часопіса. Мы разумеем, што эканамічныя ўмовы зараз нялёгкія. Але Дзяржкамдрук аказваў і будзе аказваць дапамогу ў фінансаванні, ва ўмацаванні матэрыяльнай базы многім літаратурным выданням, у тым ліку і "Полымю". Скажу толькі адно: усе мы сёння павінны зыходзіць з рэальнай сітуацыі, разумець яе. І кожны павінен сумленна, адказна працаваць на сваім месцы.

**Сяргей ЗАКОННІКАЎ:** Хачу выказаць вялікую ўдзячнасць усім, хто прыняў удзел у пасяджэнні рэдкалегіі. Сапраўды, атрымалася зацікаўленая гаворка, выказана шмат карысных заўваг, прапаноў, якія дапамогуць нам у штодзённай працы. Мы разумеем свой абавязак і ролю часопіса ў духоўным жыцці Беларусі і будзем старацца, каб "Полымя", як заўсёды, было патрэбным людзям, мела важкія творчыя набыткі. Ва ўсякім разе, часопіс глядзець наперад з надзеяй і аптымізмам.

**А. У.**

# СУСЕДКІ

*(Заканчэнне. Пачатак на стар. 9)*

шэрую дарогу непадалёк — бягуць і бягуць машыны. Зазірнуў на суседнюю лоджыю. І там пуста і ціха. У іх зараз няма нікога дома — паехалі ўчора ў вёску, сам бачыў, з сумкамі выходзілі з кватэры, напакаванымі, суседка і сын яе, Дзімка гэты, шчанюк. Багата жывуць. Па адзенні відаць. Раскашуюць.

І раптам Сяргею нешта цюкнула ў галаву, і ён пачаў жвава прымервацца, як бы гэта перабрацца туды, на суседнюю лоджыю. А вельмі проста! Вярнуўся ў кватэру, знайшоў у кладоўцы стамеску, паклаў у левую кішэнь штаноў і, чуючы цяжар яе, выйшаў у тамбур. Пазваніў да суседа: калі дома, папытаю, ці не знае яна, дзе мая маці... Ціха. Ні гуку. Значыць, паехалі.

Праз момант ён быў у лоджыі. Азірнуўся па баках — ні чалавека ніздзе, ні голасу. Ён закінуў нагу за бетонную пліту, учапіўся моцнымі пальцамі ў шэрую перагародку між лоджыямі і — перавесіўся на суседнюю. Пастаяў на чужой драўлянай падлозе, прыслухаўся, непрывычна ўсё, аж, здаецца, паветра іншае. Стамеска адцягвала кішэнь. Ён выняў яе і пачаў калупацца ля дзвярнога шкла. Хутка і акуратна — выняў шкло з дзвярэй, асцярожна паставіў да сцяны і — сігануў у цёплыю чужых пакояў. Ніколі не заходзіў да гэтых суседзяў — але ж і праўда, тут добра жывуць, аж боязна ў абутку ісці, хоць ты разуйся... Дзе ў іх тут "сценка"? Дзе бар? Ага... Ёсць, ёсць! Ён узяў у рукі дзве пляшкі і, душачыся радасцю, пайшоў да дзвярэй, адчыніў іх, выйшаў, замок за ім шчоўкнуў. Зайшоў у сваю кватэру — і радасць распірала душу: дзе той Жэнька, хай хутчэй едзе! Будзе сёння пір!

Тася з торцікам у руцэ і напакаванай сумкай спынілася ля сваіх дзвярэй, паставіла на падлогу сумку і, усміхаючыся, пазваніла. Дзын-дзын, — весела дзвыкнуў званок, і во зараз адчыніць Сярожа... "З днём нараджэння, сынок!" — зараз скажа яна, і ён, шчаслівы, возьме у яе з рук торцік... Але не адчыніў сын дзверы. Штосьць затрывожылася ў ёй, яна яшчэ раз дзвынкнула, пастаяла, чакаючы, што адчыняцца, адчыняцца ж яны, гэтыя дзверы... Не адчыніліся. Ціха за дзвярыма. Яна нахілілася, знайшла ў сумцы ключ. У кватэры было ціха-ціха. Яна як разгубілася. Пастаяла хвілінку. Потым разулася, распранулася, зайшла на кухню. На стале ляжала надкушаная луста хлеба. Пад сталом стаяла пустая бутэлька. Яна нахілілася, узяла ў руку: з-пад каньяку. Хто гэта прынёс? Села на табурэцік. Склала рукі на каленях. Так спяшалася! А тут ціха і пуста. І адчула, якая яна стомленая. І ўпершыню падумала, што і яна ўжо не маладая, і сын у яе не маленькі. І было чамусь горка-горка. Каб прыхінуцца цяпер да каго душой... Успомніўся чамусь Міша. Як не п'яны, дык добры...

**Саюз беларускіх пісьменнікаў выказвае глыбокае спачуванне МАЦВЕЕНКУ Уладзіміру Іванавічу з прычыны вялікага гора — смерці маці.**

Леанід КАЛОДЗЕЖНЫ

# Жывуць людзі

## ВЯСЁЛЫЯ ЗАМАЛЁЎКІ З НАШАГА НЕВЯСЁЛАГА ЖЫЦЦЯ

### Чырвоная ікра

— Дужа ж смачная чырвоная ікра! — цмокнуў Піліп. — Ясі — душа спявае.

— А ты ласаваўся ёй? — наструніў Саўка шыю.

— Адкуль?

— Што ж вярзеш?

— Унук казаў. Ён, калі ездзіў па пуцёўцы у Германію, бачыў, як яе немцы елі.

### Пярэчанне

Пацвельваецца Міхась Галуза над Пятром.

— Злодзей ты адпеты. Крадзеш больш, чым сам важыш.

— Але менш, чым хачу, — пярэчыць Пятро.

### Памяркоўны бацька

Не па бацьку круты ўдаўся Ваван. Заўжды нарываецца на непрыемнасці. То ён каму здароўе ўкладзе, то яму, знойдуцца хваты, рэбры пералічаць.

Апошнім разам, хоць і самому "ліхтароў" навешалі, Ваван адмяцеліў двух хлапцоў, аднаго нават у бальніцу адвезлі. Ну і загрэблі бугая, траяк ушпілілі за кулакі.

— Перажываеш, Восіп Раманавіч? — спытаў Хведр Шпак у бацькі.

— Чаго? — нахмурыўся стары. — Колькі ж можна балбесу чачэніцца? — Кашлянуў і памяркоўна дадаў: — Няхай пасядзіць. У турме цалейшы будзе.

### Занятак

— Чым ты зімой займаўся? — напрадвесні зазірнуў да Хведара Шпака гарадскі сваяк.

— Гарэлку піў.

— А калі не піў?

— Думаў, дзе знайсці выпіць.

### Скруха

Занямоглую Пёклу наведала Уліта.

— Кепска мне. Не ачуняю ўжо я, — закрактала небарака.

— Перахрысціся! — скаланула сяброўку.

— Праўда. Памру во — выходзь за майго замуж.

Памаўчаўшы, госця скрушліва ўздыхнула:

— Ці збудзецца ета калі.

### Пагаварылі

Спаткаліся Лявон Кірык і Рыгор Маўчутка. Абодва — тугадумы, абодва — целяпні.

— Адкуль?

— Адтуль. А ты куды?

— Туды.

От і пагаварылі...

### СуроКі

— Ой, суседачка мая! Гарачка ў мяне! Бяда з маёй Танькай! Сурочылі яе!

— Хто?

— Стась, нягоднік!. Забрухацела мая ластавачка! Таўсцее і таўсцее.

### Паляўнічы

Як зліняў Шымановіч са сваёй духстволкай дасвеццем, дык толькі вечарам намаляваўся.

— Баба, сустракай чалавека з палявання! — з двара крыкнуў ён і грукнуў пяцярнёй па аканіцы. — Цяжка мне!

— Заваліў каго?! — не забавілася, выткнулася з сянец жонка.

— Н-не-э. П-падстрэленага зайца п-праліў!

### Прыстрашыла

Не дагадзіў Клаўдзі муж.

— За каго я выйшла? Аслепнуць бы мне! — бэсціць яго. — Як памру, яй-богу скажу, каб не клалі мяне побач з табой!

### Змагары

Прыпыліў ранічкой старшыня Равяка на брыгадны двор.

— Як вы тут? — зачыняючы дзверцы "Нівы", заклапочана спытаў у калгаснікаў.

— З апошніх сіл змагаемся, — за ўсіх адказаў Міхась Галуза.

— З чым? — азадачыла кіраўніка.

— Да паўдзёння— з голадам, а пасля абеду — са сном.

### Сакрэт яйканоскасці

— Курэй — плойма, а толку — ні-ні, — скардзіцца Ахрэм. — Як завязала злыдням.

— А мае засыпаюць яйкамі, — хавае Міхась Галуза ў вусах усмешку.

— Цяпер? Сярод зімы?

— Круглы год.

— Якім чынам?

— Як ускіну над каторай сякеру — па два штукі за раз нясе.

### Клопат

Ляжала, ляжала расхварэлая, сцішаная Пёкла ды і схамянулася, загадала мужу:

— Перавесь, Пятруська, ніжэй паліцу.

— Дзеля чаго? — узняў гаспадар брыво.

— Як сканаю, дык каб твая ўхажорка Уліта да гладышоў дацягвалася.

### Абдзеленыя

Пасля замежнага эратычнага фільма.

— Няўжо і сапраўды ё дзе на свеце шалёнае каханне? — уздыхнуў Саўка.

— Відно ж, — панура адказаў Пятро.

— Эх, абдзяліла нас жыццё! За ўвесь век не падвярнулася мне, апроч маёй лахудры, ніводнай талковай бабы! — махнуў рукой Саўка.

### Здарожыўся

Брыў Шымановіч з магазіна. Ківаўся ўправа, улева. Заўважыў Хведара Шпака, які плазма нерухоміў узбоч сцяжыны.

— Го, бы міністр той расцягнуўся! Пасунься, падла! — штурхануў нагой. — Можа ж, і я здарожыўся, і я хачу паляжаць.

### Гарадская нявестка

— Мамаша, ці не пачаставалі б вы мяне смятанкай? Вочань люблю дзеравенскую.

— Дык няма, дочачка. Кароўка мая запусцілася.

— То дайце хоць малачка.

### Першы і апошні

Прыняў Хведар Шпак чарку і расчуліўся — узяўся распякаць жонку:

— Хопіць! Надакучыла мучыцца. Засілюся ці атручуся! Даканалі твае згрызоты. Не памятаю, калі ты смяялася апошні раз.

— На першы дзень пасля нашага вяселля.

### Дазвол

Падкінула Саўку дачка ўнука.

— Дзед, ці можна тэлевізар паглядзець? — просіць хлапчук.

— Глядзі, толькі не ўключай, бо сапсуеш.

### Непаразуменне

Сядзіць Андрэй пад слівінай і лазовымі пруткамі падплятае прарашэчаны кош.

— Ведаеш, даражэнькі, — з-за вугла вынырвае і таемна шэпча яму жонка, — а ў нас хутка нехтачка паявіцца!

— Зацяжарыла?! — падгупвае муж. — Радзіць намысліла ў свае пяцьдзесят шэсць?! Ці не з глузду, баба, з'ехала?

— Цю, дурань стары! Во ўдумаў! Ты ж не спец ужо, — стрымана смяецца жанчына. — Я хацела сказаць, што не сёння-заўтра дачка ці сын прыкоцяць.

— Чаго б гэта?

— Пенсіі нашы паштарка прынесла.

# Суфлёр

## ПАДКАЗКІ—АНОНСЫ—ПАРАДЫ АД "ЛіМа"

**ВЫСТАВЫ**

Да *30 сакавіка* — у Музеі сучаснага мастацтва яшчэ можна наведаць фотавыставы "Аўтапартрэт на фоне Вільні" Дзяніса Раманюка і збор фотаздымкаў Міколы Бацвінніка.

Да *31 сакавіка*— у Музеі скульптуры імя Бембеля працуе выстава работ жанчын-сябраў Саюза мастакоў.

*З 20 сакавіка па 8 красавіка* — у Нацыянальнай бібліятэцы выстава твораў Ірыны Кузняцовай "Калыханка для сонца".

*З 23 сакавіка па 20 траўня* — у Музеі сучаснай беларускай літаратуры выстава керамічнай пластыкі Міколы Пушкара.

**КАНЦЭРТЫ**

*1 і 7 красавіка* — спачатку ў кобрынскім Летнім тэатры і ў ДК "Сукно" будуць граць леташнія рок-каралі — НРМ. У Мінску на канцэрце будзе наладжана выстава-продаж атрыбутыкі гурта і асабістых рэчаў музыкаў.

*1 красавіка* — у Рэспубліканскім тэатры беларускай драматургіі пераможца Рок-каранацыі-2000 у намінацыі "Адкрыццё года" гурт "Без білета" прэзентуе альбом "На неба".

*10 красавіка* — у к/з "Мінск" песні з "Народнага альбома".

**У ДОМЕ ЛІТАРАТАРА**

*10 красавіка, 18.00,* Вялікая зала. "Экалогія душы і прыроды". Вечарына кампазітара-выканаўцы песень і балад Ігара Добрага.

*11 красавіка, 15.00,*Бібліятэка СБП. Літаратурная сустрэча з маладымі паэтамі са Случчыны.

*11 красавіка.* Пасяджэнне ваенна-шэфскай камісіі:

а) святкаванне Дня Перамогі ў Доме літаратара;

б) абмеркаванне мерапрыемстваў, прысвечаных 60-годдзю пачатку Вялікай Айчыннай вайны.

*12 красавіка,* бібліятэка СБП. Літаратурная сустрэча да 60-годдзя Валерыя Масаленкі.

*20 красавіка, 18.00,* канферэнц-зала. Вечар эратычнай паэзіі. Бюро секцыі паэзіі сумесна з Польскім гуманітарным клубам "Дах".

*27 красавіка, 15.00,*канферэнц-зала. Пасяджэнне Бюро секцыі паэзіі.

*27 красавіка, 15.00.* Пасяджэнне Бюро секцыі нарыса і публіцыстыкі.

*27 красавіка.* Да 65-годдзя Анатоля Кудраўца. Літаратурная юбілейная сустрэча на радзіме пісьменніка.



Фота Ул. КАГУЦЕНКІ

# ПАРОДЫІ

Анатоль ЗЭКАЎ

### Ау, дзяўчаты?

Дзе ты сягоння, каханая,
Мною адкрытая,
Іншым забраная?

Мікола МАЛЯЎКА

***Як пляшкі на вяселлі сват***
***(Хоць і ў гадах, ды не стаміўся),***
***Я адкрываў штоноч дзяўчат,***
***Пакуль на жонцы не спыніўся.***

***А тых дзяўчат, што я адкрыў,***
***Забралі іншыя, і зараз***
***Гукаю я, нібы ў бары:***
***Дзе вы, Наташы і Тамары?***

***Гукаю ўсіх, каго кахаць***
***Я мусіў у гады юнацтва,***
***Ды толькі краю не відаць,***
***Як і да ўсіх не дагукацца.***

### Ва ўсім ты...

Ва ўсім ты: ў песнях салаўя,
у водары, у красках мая...

Васіль ЖУКОВІЧ

***Куды не кіну вокам толькі —***
***не абмінуць цябе паглядам.***
***Ты ў тонкіх яблыневых гольках***
***і ў гнуткім голлі вінаградным.***

***Ва ўсім ты: у вадзе і глебе,***
***у цёмным лесе, росным лузе.***
***То зорачкай зіхціш на небе,***
***то бруднай плямай на абрусе.***

***Свет на табе сышоўся клінам.***
***Ты ў кожным паху, кожным гуку.***
***То джаліш хабаткам пчаліным,***
***а то шыпіш, нібы гадзюка.***

***Крадком мне ад цябе, назола,***
***не выпіць нават самагонкі.***
***Ты наступіла мне на горла***
***і ўжо сядзіш даўно ў пячонках.***

Павел САКОВІЧ

### Ураўнаважана разважыў

Усё ураўнаважана выдатна:
Чагось няма — чагосьці
вельмі шмат...
Няма кахання —
ёсць савакупленне.
Няма паэзіі —
ёсць хэнць балбатуна...

Уладзімір ПАПКОВІЧ

***Ва ўсім баланс і раўнавага.***
***Здаўна усталяваўся гэткі лад:***
***Няма павагі — ёсць знявага,***
***Няма паэзіі — паэтаў шмат.***

***Няма кахання —***
***ёсць савакупленне —***
***Не даражыць любоўю грэшны люд.***
***О дай мне, Бог, крыху натхнення:***
***Я вершам чыстым, як маленне,***
***Звяду пад старасць ненавісны блуд!***

Уладзімір ЕРМАЛАЕЎ

### Легкадумнасць

***З хмызнякоў лясных***
***на сцежку***
***Цягне Вожык Сыраежку.***
***Пень бурчыць:***
***— Не будзе толку:***
***Здуру села на іголку.***

### Няма таго...

***Маліўся зранку дзед,***
***ледзь не разбіў чало.***
***—Дай, Божа, на абед***
***"...таго,***
***што раньш было".***





ЗАСНАВАЛЬНІКІ

**Саюз беларускіх пісьменнікаў; рэдакцыя газеты "Літаратура і мастацтва"**

**ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА**





**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**

**220005, Мінск, вул. Захарава, 19**

**ТЭЛЕФОНЫ:**

| | |
|---|---|
| прыёмная рэдакцыі — | 284-8461 |
| намеснікі галоўнага рэдактара — | 284-8525, 284-7985 |
| АДДЗЕЛЫ: | |
| публіцыстыкі — | 284-8204 |
| пісьмаў і грамадскай думкі — | 284-7985 |
| літаратурнага жыцця — | 284-8462 |
| крытыкі і бібліяграфіі — | 284-7985 |
| паэзіі і прозы — | 284-8204 |
| музыкі — | 284-8153 |
| тэатра, кіно і тэлебачання — | 284-8153 |
| выяўленчага мастацтва, аховы помнікаў — | 284-8462 |
| навін — | 284-8462 |
| мастацкага афармлення — | 284-8204 |
| фотакарэспандэнт — | 284-8462 |
| бухгалтэрыя — | 284-8462 |





**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку" (г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 77)

Індэкс 63856
Наклад 2865
Нумар падпісаны ў друк 29.3.2001 г. у 17.30

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 715

Заказ 1800

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12